

**Рашаючы ўдар.**

Фото Г. Стэфанскага (са здымкаў, прысланых на конкурс).

---

На першай старонцы вокладкі: **Насустрач Усебеларускаму фестывалю моладзі. Група ўдзельнікаў самадзейнасці горада Слоніма ў касцюмах, пашытых для выступлення на фестывалі.** Злева направа: першы рад — **Валя Светлік, Віця Кардзюкоў і Галя Лук'янава;** другі рад — **Валеры Дзядзечкін, Віктар Рынга і Сцяпан Струкавец.**

На чацвёртай старонцы вокладкі: **Пасля школы.**

Фото А. Дзітлава.

# 4000 км па цаліне

Свой чарговы адпачынак калектыў Беларускага тэатра юнага гледача вырашыў правесці разам з працаўнікамі цалінных зямель Казахстана.

Для сваіх гастролей тэатр падрыхтаваў спектакль «Твой шлях» В. Розава і канцэртную праграму, прысвечаную працаўнікам цаліны.

Каля 4 000 кіламетраў прайшоў наш аўтобус па неабсяжнай прасторы і пыльных дарогах Кустанайшчыны. І ўсюды, дзе мы ні праязджалі, — бачылі цудоўныя ўраджаі.

45 канцэртаў паказалі мы ў часе сваіх гастролей. На гэтых канцэртах пабывала 26 тысяч гледачоў. А колькі было хвалюючых сустрэч!.. Гэтыя сустрэчы надоўга застануцца ў нашых сэрцах. Іх немагчыма забыць: яны былі ў клубах соўгасаў, на новабудоўлях, на палявых станах, у брыгадах, зерняскладах, на таках, пляцоўках аўтамашын і проста ў полі, каля камбайна. Адным словам, усюды, дзе былі гледачы, у любых умовах мы роўна праз 15 хвілін устанаўлівалі сваю паходную сцэну і пачыналі канцэрт.

Наша першае выступленне адбылося ў прыгарадным соўгасе «Сакалоўскі», які знаходзіцца ў 50 кіламетрах ад абласнога цэнтра. Канцэрт быў у клубе, які мог змясціць 200 чалавек, а гледачоў сабралася каля 400 чалавек. Нам давялося паўтарыць нашу праграму, каб задаволіць усіх гледачоў.

Кустанайская зямля багата не толькі сваімі ўраджаямі, але і невычарпальнымі запасамі жалезнай руды, каменным вугалем, торфам і нават золатам. Тут у 6-й пяцігодцы будзе пабудаваны новы горад «Рудстрой». Ужо ў канцы 1956 года Сакалоўска-Сарбайскі горны камбінат дасць краіне першую руду. Гэтым піянерам — будаўнікам новага горада, якія жывуць яшчэ самі ў палатках, мы паказалі свой другі канцэрт.

«Як пройдзе гэты канцэрт?» — хвалявала ўвесь калектыў нашай брыгады, бо нас сабралася глядзець каля 2 тысяч навасёлаў.

Пад кіраўніцтвам комсорга і прараба Вані Паскавацкага была хутка пабудавана сцэна на двух сямітонных машынах.

Канцэрт пачаўся. Пасля выступлення хору, які выканаў «Цалінную», «Нёман» і жартоўную беларускую песню «Янка», мы адчулі нейкую асаблівую цеплыню, якая ішла ад гледачоў гэтага незвычайнага горада палатак.

Так пачаліся нашы першыя гастролі ў Кустанайскай вобласці.

Наш аўтобус імчыцца па шматлікіх дарогах цаліннага края. 260 мільёнаў пудоў збожжа здаюць кустанайцы дзяржаве. У вобласці адных толькі новых соўгасаў 132! Гэта амаль палова ўсіх цалінных соўгасаў, створаных у апошнія гады ў Казахстане.

З асаблівай цікавасцю мы чакалі сустрэчы з рабочымі соўгаса «Мінск».

Соўгас «Мінск» раскінуўся на беразе маляўнічага возера Балакты. На яго сядзібе красуецца ўжо каля 60 домікаў, клуб, бальніца, школа, бібліятэка, свой радыёвузел. З двух бакоў соўгаса раскінуліся маленькія кучаравыя бярозкі і ёлкі, якія напамінаюць нам аб роднай Беларусі.

Прыехалі мы ў соўгас «Мінск» надвячоркам. Падвёў дождж, які прымусіў буксаваць наш аўтобус па незнаёмых дарогах. Але канцэрт усё-ж не сарваўся. Клуб соўгаса быў перапоўнены беларусамі, украінцамі, студэнтамі з Грузіі. Гарачымі апладысментамі сустрэлі яны вершы Якуба Коласа, Аркадзя Куляшова, беларускія песні і танцы. Аднак трапілі на наш канцэрт









На здымках (зверху ўніз): Салісты выступаюць перад навасёламі. Бывалі выпадкі, што артысты вылазілі з машыны, каб выцягнуць яе з гразі. Танцоры выступаюць проста ў стэпу. На цаліне сустракаліся і такія «землякі», як магутны самазвал Мінскага аўтазавода.

Фото Н. Ручымскага.


Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання IV.

Кастрычнік.

№ 10 (43).

1956.

далёка не ўсе, і мы па просьбе сваіх землякоў паўтарылі яго на другі дзень у палявым стане першай брыгады.

Наша падарожжа ідзе на поўдзень Карасускага раёна. Гэта самы поўднёвы раён Кустанайскай вобласці, які адным з першых у вобласці прыступіў да ўборкі ўраджаю.

Жніво ў разгары. Куды ні кінеш вокам — усюды па неабсяжных прасторах пшаніцы плывуць, нібы караблі, камбайны. На дапамогу ім ідуць усё новыя і новыя атрады камбайнаў. Ідуць з Кубані, Растова, Украіны, каб дапамагчы сваім братам хутчэй убраць шчодры ўраджай, узрошчаны на цаліне.

Вось мы ў самым маладым соўгасе раёна «Паўлаўскім». Яшчэ толькі два гады таму назад тут навасёлы з Беларусі, Украіны, Масквы паставілі першы слуп, на якім было напісана два словы: «Соўгас Паўлаўскі», потым збудаваліся першыя зямлянкі. Зараз у Паўлаўску каля 80 будынкаў, прыгожых, утульных, у вокнах якіх ярка зззе электрычнае святло. На палях іх небывалы ўраджай: 38 тысяч гектараў адной пшаніцы. У наступленне на залацісты масіў яе выйшлі 104 камбайны.

— Хоць сёння нядзеля, — гаворыць з радаснай усмешкай парторг Міхаіл Іванавіч, — але паўлаўцы не адпачываюць. Таму мы ваш канцэрт просім перанесці з клуба ў поле, у другую брыгаду.

Гэтую прапанову мы прынялі з радасцю. Канцэрт прайшоў з вялікім поспехам, нас прасілі паўтарыць беларускія песні — праспяваць «Вечарынку ў калгасе», станцаваць «Юрачку», «Лявоніху». Асабліва сардэчна сустрэлі нас земляні. Усяго ў соўгасе працуе 272 беларусы. Нам вельмі радасна было пачуць, што сярод перадавых людзей соўгаса ў першых радах барацьбітоў за новы ўраджай стаяць нашы земляні — беларусы: камбайнеры і трактарысты — Уладзімір Няхай, Марыя Салаўёва, Пётр Храмецкі.

Канцэрт закончаны. Пад гул матораў трактараў і машын гледачы, усхваляваныя і радасныя, раз'язджаюцца на працу. На развітанне некаторыя перадаюць нам пісьмы, просяць прыслаць ім творы беларускіх пісьменнікаў: Я. Купалы, Я. Коласа, К. Краპівы. Цёпла і сардэчна развітаўшыся з паўлаўцамі, мы едзем у наступныя соўгасы.

Тэатр выступаў з канцэртамі ў студэнтаў, рабочых, шафёраў, якія прыехалі з Масквы, Ленінграда, Свярдлоўска, Кіева, Смаленска, Львова на дапамогу кустанайцам убіраць новы ўраджай. У Кустанаі можна сустрэць не толькі маладых патрыётаў з усяго Савецкага Саюза, але і з краін народнай дэмакратыі. Надоўга ў нашым сэрцы застанецца цёплая братэрская сустрэча з моладдзю балгарскай ударнай брыгады імя Хрысто Боцева ў соўгасе імя Багдана Хмяльніцкага. З якой уважлівасцю і цікавасцю яны слухалі нашы беларускія песні, вершы Маякоўскага, вершы беларускіх паэтаў. А пасля канцэрта нашы новыя сябры паказалі нам сваю самадзейнасць. Гэта быў сапраўды «канцэрт дружбы».

Наш аўтобус уже ведаюць. І затрымліваюць у кожным соўгасе і калгасе, праз які мы праязджаем, просяць застацца «хоць на гадзінку і выступіць з канцэртам: «У нас таксама ёсць беларусы!»

У абкам комсамола з многіх соўгасаў і МТС ідуць пісьмы з просьбамі і патрабаваннямі «прысланць да нас беларускіх артыстаў».

Сустрэчы калектыву тэатра з працаўнікамі цаліны ўзбагацілі нас новымі творчымі матэрыяламі, жыццёвымі назіраннямі, якія дапамогуць нам стварыць новы спектакль, прысвечаны слаўным патрыётам цалінных земель. Такім спектаклем будзе пастаноўка па п'есе драматургаў Анава і Штэйна «Па закліку сэрца», якую мы пакажам мінскім гледачам у дні XXXIX гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

**А. ПАТАПОВІЧ.**

# СОНЦА НАД СОПКАМІ



Уладзімір ВАСІЛЕЎСКІ

Вячэрняе паветра было празрыста-чыстае. Зямля, умытая дажджом, аж паравала. У пасёлку на беразе мора паступова ўсталёўвалася цішыня, звычайная для гэтага часу, калі стомленыя рыбакі вяртаюцца дадому, а некаторыя рыхтуюцца да начнога лову.

Спяшаўся да пірса і Віктар Міхалёў. Сёння ён выходзіць у мора на акіянскім сейнеры з ласкавай і незразумелай назвай «Алонка». Ужо некалькі месяцаў юнак жыве ў далёкім пасёлку на беразе Татарскага праліва, а ўсё ніяк не прывыкне да новага месца. Яму ўсё здаецца, што ён ходзіць па вуліцах роднай прыдняпроўскай вёскі, чуе любімую, шырокую, як палявы прастор, песню пра вярбу і дзяўчыну, якая гуляе ў полі. Тутэжа гэтакія, як і дома, рубленыя хаты, гэтак-жа пад вокнамі ў гародчыках цвіце мак, а пад нагамі гэтак-жа, як і дома, шуршыць пясок.

Вось толькі мора. Яно заўсёды новае, не падобнае на ўчарашняе. У звычайны дзень вада ў ім мае тры колеры. Паблізу берага — светлазялёны, далей, дзе дыбяцца хвалі, — сіні, а ля самага небасхілу — шэры, ад якога, здаецца, ідзе белаваты дымок. Цяпер-жа мора цёмнае, яно цяжка дыхае, нібы той стомлены рыбак, і ніяк не можа супакоіцца, заснуць.

— Усё гатова да выхаду, — сустрэў Віктара на борце сейнера яго таварыш Міхаіл Яфрэменка. — Чаму забавіўся?

Адразу-ж пачуліся словы капітана:

— Міхалёў, заступайце на вахту. На месцы, таварышы! З якара здымацца!

Роўна загрукатаў матор. Цёмны бераг пачаў павольна аддаляцца, насустрач паплылі мігатлівыя агеньчыкі маяка.

Круцячы рулявое кола, Віктар Міхалёў раз-по-разу пазіраў на прымацаваны перад яго вачыма компас. Сейнер трымаў курс на траверс Белакаменкі, дзе былі выяўлены касякі селядцоў. Для «Алонкі» гэта быў не звычайны рэйс — улоў за гэты рэйс павінен пайсці ў лік будучага года.

Міхалёў адчуваў нейкі ўнутраны ўздым. Справу тут, на Сахаліне, вунь колькі! Працалюбівыя рукі ўсюды патрэбны. Ён, Віктар Міхалёў, і яго сябра Міхаіл Яфрэменка маглі-б пайсці ў лясную прамысловасць. Праца знаёмая, ды і лясоў на Сахаліне безліч. Не дарма-ж вострау завуць гіганцкай фабрыкай паперы. Па сплаўных рэках, па чыгунках на акіянскіх параходах ідзе прадукцыя лясной і папяровай прамысловасці Сахаліна ва ўсе канцы краіны.

Маглі-б пайсці хлопцы і ў нафтавую прамысловасць. Шматлікія шчыліны даюць Радзіме сотні тысяч тон вадкага паліва. Усё далей і далей ад Охі разыходзяцца па няходжанай векавой тайзе нафтавыя вышкі.

Сахалінская вобласць перажывае зараз нечуваны ўздым ва ўсіх галінах прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Будуюцца і рэканструююцца вугальныя шахты, новыя прадпрыемствы, асвойваюцца масівы цалінных земель, растуць гарады і сёлы. І ўсюды патрэбны людзі, якія не баяцца цяжкасцей, упартыя і энергічныя энтузіясты асваення багаццяў аддаленых раёнаў краіны.

Але Віктар з Міхаілам пайшлі ў рыбаздабываючы флот, бо іх сюды заклікаў комсамол, уручыў ім пуцёўкі. Рыбная прамысловасць з'яўляецца галоўным напрамкам сахалінскай эканомікі. Даволі сказаць, што адных толькі селядцоў у сахалінскіх водах можна здабыць чвэрць усяго сусветнага ўлову іх. І яшчэ таму, што мора любіць дужых і смелых.

Віктар Міхалёў стаяў на рулявой вахце. А ў гэты час на борце ішла напружаная работа: каманда рыхтавала прылады лову.

Акіянскі сейнер — судно з выгляду невялікае, але гаспадарка яго складаная. У першы час Віктар з Міхаілам нават разгубіліся перад гэтай складанасцю. Боцман падае каманду: «Патраві строй», а яны нават не ведаюць, што гэта за «строй».

У тыя дні каманда сейнера рыхтавалася да выхаду ў мора. А навічкі нічога не ўмелі рабіць. Трэба было іх вучыць. Фёдар Кузьміч Селюцін — капітан «Алонкі» — незадаволена моршчыўся. Але бачачы, што комсамольцы ўпарта бяруцца за работу, ён неяк святлеў, відаць, думаючы: «Хопіць пораху, каб прайсці з гонарам суровую марскую школу».

Першым настаўнікам навічкоў стаў боцман Іван Паршын, які ўзяўся навучыць хлопцаў складанай рыбацкай справе. Вучоба ішла хутка. Ды і час не цярпеў, з дня



Уверсе: Рыбалавецкія судны выходзяць у мора.

Унізе: Усё далей у тайгу прасоўваюцца нафтавыя вышкі.

на дзень павінна была пачацца селядцовая пуціна. Другі памочнік капітана комсорг экіпажа Мікалай Фаменка і старшы памочнік Анатоль Іваноў вучылі маладых маракоў несці вахту на рулі. А пасля вахт і суднавых работ хлопцы спяшаліся ў цэх пашыву прылад лову, дзе яны вучыліся абыходзіцца з сецямі і рознымі рыбацкімі снасцямі.

Ніколі не забудзецца дзень, калі «Алонка» выйшла ў мора. Упершыню адчулі навічкі, як узнымаецца пад нагамі палуба сейнера, які імкліва рэжа марскія хвалі. Судно, якое робіць пошукі, вывела «Алонку» на касяк селядцоў. І вось у капітанскую гадзіну па ўсіх суднах актыўнага лову было перададзена паведамленне:

— Увага! Увага! Акіянскі сейнер «Алонка» ўпершыню ў пуціну сёлетняга года сярод сахалінцаў узяў буйны ўлоў — больш 500 цэнтнераў селядца.

Віктар і Міхаіл, занятыя на разгрузцы рыбы, таксама слухалі гэтае паведамленне. Бачачы, як суцэльнымі патокамі ішла рыба па насосах рыбакамбіната, яны ганарыліся, што бралі ўдзел у такой багатай здабычы.

Аднак у юнакоў было адчуванне, што іх рыбацкае хрышчэнне яшчэ ўперадзе, і кожны рыхтаваўся да яго.

Зноў маленькае судно ў моры. Прайшлі гадзіны вахты Віктара, яго змяніў Міхаіл. Мора нібы чаго нервавалася. У вушах звінела, і цяжка было пачуць словы каманды. Хвалі шыпелі, лезлі на сейнер, перакатваліся праз палубу. Наперадзе распасціралася непраглядная начная імгла.

— Бачу касяк справа па борце, — чуўся голас капітана. — На карме падрыхтавацца! Разварот!

Сейнер здрыгануўся ўсім корпусам і рынуўся направа, узнімаючы за сабой воблакі пырскаў. Усе рыбакі ў радасным адчуванні ўбачылі ў моры нешта белаватае — ішлі селядцы.

Падначальваючыся камандзе капітана, рыбакі апускалі сеці. Работа на борце кіпела. Віктар не адчуваў стомы. Стукала лябёдка, з-за борта пацягнуліся ніткі каната. У невадзе біліся тысячы рыб.

— Аднак штарміць, — сказаў нехта з рыбакоў.

Цяпер і Віктар убачыў, што мора змянілася. Падзьмуў рэзкі вецер, але не з мора, як раней, а з берага. Грабяні хваль грозна пеніліся. «Пачалося, — падумаў Віктар, — цяпер пакажы свой гарт, камсамолец».

А вецер усё мацнеў і неўзабаве дасягнуў адзінаццацібальнай сілы. Рыбацкае судзенца кідала, як трэску. Перагружаны сейнер цяжка ўспаўзаў на хвалі. Але ніхто нават і не падумаў, каб выгрузіць рыбу ў мора і тым самым аблегчыць судно, паскорыць яго ход. Вельмі-ж моцным было жаданне рыбакоў даставіць багаты ўлоў на рыбакамбінат.

Па загаду капітана маракі задраілі трум і люкі. Было прынята рашэнне дрэйфаваць.

— Можна адпачываць, — пажартаваў боцман. — Дома жонка не дае выспацца, а ў моры — работа.

Але Віктар з Міхаілам ды і ўсе рыбакі бачылі, што справа сур'ёзная, пахне бядой. А раптам не вытрымае машына? І жартуе Паршын толькі для таго, каб падбадзёрыць слабых. Міхаілу вельмі цяжка было ад марской качкі, але ён стараўся, каб гэтага ніхто не заўважыў.

— Адпампоўваць ваду з машыннага аддзялення! — распарадзіўся капітан.

— Трымайся, хлопча, — падбадзёрыў Віктар таварыша. — Успомні нашу ўмову — галаву не вешаць.

— Ды ўжо-ж, — азваўся Яфрэменка і ўзяўся за помпу.

Абодвум ім страшэнна хацелася ўпасці і заплюшчыць вочы, каб нічога не бачыць і не чуць. Толькі напружаннем волі яны перамагалі галавакружэнне.

Нешта загрымела на палубе. Рыбакі перакінуліся позіркамі.

— Зараз пагляджу, — сказаў Віктар.

Разам з ім пайшлі іншыя. І раптам вялізная хваля, што наляцела на сейнер, змыла Міхалёва за борт. Нейкая палка выцяла яго па галаве. Юнак страціў прытомнасць.

Апрытомнеў ён у кубрыку. Першае адчуванне, якое вярнулася да яго, было — чаму ў яго забінтавана галава. Потым яно змянілася сорамам. Хацеў паказаць сваё ўмельства і паказаў, чаго варты. Цяпер кпіць з яго будуць.

— Як адчуваеш? — схіліўся над ім Міхаіл. — Добра, што ў сецях заблытаўся, а то прапаў бы...

— Смяюцца? — паказаў вачыма на палубу Віктар.

— Сам пабачыш, — адказаў таварыш. — Час на вахту заступаць.

На мастку капітан сустрэў Віктара як звычай. Ён усміхнуўся і сказаў:

— Цяжкі марацкі хлеб, салёнай вадзіцай часам даводзіцца запіваць.

Але хто хоць раз яго ўкусіў, той назаўсёды мора палюбіць.

Міхалёў зразумеў: капітан пахваліў яго, павіншаваў з рыбацкім хрышчэннем.

Пад раніцу шторм сціх. Сейнер трымаў курс да Невельскага рыбакамбіната. Ужо добра быў відзён бераг. Над сопкамі палыхала чырвонае зарава. Узыходзіла сонца. Сонца над сопкамі — значыць, будзе добрае, трывалае надвор'е і рыбацкая ўдача.

«Алонка» ўвайшла ў коўш рыбакамбіната. Вялізныя хоботы рыбанасосаў накінуліся на падведзеныя да берага транспартныя мяшкі, прагна глытаючы селядцы, і рыба разам з вадою магутным струменем вылівалася ў рыбапрыёмны бункер. Віктар і Міхаіл стаялі на палубе. Пачынаўся рабочы дзень. У мора адыходзілі рыбалавецкія судны.

— Ты-ж мне нешта хацеў сказаць перад адплыццём, — успомніў Міхаіл.

— Разумееш, — адказаў Віктар, — калі ты сапраўдны чалавек, дык у жыцці ты будзеш рабіць тое, што зараз найбольш патрэбна.

Яны абодва разумелі, што нялёгкую сабе выбралі прафесію, але звярнуць з дарогі нельга, а цяпер іх дарога ў моры. Думалі яны і пра тое, што ўсім юнакам і дзяўчатам, якія па закліку партыі паехалі ў Сібір, на Усход, гэтак-жа нялёгка, як і ім, але на тое жыццё дадзена чалавеку, каб перамагаць цяжкасці. Юнакі былі ўпэўнены: стануць і яны такімі ўмелымі рыбакамі, як іх старэйшыя сябры.

А над сопкамі ўзышло сонца. Бераг і мора сустрэлі новы дзень. Ён пачынаўся адсюль — вялікі працоўны дзень нашай Радзімы.

**ВОСТРАЎ САХАЛІН.**



Рыба разам з вадой магутным струменем льецца ў рыбапрыёмны бункер.



У калгасе «Ціхаакіянская звязда» ідзе асваенне цалінных зямель.



Рыбаносная ўстаноўка рыхтуецца да выгрузкі рыбы.



Будынак Галоўсахалінрыбпрома ў Поўднёва-Сахалінску.

Фота аўтара.

# СТРАТА

**Васіль БЫКАЎ**

**Апавяданне**

Мал. Ф. Бараноўскага

— Матузка, а Матузка! Аглух ты, ці што?

Малады баец Матузка капаў свой акопчык. Ён углыбіўся ў зямлю так, што не відаць было нават аблезлай яго пілоткі і толькі высока ўгору ўзляталі гліністыя камякі зямлі. Але воклік прымусіў яго спыніць працу, і над брустверам паказаўся запэцканы зямлёю кірпаносы твар.

— Лейтэнант кліча, — сказаў вусаты сусед Піліпчук, які, пазваньваючы медалямі, акопваўся побач.

— Матузка! — гукаў лейтэнант, высунуўшыся з канавы ля дарогі. — Бягом за вёску, перадай Галкіну, каб у лес цераз лог не пусціў ніводнага фашыста. Сам пакуль застанешся з ім. Давай хутчэй!

Калі загадана, трэба бегчы. Баец пашкадаваў крыху сваё ўтульнае сховішча. Але што зробіш! Прыхапіўшы вінтоўку, ён спрытна выкінуў з акопчыка гнуткае цела і, шмыгнуўшы пад жэрдку паламанага плота, апынуўся ў гародзе.

Летняе сонца ў бясхмарным небе ўжо з раніцы набрала сілы і моцна паліла. Вялае бацвінне, якое не ачуняла за кароткую ноч, бяссільна ляжала на сухой зямлі, жоўклі і курчыліся на градах агурковыя калівы. Капуста і тая згарнула абмяклае лісце і зморшчылася, нібы састарэўшы да часу. Шморгаючы ў гароднíне загнутымі наскамі стаптаных ботаў, Матузка бег між градак і не азіраўся назад, дзе над выганам паспешліва акопваліся яго таварышы — байцы паходнай заставы.

Знарок, дзеля маскіроўкі, баец трымаўся гумен і гароду. Хутка яму трапілася сцяжынка, якая вілася ля саду. Цераз паркан на абцяжараных галінах звісалі буйныя не даспелыя яшчэ яблыкі. Хлопец, па-дзіцячаму азірнуўшыся, на бягу сарваў адзін і паімчаў далей. Рухавасці ў яго хапала, хутка неслі ногі, і заўзята, без роздуму, сігаў ён цераз высокія платы і драцяныя загароды. Першае самастойнае баявое заданне было прычынай яго незвычайнай энергіі і спрыту. Хоць Матузка і не адзін тыдзень на вайне, але неяк здаралася ўсё так, што яму не давялося быць у баі: усё выпадаў рэзерв, або марш, ці другі эшалон. Толькі вось сёння, здаецца, будзе сапраўдны бой.

Так па задворках і гародах Матузка амаль ужо мінаў вёсачку. Захоплены ўласным спрытам і жвавасцю, хлопец на час забыўся пра пагрозлівыя абставіны. Таму зусім нечакана для яго ўгары заверашчэла нешта страшнае і ніколі не чутае, і ўслед за тым, страсануўшы наваколле, грымнулі тры выбухі. Якраз у тым кірунку, дзе трэба было бегчы байцу, у адно імгненне знесла саламяную страху з хаты. У паветры, ускінутыя выбухам, мільганулі кроквы, шматкі саломы, кавалкі коміна, і ўсё знікла ў гушчары садкоў, толькі воблака пылу ціха паплыло ў блакітнае неба.

«Міны», — падумаў Матузка, услухоўваючыся, як халадзее на сэрцы, а праз момант здзівіўся, адчуўшы пад сваім целам цвёрдыя гаіністыя сцяблы бульбоўніка. Падаць на зямлю ён не меў намеру, а выйшла гэта неяк само сабою, неўпрыцям. Страшэнныя выбухі адразу развеялі лагодны настрой байца, але, каб не траціць часу і не напаткаць якой бяды, Матузка не стаў асабліва смуткаваць і яшчэ паскорыў бег.

Зрубленая з яловых верхавін, счарнелая ад дыму і часу старэнькая лазня, у якой шмат гадоў мыліся людзі гэтай вёскі, набыла цяпер новае значэнне. Яна служыла апорай непрыкрытага правага фланга, таго фланга, над якім павісла зараз пагроза абыходу і які асабліва непакоіў лейтэнанта. Гэта было глухое месца на водшыбе, пад самым лесам. Вакол лазні густа і згодна лезлі ўгару і ўшыркі быльнёг, дзядоўнік і іншая раслінная непатрэба, якой тады нямала развялося на спустошанай зямлі. Лясны маладняк таксама карыстаўся людской няўвагай і спакваля падступаў да лазні. Узмежак, што цягнуўся ад яе да лесу, ужо быў добра абжыты кустамі лазняку і алешнікам.

Матузка абыйшоў лазню, але Галкіна нідзе не ўбачыў. Тады ён прыслухаўся і пачуў

## МАЛАДЫЯ ГАЛАСЫ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Гродзенская вобласць багата літаратурнымі традыцыямі. Тут нарадзіліся і тварылі геніяльны польскі паэт Адам Міцкевіч, выдатная польская пісьменніца Эліза Ожэшка першая беларуская паэтэса Алаіза Цётка, тут у 1836 годзе нарадзіўся К. С. Каліноўскі — выдатны беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат, вучань і паслядоўнік вялікіх рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў. Тут пачалі сваю творчасць Піліп Пястрак, Максім Танк, Міхась Васілёк, Валянцін Таўлай.

Гэтыя багатыя традыцыі высока цэніць літаратурная моладзь. Ужо шэсць год пры рэдакцыі газеты «Гродзенская праўда» існуе абласное літаратурнае аб'яднанне. Асноўнае яго прызначэнне — выхаванне, фармаванне пачынаючых пісьменнікаў, дапамога маладым аўтарам у стварэнні поўнацэнных мастацкіх твораў.

У 1955 годзе вышаў зборнік вершаў П. Макаля «Першы след». Гэты невялікі зборнік з'яўляецца своеасаблівым дакументам аб жыццёвай дарозе аўтара. Многія вершы П. Макаля прасякнуты цеплынёй пачуццяў, любоўю да людзей працы. Можна смела сцвярджаць, што ў асобе маладога аўтара беларуская паэзія набыла здольнага лірыка.

Многа апавяданняў і нарысаў друкуе ў часопісах і газетах малады празаік А. Карпюк.

Вершы і апавяданні пачынаючых аўтараў сістэматычна друкуе абласная газета. Падрыхтаваны да друку альманах «Нёман». У ім будуць прадстаўлены творы 23 аўтараў. Альманах адкрывае аповесць А. Карпюка «Раманюкі». Аўтар паказвае гісторыю адной сям'і заходнебеларускай вёскі. Будуць надрукаваны таксама апавяданні журналіста В. Быкава.

Настаўніца сельскай школы Л. Усціменка выступае з п'есай «Залог шчасця», прысвечанай жыццю сельскіх настаўнікаў.

У раздзеле паэзіі выступяць П. Барэйка, М. Арочка, І. Юшчанка, Г. Шуценка, П. Макаль і другія. Амаль ва ўсіх вершах апяваецца наш сучаснік, актыўны будаўнік новага жыцця. Прыемнае ўражанне пакідае падборка баек Г. Цвятніцкага. Малады байкапісец удала карыстаецца традыцыйнай формай байкі для выкрыцця адмоўных з'яў і перажыткаў мінулага ў нашай рэчаіснасці.

У альманаху будзе апублікаваны шэраг нарысаў аб перадавіках прамысловасці і сельскай гаспадаркі вобласці. Выхад у свет альманаха з'явіцца нашай творчай справаздачай перад чытачамі вобласці.

Сёлета ў Гродна адбылася трэцяя абласная нарада маладых пісьменнікаў. Яна прайшла актыўна і ўнесла новы творчы струмень у жыццё літаратурнага аб'яднання. Будзем спадзявацца, што, няспынна працуючы над павышэннем свайго майстэрства, імкнучыся глыбока вывучыць і натхнёна адлюстраваць справы і дні савецкага чалавека, атрад маладых аўтараў Гродзеншчыны дасць сапраўдныя высокамастацкія і высокаідэйныя творы.

**А. САЛАУЁУ,**
старшыня бюро Гродзенскага абласнога
літаратурнага аб'еднання.

шамаценне галля, якім кулямётчык маскіраваў свой акоп на ўзмежку пад лазовым кустом. Ён ужо акапаўся і цяпер старанна хаваў сляды свежай гліны, рассыпанай наўкола. Хлопец працаваў распрануты, у прапацелай бруднай майцы, а гімнасцёрка ляжала пад дыскамі побач з кулямётам на брустверы. У паветры тым часам зноў завылі міны, і Матузка, не чакаючы запрашэння, скочыў у цесную ячэйку, якая ледзь змясціла дваіх. Некалькі здзіўлены кулямётчык не вельмі прыязна агледзеў нечаканага пасланца.

Галкін быў дужы і сур'ёзны хлопец, не на шмат старэйшы, але з выгляду значна мужнейшы за Матузку. Рысы яго твару вылучаліся той грубаватай буйнаватасцю, якая разам з некаторай панурасцю ў поглядзе рабіла яго старэйшым за свае гады. А свежы кірпаты твар Матузкі, на пераноссі засеяны рабаціннем, і тонкая постаць падлетка выдавалі яго надта маладым. Такім чынам, розніца ў выглядзе двух байцоў, зведзеных вайсковым лёсам, была даволі значнай.

З хваляваннем перадаўшы загад лейтэнанта, Матузка чакаў, што Галкін паскардзіцца на цяжар новай задачы. Аднак кулямётчык, выслухаўшы пасланца, флегматычна заўважыў, гледзячы ў далячынь:

— Вядома, не пускаць, а то абыйдуць.

Матузка, хоць і бачыў раней гэтага байца, але мала ведаў яго. Галкін служыў у кулямётным узводзе, трымаўся заўсёды сваіх хлопцаў і толькі ўчора быў перададзены стралкам для ўзмацнення галаўной паходнай заставы. Размаўляць-жа ім давялося зараз у першы раз, таму малады баец жадаў бліжэй пазнаёміцца з сваім часовым начальнікам.

Але Галкін маўчаў, і гэтая маўклівасць усё больш не падабалася Матузку. Ён пачаў здагадвацца, што кулямётчык сваёй негаварлівасцю хоча трымаць яго воддаль, маўкліва напамінаючы маладому салдату, што яму не час яшчэ раўняцца з ім. І сапраўды, Галкін, будучы ад прыроды чалавекам не вельмі лёгкім на слова, на гэты раз і зусім не меў жадання пачынаць размову. З раніцы сёння яго дапякала нейкая незразумелая трывога.

Ён ведаў, што з правага боку ад яго няма больш нікога, усе сілы паходнай заставы згрупаваны на тым баку вёскі. Праўда, дагэтуль тут было спакойна, гітлераўцы паказаліся недзе на левым флангу, спрабуючы, відаць, ударыць па дарозе. Але хто ведае іх сапраўдныя намеры, на вайне трэба быць асабліва пільным, каб не даць ашукаць сябе. І Галкін, ладзячы сабе гняздо, усё бачыў і ўсё прыкмячаў, што рабілася ў баку ворага.

Ад лазні на ўвесь прасцяг праглядалася няшырокая травяністая лагчына, якая падступала да вёскі. Справа ўздоўж лагчыны па адхону цягнуўся ельнік, зараснікамі шырокага ўзлеску амаль даходзячы да логу. Там, дзе палоска маладога алешніку спускалася ў нізіну, пэўна і паспрабуюць гітлераўцы пранікнуць у лес, каб абыйсці вёску з правага безабароннага боку. Кулямётчык ужо заўважыў у тым кірунку некалькі постацей, занятых невядома чым. І таму яму было зусім не да размоў.

Прыціснуўшыся да халаднаватай сцяны акопа, Матузка таксама пачаў углядацца ў гэты іх небяспечны ўчастак. Вінтоўку ён паклаў на бруствер побач з кулямётам, але калі за вёскай густа затрашчалі выстралы, баец схапіў яе і падцягнуў бліжэй да сябе. Галкін не зварухнуўся, схіліўшы крыху на бок галаву, ён прыслухоўваўся да гукаў бою і сіліўся зразумець па іх, што адбываецца ў вёсцы. На яго заклапочаным твары не шмат адбівалася думак, аднак ніводная праява яго пачуцця не заставалася непрыкмечанай яго напарнікам.

Тым часам страляніна ў вёсцы мацнела, і міны пачалі ірвацца часцей і бліжэй. Матузка ў акопе хоць і не вельмі баяўся, але, не ўмеючы яшчэ валодаць сабою, уздрыгваў пасля кожнага выбуху. Толькі ўпэўніўшыся, што міны не набліжаюцца больш да лазні, ён перастаў дрыжаць. Хлопец з радасцю адзначыў у сабе гэтую перамену і падумаў, што прывыкае.

Праз якую гадзіну бой за вёску пачаў сціхаць. Аўтаматы і вінтоўкі змоўклі, толькі кулямёты яшчэ пускалі доўгія чэргі па далёкіх цэлях. Відаць, першая атака гітлераўцам не ўдалася, і цяпер трэба было чакаць другой.

Трымаючы кулямётны прыклад ля пляча, Галкін не зводзіў вачэй з нізіны. І не дарма. Накапіўшыся ў раўчуку злева, гітлераўцы высыпалі ў нізіну і, выстройваючыся на хаду ў няроўны блытаны ланцуг, кінуліся да лесу. Галкін пачакаў, пакуль усе выцягнуцца на адкрытую мясцовасць, і пусціў доўгую чаргу.

Ад першых стрэлаў кулямёта Матузка ўздрыгнуў, мацней сціснуў сваю вінтоўку, але стрэліць не здолеў. У яго зашчаміла ў грудзях, млосць разлілася па целе. Цяпер толькі ён адчуў і зразумеў упершыню, што зараз вось пачалося тое, галоўнае, да чаго ён рыхтаваўся ўвесь гэты час. Узрушанасць была моцная, яна хваляй кацілася ў душы маладога салдата, але хутка і прайшла. Барацьба, у якую ўжо ўступіў юнак, патрабавала яго непасрэднага ўдзелу ў ёй, не лічачыся з настроем, і Матузка зразумеў гэта. Прыклаўшыся да вінтоўкі, ён убачыў ля мушкі многа фігур, маленькіх удалечыні, якія то ўзнікалі, то прападалі. Побач страляў кулямёт, і неяк у такт яго стрэлам, ці мо' ў такт сэрцу, сціснутаму ў грудзях, ва ўсе бакі хадзіў ствол вінтоўкі, не даючы прыцэліцца. І ўсё-ж Матузка выбраў момант, зацяў дыханне і стрэліў. Потым яшчэ і яшчэ.

Нечакана сустрэтыя кулямётным агнём з фланга, гітлераўцы спачатку хутчэй кінуліся наперад, а потым прыцішылі бег. Многія з іх пападалі на лугавіну, іншыя, зняшаўшыся, пачалі бязладна бегчы назад у раўчук, адкуль толькі што выйшлі. Наўздагон ім Галкін апаражніў дыск і вылаяўся, не стрымаўшы злоснай радасці.

Матузка ўслед за кулямётчыкам з прыкметнай неахвотай паклаў на бруствер вінтоўку. На яго твары ззяла такое шчырае захапленне першым поспехам, што Галкін не ўтрымаўся ад усмешкі і, мімаволі паддаючыся настрою памочніка, амаль весела запытаў:

— Ну, як?

— Адбілі, — проста адказаў Матузка.

Галкін выцер пілоткай узмакрэлы лоб і, нібы скінуўшы з плячэй які цяжар, зморана ўздыхнуў.

— Нічога, братка, — цёпла сказаў ён, адгукваючыся, відаць, на нейкія свае думкі. — Як-небудзь. Давай папоўнім дыскі.

Ён узяў з-пад ног рэчавы мяшок, наладаваны патронамі, і развязаў лямкі.

— Патронаў, здаецца, хопіць, а вось хлебца няма. Прыдзецца пакуль патрываць.

— У мяне ёсць крыху, — азваўся Матузка, узрадаваўшыся, што чым-небудзь можа ўслужыць старэйшаму таварышу.

— Давай тады заадно падмацуем і жываты, каб даўжэй жылося. Цябе як завуць?

— Мікалай, — паведаміў Матузка.

— А мяне Змітрок.

Матузка выняў з кішэні загорнуты ў паперу кавалак усохлага хлеба, разламаў надвая і большую палову аддаў таварышу. У гэты час ён быў перакананы, што Галкін зусім нядрэнны хлопец, з ім можна сябраваць, і пашкадаваў, што яны не пазнаёміліся раней. А Галкін, смачна хрумстаючы яблык з хлебам, піхаў у дыск патроны і думаў, што з маладога байца, пэўна, будзе толк.

Так яны паснедалі несамавітым харчам, павесялелі ў адносінах між сабой і, задаволеныя добрым пачаткам справы, здаецца, мала цікавіліся, што яшчэ чакае іх.

* * *

Апоўдні над вёскай і полем запанавала нудная цішыня. Прасторы, разmoраныя спёкай, ціха драмалі, адпачываючы ад шматгадзінных трывог барацьбы, ахапіўшай наваколле.

Галкін і Матузка ў дзве пары вачэй сачылі за логам, каб у час заўважыць новыя спробы немцаў абыйсці вёску. Але ў нізіне і ў полі было зусім пуста. Ніводнай жывой істоты, ніводнага руху не назіралася ўдалечыні, толькі над чаротам дрыжэла гарачае марыва — на добрае надвор'е.

Можна было меркаваць, што немцы кінулі намер авалодаць вёскай і адыйшлі на іншы рубеж ці змянілі кірунак наступлення. Аднак да хлопцаў ніхто не прыходзіў, і Галкін, як баец з вопытам, ведаў, што трэба выконваць ранейшы загад.

Разам са спакоем прыйшлі новыя клопаты. Пасля сухога сняданку нясцерпна хацелася піць, а спёка яшчэ больш узмацняла смагу. Нейкі час хлопцы моўчкі змагаліся з ёю, але, нарэшце, Галкін не вытрымаў.

— Ты з кулямёта страляць умееш? — запытаў ён у таварыша.

— Ага.

— Тады папільнуй тут, а я пашукаю вады.

Ён дастаў з рэчавага мяшка пагнуты абдзёрты кацялок і непаспешлівай хадою дужага чалавека падаўся за лазню.

Застаўшыся гаспадаром у акопе, Матузка агледзеў дыскі, пацікавіўся, які прыцэл стаіць на калодцы і, паклаўшы палец на спуск, прымерыўся да кулямёта. Ён адчуваў сябе рашучым і моцным у гэты час, і на момант у яго нават з'явілася жаданне, каб у лагу паказаліся немцы. Ён-бы задаў ім перцу! Толькі да звароту Галкіна нічога не здарылася, Матузка ўволю напіўся смачнай сцюдзёнай вады, а рэшту паставіў пад куст, каб не грэлася на сонцапёку.

Сонца пасунулася ў небе і павярнула цень ад куста, які дагэтуль крыху хаваў іх. Стала вельмі горача, і Матузка, пазіраючы на рудыя плечы сябра, параіў:

— Ты адзеўся-б, а то спячэшся.

Галкін паслухаў і, пераклаўшы дыскі на лапуховы ліст, апрануў сваю заношаную і засаленую гімнасцёрку з двума медалямі «За адвагу».

Уладкаваўшы свае справы, хлопцы зноў сталі пільнаваць лог.

Галкін, мала адпачыўшы ноччу і зморана напружаннем раніцы, адразу закляваў носам, стоячы за кулямётам. Не давяраючы яшчэ аднаму Матузку, ён імкнуўся назіраць сам, але ў ваччу непрыкметна наплываў туман, галава марудна хілілася долу і павісала, амаль кранаючыся зямлі. Тады кулямётчык усхапляўся і як мага шырэй расплюшчваў пачырванелыя вочы. Аднак праз хвіліну цішыня, зморанасць і спёка зноў бралі сваё.

Матузка трымаўся больш бадзёра. Хоць і на яго дзейнічала нерухомасць і спакой у полі, але ён не думаў аб адпачынку. Наадварот, бачачы, які зморaны таварыш, ён яшчэ пільней у соты раз аглядаў поле, якое вывучыў ужо да драбніц.

Так прайшло некалькі расцягнутых бяздзейнасцю гадзін, і ў поўдзённай цішыні выспела нарыхтаваная ворагам бяда.

Спачатку ні Галкін, ні Матузка не звярнулі ўвагі на тое, што дзесьці за лесам нібы чмыхнула нешта раз і другі. Гукі гэтыя былі слабыя










**Наш звышхуткасны самалёт зноў у палёце. На гэты раз мы мінаем еўрапейскі кантынент, Міжземнае мора. Афрыка. Ніл. Тут, у даліне гэтай поўнаводнай ракі, шмат стагоддзяў назад утварыўся самабытны ачаг культуры. Рэшткі даўніх збудаванняў яшчэ і цяпер прыводзяць людзей у захапленне. Таленавіты, працалюбівы егіпецкі народ. І нават тады, калі Егіпет стаў калоніяй, яго народ працягваў стварацъ найвялікшыя каштоўнасці. Гэта рукамі егіпецкага народа, на яго тэрыторыі быў выкапаны Суэцкі канал. Але ўсе прыбыткі ад канала, як і сам канал, прысвоіла кучка імперыялістаў.**

**Ідучы насустрач пажаданням народа, урад Егіпта нацыяналізаваў Суэцкі канал. Паглядзіце на здымку, як радуецца егіпецкі народ вестцы аб нацыяналізацыі канала.**

**Капіталісты некалі прадракалі, што Савецкая ўлада не пратрымаецца ў Расіі і некалькі дзён. А яна трымаецца і будзе трымацца.**

**Цяпер капіталісты прадракаюць, што пасля нацыяналізацыі па каналу спыніцца суднаходства. Быццам толькі капіталісты здольныя забяспечыць нармальнае суднаходства. Але паглядзіце на здымак. Судны ў Суэцкім канале. Гэты здымак зроблены пасля нацыяналізацыі канала. Суднаходства прадаўжаецца.**

**А ля варот нацыяналізаванай кампаніі сваё месца па праву заняў егіпецкі вартавы. Новыя часы, новыя справы.**

**І гэтая плаціна, што будуецца ў Егіпце і вядома свету пад назвай Ансуанскай, таксама — сведчанне новых часоў.**

**А цяпер — на старонку 15.**





і амаль не нагадвалі стрэлаў. І тым не менш з-за лесу ўзяў пачатак, непрыкметна рэжучы слых, востры прарэзлівы гук і, хутка нарастаючы, набліжаўся. Матузка на якую секунду разгубіўся, а потым інстынктыўна ўцяў галаву ў плечы і прыцiснуўся да бруствера. У гэты-ж момант з аглушальным крэктам цяжка ўздрыгнула зямля, і блізкі выбух амаль болем аддаўся ў целе. Матузка ўхапіўся за Галкіна, а той, умомант адолеўшы сон, падаўся да кулямёта. Калі-ж Матузка глянуў наперад, дык убачыў непадалёку ад акопа дзве свежыя чорныя варонкі, над якімі курылася сухая зямля.

Зрабілася надзвычайна ціха, толькі не надоўга. Зноў — тыя-ж глухія гукі з-за лесу, і цераз паднябессе з прарэзлівым скрыгатам зноў паляцелі міны. Галкін, тузануўшы Матузку, прысеў на дно ячэйкі. Магутныя выбухі ўскалынулі зямлю, апаліўшы алешнік на ўзлеску, якраз ззаду іхняга акопчыка.

— Эге, братка, — выглянуўшы з акопчыка, сказаў кулямётчык. — Гэта па нас вілку ўзялі. Ну, цяпер трымайся!

І сапраўды, не паспелі хлопцы што-кольвечы падумаць, як зноў угары заверашчэла ў шмат галасоў, і шумна ды жудасна панесліся на іх чэргі цяжкіх буйнакаліберных мін. Матузка адчуваў, як з кожным імгненнем, непадуладнае цяпер яму, сціскалася яго цела, а сэрца быццам спынялася, ахопленае прадчуваннем блізкай пагібелі. Выбухі грымелі зусім побач і так моцна, што, здавалася, пад іх ударамі шчапаліся зямныя нетры, на ўсю глыбіню працятыя страшнай трацілавай сілай. Адзін гучней за другі, як лютыя пачвары, білі яны зямлю, знямеўшую ў роспачы, і грымотнае рэха ад іх калыхала лясныя абшары. Нервы ў нечалавечым напружанні ледзь вытрымлівалі гэтую д'ябальскую пробу металам. Амаль фізічны боль пранізваў усю істоту, і, хоць не было ран, Матузка дрэнна адчуваў, жывы ён, ці ўжо мёртвы.

З бруствера на спіны байцоў сыпалася зямля, пахла пылам і нейкім паленым смуродам, а яны, прыпаўшы да самага дна, ні разу нават не варухнуліся. Галкін чакаў, калі скончыцца агнявы шквал, ды чакаць давялося доўга. Калі-ж выбухі некалькі аддаліліся, ён, адчуўшы нядобрае, хуценька ўзняўся ў акопе і ўскрыкнуў. Карыстаючыся агнявым прыкрыццем, цераз лог у лес бегла некалькі дзесяткаў ворагаў. Пярэдні дасягнулі ўжо сярэдзіны лужка, і Галкін схапіўся за кулямёт.

За таварышам узняўся з акопа і Матузка. Кусты на ўзмежку парадзелі, нібы скінулі лісце, лазня з выбітым вуглом і раскіданай сцяною павалілася на бок. У вёсцы нешта гарэла, і дым рудымі клубамі валіў у гару. Травяністы дол наўкола быў перамешаны з зямлёю, а ад буйнай раслiннасці не засталося і следу.

Зноў трапіўшы пад флангавы агонь, гітлераўцы змяшаліся і залеглі. Злосна засакаталі ўдалечыні іх лёгкія кулямёты, і недзе побач у паветры пачулася небяспечнае «фю-фю». Але хлопцам не было калі прыслухоўвацца да новай небяспекі: яны выконвалі загад. Галкін, упёршы прыклад у дужае плячо, разам з кулямётам трося ўсім целам. Ён баяўся прапусціць хоць-бы адзін рух ворага і біў частымі кароткімі чэргамі. Побач, спяшаючыся і хвалюючыся, страляў Матузка, ад перажытага страху яшчэ дрэнна валодаючы сабой.

Гітлераўцы, нарэшце, зразумелі, што прабіцца ў лес, пакуль на флангу дзейнічае кулямёт, ім не ўдасца. Відаць, уцямілі яны і тое, што сілы ля лазні невялікія, і кароткім імклівым ударам можна знішчыць дакучлівую перашкоду.

У траве, на лузе, яны перастроілі свой ланцуг і кароткімі перабежкамі пачалі пасоўвацца да лазні. Потны і брудны ад пылу, Галкін толькі скрыгатаў зубамі: высокая някошаная трава добра хавала ляжачых салдат, а біць адзіночак, якія зрэдку перабягалі, было нязручна і трацілася шмат патронаў.

Злева, за вёскай, таксама ўзгарэўся моцны бой, там стрэлы і выбухі зліліся ў суцэльны гул, гітлераўцы адразу атакавалі на ўсім участку.

Некалькі хвілін Галкін страляў і страляў, а ворагі, не зважаючы на агонь, павольна, але ўпэўнена пасоўваліся наперад.

— Эх, сволачы! — крыкнуў ён, адарваўшыся ад кулямёта.

— Паўзуць!

Ён вызначыў, што на адлегласці ворага затрымаць не ўдасца, а, наблізіўшыся, гітлераўцы, скарыстаюць хмызняк і блакіруюць кулямёт. На твары кулямётчыка адбілася злосць, і вочы заснавалі па прасцягу, шукаючы выйсця. Адчуўшы, што настаў рашаючы момант, ён увесь ажывіўся, налiўся сілай і спрытам.

— Мікалай, — звярнуўся ён да таварыша. — Вось што, братка: бяры ты кулямёт і краем лесу шпар наперад. Як зраўняешся з іхнім флангам, лупані збоку. Толькі нядоўга: дыскі са два. А я іх падражню адсюль.

Усхваляваны, Матузка не вельмі разумеў што ў новым павароце справы, але адчуваў

небяспеку ды і выгляд таварыша сведчыў, што становішча сапраўды сур'ёзнае. Не кажучы ні слова, ён вылез з акопа і па ўзмежку, прыгінаючыся як мага ніжэй, падаўся да лесу.

Пасля акопа на паверхні баец адчуў сябе неяк зусім адкрытым і безабаронным. Кулі свірчэлі побач, падалі галінкі, падсечаныя іх кароткімі шалёнымі ўдарамі. Нядоўга было трапіць пад іх імклівы лёт, і ўжо наўрад ці давялося-б падняцца зноў. Страшна зрабілася хлопцу тут, на паверхні зямлі, воддаль ад выратавальнага акопчыка. Але трэба было рабіць сваю справу — бегчы наперад, каб у час дапамагчы Галкіну, які адзін зараз шчоўкае з яго вінтоўкі, і Матузка шыбаў праз альховы гушчар, не асцерагаючыся галля, якое балюча сцябала яго.

Выглядаць з лесу, каб убачыць, дзе немцы, яму не спатрэбілася. Калі іх страляніна стала зусім побач, Матузка збочыў з гушчару і асцярожна высунуўся з-за маладой ёлкі на краі ўзлеску. Месца гэтае некалькі ўзвышалася над логам, і хлопец на момант сумеўся: ён выразна ўбачыў на роўнядзі крывы ланцуг гітлераўцаў, якія адзін за адным ускоквалі, беглі і падалі.

Матузка ўкленчыў у жорсткую папараць пад ёлкай і нарыхтаваў кулямёт. Пакуль ён даставаў дыск, зараджаў і ставіў прыцэл, прайшло няшмат часу, але менавіта тады настала рашучая хвіліна. Мінныя выбухі затаўклі зямлю ля лазні; немец, што перабягаў апошнім за ланцугом, закрычаў штосьці, і ўсе яны пачалі ўзнімацца і, страляючы з аўтаматаў, хуткім крокам кінуліся да вёскі. Здарылася так, што супраць Матузкі апынуўся гэты задні немец-камандзір, а ланцуг сваім флангам ужо мінуў тое месца, дзе прытаіўся кулямётчык. Малады баец моцна спалохаўся ад думкі, што спазніўся. Як-кольвечы ён прыцэліўся і націснуў спуск. Кулямёт, нібы знайшоўшы выхад сваёй злосці, ірвануўся ў руках і задрыжэў буйнай сударгавай ліхаманкай. Матузка не адняў пальца ад спуску, пакуль парожні дыск не спыніў чаргі.

Калі-б не так гучна грукацеў яго кулямёт, Матузка яшчэ раней пачуў-бы новыя гукі, якія з'явіліся ў баі. У тым баку вёскі, дзе адбівалася галаўная паходная застава, скрозь лютую страляніну пачуліся шматгалосыя крыкі: адсюль нельга было ўчуць, было гэта «ўра», ці штo іншае. Ды Матузка і не слухаў: немцы зноў заляглі, і па ўзлессю пайшоў моцны трэск, сыпаліся галінкі з лісцем, нібы дзесяткі нябачных бізуноў у розных месцах сцябалі дрэвы. Аднак, як ні прыціскаліся к долу залёгшыя ворагі, адсюль яны бачны былі кулямётчыку, і ён, змяніўшы дыск, зноў запусціў чаргу.

У той час аднекуль з варожага боку ўзляцела ў неба дымная ракета і, выцягнуўшы хвост, згасла над логам. Немцы тады апантана ўскочылі і што было моцы кінуліся назад да свайго раўчука. Матузка задрыжэў увесь ад радасці і адвярнуў кулямёт.

Нястрымная весялосць распірала кулямётчыка. Аглушаны выбухамі і стрэламі, ён на ўсё горла крычаў адно і тое-ж зларадна-дураслівае.

— Ага-а! Ага-а! Ага-а!

Праз некаторы час нямногія ўцалелыя ворагі зніклі ў раўчуку, а на лог высыпалі ротныя ланцугі падышоўшага батальёна. Матузка, адчуваючы сябе незвычайна лёгкім і імклівым, узваліў на плячо гарачы кулямёт і па ўзлеску пабег да вёскі.

Многа перастрывала яго душа за гэты дзень, але здабытая перамога хвалюючай радасцю засланіла цяпер усё самотнае. Як крыўдныя слёзы ў маленстве, адразу забыліся нядаўнія страхі. Пачатак быў зроблены, цяжкі, але ўдалы пачатак. Матузка павяваў, і хоць не зусім ладна, але, бадай, і не дрэнна. Ён сам адчуваў гэта і быў рады, і радасць яго павялічвалася ўпэўненасцю, што Галкін задаволіцца яго ўмельствам і цяпер, бадай, пасябруе з ім. Што-ж датычыць Матузкі, дык ён вельмі жадаў гэтага.

Макрэючы ад поту, хлопец імчаўся па ўгрэтай духмянай траве. Радасць падганяла яго, і Мікола спяшаўся падзяліць яе са знойдзеным сёння баявым сябрам.

Яшчэ зводдаль Матузка прыкмеціў ля лазні групу афіцэраў, ён пазнаў там камандзіра батальёна і заўважыў, што яны глядзелі ў гэты бок, нібы чакалі каго. Матузка пашукаў вачыма Галкіна, але не ўбачыў яго. Не было яго і ў акопчыку, які, пусты цяпер і непатрэбны, туліўся пад лазою. Пад кустом, на ранейшым месцы, стаяў кацялок з рэштай вады. Але чаму Змітрок не сустракае яго? Няўжо ён зрабіўся ўжо абыякавым да свайго нядаўняга памочніка? Нешта трывожнае затрымцела ў хлапечым сэрцы, калі ён пралазіў хмызняк на ўзмежку і набліжаўся да камандзіраў.

— Вось ён, кулямётчык гэты, — сказаў камбат, звяртаючыся да незнаёмага, відаць, старэйшага афіцэра.

— Малайчына,— сказаў той. — Малайчына. Прадстаўце да ўзнагароды.

Матузка, аднак, чамусьці змаркатнеў і не адчуваў ніякай радасці ад пахвалы начальства. Нейкая смутная трывога ўзнімалася ў ім. І сціпла стоячы перад афіцэрамі з узятым да нагі кулямётам, ён адказваў на іх пытанні аб нядаўніх падзеях. Потым, адпушчаны, пайшоў памалу на выган да свайго ўзвода.

У вёску прыйшлі ўжо новыя людзі і з поўнай абыякавасцю да ўсяго, што адбылося тут, займаліся сваімі справамі. У дварах гаманілі галасы, стукалі колы па вуліцы, байцы нейкага гаспадарчага падраздзялення маскіравалі галлём нагружаныя вазы пад плотам.

Абапал вуліцы дагарала некалькі хат, і ўдушлівы, едкі дым раздзіраў грудзі. У адным месцы з вуліцы Матузка пазнаў садок, ля якога бег раніцай, несучы загад. Нейкая будыніна збоч саду згарэла дашчэнту, апаліўшы сваім полымем суседнія яблыні. Між імі ўбачыў баец і тую ля сцежкі, з якой сарваў надоечы недаспелы яблык. Цяпер чорныя галіны яе маркотна цягнуліся над тынам і, здавалася, у смяротнай роспачы прасілі ратунку.

Пад прыдарожнымі вербамі на выгане курылі і гаманілі зараз байцы былой паходнай заставы. З апошняй надзеяй Матузка пашукаў позіркам сябра і, не знайшоўшы, запытаў у Піліпчука, які сядзеў на абочыне, спусціўшы ногі ў канаву.

— А дзе Галкін?

— Галкін? — здзівіўся вусаты Піліпчук. — Галкін забіты. Хіба ты не ведаеш?

Нешта цяжкое і душнае навалілася на хлопца, заняло дыханне, і ў вачах скрывілася дарога. Матузка апусціўся на пыльную абочыну канавы і абхапіў рукамі кулямёт. Знямогшае за дзень сонца паволі апускалася над лесам, дарога па насыпу, як хрыбціна шчупака, стракацела палосамі ценяў, кінутых вербамі...

Так хлопец сядзеў доўга і не чуў, што рабілася наўкола. Толькі калі падалася каманда строіцца і байцы выйшлі на дарогу, Матузка ўзняўся апошнім і, падумаўшы крыху, стаў у галаву калоны, дзе ўчора крочыў Галкін і дзе звычайна станавіліся ручныя кулямётчыкі.

**г. Гродна.**

Пятрусь МАКАЛЬ

## Насустрач маладому дню

Перад вачамі —
Небакрай праменны
Гарыць, адлюстраваўшыся ў акне.
А за плячамі —
Гарадок ваенны,
Куды не трэба больш вяртацца мне.
І бачу я: жанчына з хаты выйшла,
Спынілася на хвілю ў двары,
На ёй касынка белым цветам вішні
Успыхнула ад ранішняй зары...
Вось гэтак у знаёмым і звычайным,
Што бачылі мы, пэўна, сотні раз,
Раптоўна, як разгаданая тайна,
Прыгожаства адкрываецца для нас.
І мне чамусь згадалася жанчына,
Што так глядзела шмат гадоў назад,
Трывожачыся за малога сына,
Які пабег у госці да салдат...
Яна стаіць маўкліва каля ганку,
Адкуль глухі дарожны гул чуваць.
І як карціць мне крыкнуць: «З добрым ранкам!»,
Яе, нібыта маці, прывітаць.
Замест мяне тут ветрык загуторыў,
Парушыў росных веццяў цішыню.
А я маўчаў. Я толькі крок паскорыў
Насустрач маладому дню.

Алег ЛОЙКА

## На мяне паглядаць ты пакінь!

На мяне паглядаць ты пакінь,
Глянь у неба прастор — сіні, сіні,
Каб блакітам бяздонным такім
Усміхаліся вочы і ў сына!

А пасля ніжэй кветак і траў
Пакланіся магутнаму дубу.
Скуль? — спытайся, ён сіл набіраў,
Каб, як дуб, вырастаў сын мой любы!

Ты прайдзі рэкі, пушчы, палі,
Імкнучыся ўсё ўсюды прыкмеціць,
Каб адны ў сына мары былі —
Бачыць, чуць, разумець усё на свеце!

Глянь! Якой нечуванай красы
Заіскрыліся росы ў праменнях,
Каб крыштальней, чысцей той расы
Было ў нашага сына сумленне!

Ты сказала:
— Усім надзялю,
На цябе-ж я глядзець не пакіну,
Бо цябе я люблю
І хачу
Да цябе мець падобнага сына!..

Яраслаў ПАРХУТА

## Бакеншчык

За кармою доўга бурунамі
Пеніцца разгневана рака,
І буксір ахрыплымі гудкамі
Шле паклон далёкім маякам.
А услед з халоднага туману,
Дзе гарэць нязгасна ліхтары,
Кожны раз адкажа капітану,
Зняўшы шапку, бакеншчык стары.
І няхай да новага прычала,
Дзе павінны якар кінуць свой,
Кіламетраў пралягло нямала
Над таежнай бурнаю ракой,
Хай блукае сярод скалаў вецер —
Смела йдуць да мэты рачнікі.
...І выходзіць кожны раз пад вечар
Бакеншчык запальваць маякі.



# Зялёны друг

Іван НАУМЕНКА

У выпускніка сельскай дзесяцігодкі, які паступаў у інстытут, паміж іншым, спыталі:

— Што вы думаеце пра абавязкі маладосці?

У юнака быў адухоўлены твар, твар чалавека, які ўмее сябраваць з марай. Звёўшы над пераноссем стрэлкі прыгожых брывей, ён папрасіў дазволу адказаць на пытанне словамі паэта. І ён прадэкламаваў гарачыя радкі з Маякоўскага:

Молодые —
это те,
кто бойцовым
рядам поределым
скажет
именем
всех детей:
«Мы
земную жизнь переделаем!»

Прыёмная камісія згодна кіўнула галовамі. Будучы студэнт правільна разумеў сваю адказнасць перад жыццём. Але ў камісіі сядзеў уедлівы дзядуля, які на сваім вяку перабачыў, мабыць, нямала юнакоў, якія адказвалі вершамі.

— Дазвольце вас спытаць, — умяшаўся дзядуля,—а як вы мысліце сабе гэтае зямное жыццё ў перарobленым выглядзе?

Юнак высока трымаў сцяг сваёй дзесяцігодкі, якая паслала яго ў навуку. На гэты раз ён сказаў словамі Чэхава аб тым, што ў чалавека ўсё павінна быць прыгожым — думкі, душа, адзенне,—і словамі Горкага пра тое, што чалавек зробіць планету сваім найпрыгажэйшым садам...

Здавалася-б, хопіць. Сёй-той з камісіі нават скасавурыўся на дзядулю — чаго ён хоча? А дзядуля, паміж іншым, яшчэ пацікавіўся:

— А скажыце, для гэтага найпрыгажэйшага саду, пра які пісаў наш Максім Горкі, вы асабіста пасадзілі хоць адно дрэўца? Разумеецца, канкрэтнае дрэўца—вішню, яблыню, клёнік...

Хлапец маўчаў. Яго твар крыху пабляднеў і ад гэтага стаў яшчэ болей прывабным. Усе адчувалі сябе неяк нялоўка.

— Дрэваў у нас не садзілі, — сказаў хлапец ціха. — Саду няма.

— А як-жа політэхнізацыя, прышкольны ўчастак?

— А, што політэхнізацыя?.. Гербарыі для школы збіралі, два разы хадзілі ў МТС. А на прышкольным участку дырэктар бульбу пасадзіў ды яшчэ юннаты пасеялі крыху кветак і градку кукурузы...

Размова гэтая — не выдумка. Яна сапраўды была. І была сёлета. Юнацтва не ўмее крывіць душой. З дваццаці пітомцаў сельскіх сярэдніх школ нашай зялёнай Беларусі, з якімі мы гутарылі, толькі трое змаглі заявіць, што яны садзілі дрэўцы, пакінулі аб сабе памяць у родных мясцінах. Вельмі-б хацелася пагаварыць пра іх, што з маладых дзён сваіх пачалі ўпрыгожваць зямлю, і пра тых, хто навучыў юнацтва любіць і шанаваць вялікага зялёнага друга...

Лес, парк, сад... Хто не бачыць прыгажосці вясенняга саду, калі стаяць дрэвы, як нявесты ў сваёй вясельнай фаце. Белае мора квецені пад Гомелем, калі цвітуць слаўтыя Брылёўскія сады. Пасажыраў, якія раней ніколі не былі ў Беларусі, не адарваць ад вокан, калі поезд цэлую поўгадзіну імчыць каля Брылёўскіх садоў.

Летам мы хочам у парк, у лес. Мы адпачываем там душой і целам. Ёсць нейкія нябачныя ніці, якія еднаюць чалавека з зялёнай прыродай. Справа, мабыць, не толькі ў тым, што ў лесе ціха, што там не чуваць скрыгату, няма тлуму і мітусні. Разгалісты дуб напаўняе ўсю істоту адчуваннем магутнасці жыцця, роўны шум сасновага бору нараджае ў душы спакой і роўнавагу...

Вясковая хата і голы, як бубен, двор, хоць і агароджаны добрым парканам, не выклікаюць асабліва ўзнёслых эмоцый. Але няхай перад хатай стаяць бярозы ці таполі, няхай пад зялёнай навіссю будзе самая звычайная саламяная страха, і адчуванне стане зусім іншае...

... З-за зялёных вершалін акацый, таполяў відаць толькі пафарбаваны ў цемначырвоны колер жалезны дах Васілевіцкай сярэдняй школы. Гадоў дванаццаць назад яшчэ не было парку, які схаваў у сваёй зеляніне школу і стаў самым прывабным месцам для ўсіх закаханых раённага цэнтра. Быў голы пясчаны майдан, па якім з сумным выглядам блукалі козы. Парк насадзілі вучні, яны яго пэўны час і дагледалі. Пруцік таполі, уваткнуты ў зямлю пяцікласнікам, рос разам з ім.

Даўно разляцеліся пітомцы школы, даўно яны маюць ужо пашпарты, дыпломы. А пасаджаныя імі дрэвы будуць расці, зелянець на радасць людзям.

Дарэчы, многія з выхаванцаў школы так палюбілі лес, што прысвяцілі яму сваё жыццё, сталі, як тут кажуць, «леснікамі». Іван Доўжык, Сцяпан Брэль, Мікалай Пінчук... Іван Доўжык працуе ў родным раёне ляснічым. Яго лічаць наватарам, і ёсць за што. На многіх гектарах звычайнай балотнай зямлі пасадзіў ён дубкі. І дубкі вось ужо чатыры гады добра растуць, цягнуцца да сонца. Гадоў праз сто зашумяць тут дубровы. Вось будзе памяць аб чалавеку, які жыў на зямлі!

Трэба сказаць дзякуй Андрэю Васільевічу Карлоўскаму, былому дырэктару Узнажскай сярэдняй школы. Карлоўскі сёння — старшыня мясцовага калгаса, але тая справа, якую пачаў ён у школе, працягваецца. Зелянее парк, насаджаны вакол школы маладымі рукамі, усё больш і больш у вёсцы садоў.

Добрую справу робіць выкладчыца біялогіі Перавалоцкай школы Анна Нікіфараўна Захаранка. Яна таксама дамагаецца, каб вуліца была зялёнай, каб зацвіло пабольш садоў у роднай вёсцы. Зелянее сад вакол школы ў Бабічах. Гэтыя людзі жывой спразай адказваюць на заклік ЦК камсамола аб усямерным пашырэнні зялёных насаджэнняў.

Але з усяго раёна, дзе ёсць некалькі дзесяткаў школ, толькі чатыры добрыя прыклады. Праўда, загадчык Васілевіцкага райана Якаў Міхайлавіч Целеш абнадзеіў:

— Будзем садзіць паркі, сады, азеляняць вуліцы і дарогі,—сказаў ён.— Гэтым-жа можна найлепш прывіць любоў да працы, да роднай зямлі.

Хочацца верыць у гэтыя словы, як і наогул хочацца верыць, што наша сярэдняя школа, нарэшце, па-сапраўднаму стане выхоўваць працоўныя навыкі ў сваіх навучэнцаў.



## КЛУБ ДЗЯЎЧАТ

Мінскія аўтазаводцы ганарацца сваімі дзяўчатамі: многія з іх — перадавікі вытворчасці, лепшыя рабочыя сваёй прафесіі. Працуючы, яны паспяхова вучацца завочна, у вячэрніх школах, тэхнікумах і інстытутах.

Акрамя гэтага, у маладых работніц ёсць свае асобныя інтарэсы, звязаныя з бытам, хатнімі справамі. Яны жадаюць прыгожа апранацца, умець кроіць, шыць, вышываць, гатаваць ежу, умець весці сваю хатнюю гаспадарку.

З гэтай мэтай вырашана стварыць клуб.

На першым злёце дзяўчат і маладых жанчын сакратар камітэта камсамола завода Валянціна Сідорык паведаміла аб мэтах гэтага клуба. Свае прапановы ўнесли на злёце Галіна Радаман, Ніна Шабаева, Ларыса Людчык, Марыя Міханава і іншыя.

Пры клубе ствараюцца гурткі кройкі, шыцця, мастацкай вышыўкі, кулінарыі. Рэгулярна будуць праводзіцца мастацкія вечары, чытанне лекцый і дакладаў на маладзёжныя, медыцынскія і бытавыя тэмы.

Выбраны совет, які кіруе работай клуба. У склад яго ўвайшлі 15 работніц завода. Насценная газета будзе асвятляць дзейнасць гурткоў і ўсю работу клуба дзяўчат.

На здымку: члены совета клуба (злева направа) бухгалтар цэха нармаляў Е. Карташова, выхавацельніца інтэрната № 9 Е. Саут, кладаўшчыца заводскай друкарні Н. Кудраўцава, тэхнолаг механазборачнага цэха № 2 Г. Вароніна, работніца тэрмічнага цэха Г. Радаман і сакратар заводскага камітэта камсамола В. Сідорык.

В. НЯХАЙ.



Восем гадоў працуе на будаўніцтве жылых дамоў комплексная брыгада Кірыла Гардзеевіча Бурава. За гэты час брыгадзір са сваёй брыгадай здаў дзесяткі дамоў. Цяпер брыгада будуе дом для паліграфістаў.

На здымку: К. Г. Бураў вучыць комсамолку Ганну Пахомчык мулярнай справе.

Фото М. Ананьіна і А. Мішынай.



Глыбінка. Глухамань. Гэтыя словы губляюць свой першапачатковы сэнс. Сёння ў калгас прыехала кіноперасоўка. Увечары калгаснікі паглядзяць новы фільм. (Фота да нарыса «У глыбінцы»).

Фото С. Чырэшкіна.




Ал. ВЕЧАРКОЎ, С. ЧЫРЭШКІН

Уборкі. Валкашанка. Грамыкі... Гэта невялікія сёлы-суседзі, што прытуліліся на ўзлессі, дзе пачынаецца рэчка-балацянка Брагінка — прыток поўнаводнага Дняпра. Глухімі, закінутымі куткамі былі некалі гэтыя беларускія мясціны. Бліжэйшая чыгуначная станцыя адсюль за шэсцьдзесят кіламетраў, а раённы цэнтр — за трыццаць...

Ва Уборках цяпер цэнтр калгаса імя Леніна, які аб'ядноўвае чатыры суседнія вёскі. Добрая слава пра ўборкаўскі калгас ідзе далёка за межы раёна.

Знаходзячыся на Лоеўшчыне, мы пацікавіліся, якія змены адбыліся за гады савецкай улады ў колішняй глухамані. Мы сустракаліся, гутарылі з многімі тутэйшымі калгаснікамі, актывістамі, знаёміліся з буднямі глыбіннай лоеўскай вёскі.

Раскажам аб некаторых з нашых вясковых сустрэч і размоў.

### З МІНУЛАГА

Дзед Сулейка — жывая гісторыя Уборкаў. Яму споўнілася 96 год, і жыве ён у сваёй вёсцы бязвыезна. Восемдзесят год назад яго бацька — адстаўны царскі салдат — разам з іншымі пасялянамі заснаваў гэтую вёску. Ужо дзедавы сыны і дочкі састарыліся, а ён, жвавы, увішны, яшчэ летась разам з вясковымі хлопцамі кідаў стагі. У дзеда і цяпер жывыя вочы, моцныя зубы і слых нядрэнны!..

— Дзяцей яшчэ выгадаваць трэба,— рупіцца стары пра ўнукаў — дэмабілізаванага лётчыка і звеннявую-камсамолку, з якімі ён цяпер жыве.

У хаце старога чыста, утульна. У кутку, дзе некалі, можа, былі абразы, партрэт Ільіча, на сцяне— талерка рэпрадуктара; як і ва ўсіх уборкаўскіх хатах, пасярод пакоя пад столлю невялічкая электралямпачка.

Вельмі ахвотна адазваўся на нашу просьбу дзед Сулейка і доўга расказваў пра свае маладыя гады, пра сваю родную вёску:

— Вунь на тым пляцы, дзе цяпер электрастанцыя,— паказаў дзядуля рукою на белы мураваны будынак,— год семдзесят назад быў лес. Сосны стаялі ў чатыры абхваты, як глянеш уверх — шапка зваліцца... Адгэтуль і назва вёскі — Уборкі, значыцца, ля бору...

Бедна, упрогаладзь жылі ўборкаўцы ў тыя часы, калі дзед Сулейка быў маладым хлопцам. Далёка не ў кожнай гаспадарцы быў конь — людзі самі запрагаліся ў саху, матыкамі карчавалі ляда. Дрэнна радзіла зямля, і сяляне ішлі на паншчыну, у плытагоны.

Хоць вакол быў вячысты бор, але хаты ў сялян раней былі нікуды не вартыя — аплываtыя стрэхі, гарбатыя сцены, закураныя дымам, падслепаватыя акенцы, земляная падлога. А ў хаце — качэргі ды печ-куранка...

Сялянскія дзеці не чулі аб навуцы. Ужо ў дзевяностых гадах мінулага стагоддзя ва Уборках адкрылася пачатковая школа, але ў ёй штогод вучылася толькі некалькі хлапчукоў заможнейшых сялян. Дзяўчынак зусім не дапускалі да вучобы.

— Як-жа раней моладзь веселілася? — запытаў у Сулейкі сакратар калгаснай камсамольскай арганізацыі Міхаіл Даніленка, які прышоў з намі да дзядулі.

— А ніяк,— коратка адказаў дзед, а потым, засмяяўшыся, растлумачыў: — Не было ў нас тады добрых забаў, адно што ігрышчы ўзімку. Але хіба павесялішся з адною скрыпкай, дый тая была адна на тры вёскі...

Мы доўга хадзілі ўражаныя мудрымі словамі дзеда, сказанымі пры развітанні: «Хачу жыць і жыць, дзеткі,— вельмі-ж цікавае цяпер жыццё настала...»

### СЁННЯ ВА ЎБОРКАХ

Тая-ж, што і семдзесят гадоў назад, уборкаўская вуліца выглядае сёння інакшай: і тут і там свецяцца жоўтымі сценамі прасторныя дамы з шыфернымі і гонтавымі дахамі, з вялікімі светлымі вокнамі; уздоўж вуліцы слупы, ад якіх у кожную хату ідуць правады. Усе дамы калгаснікаў электрыфікаваны. У трох брыгадах ёсць радыё. Калгас мае свой радыёвузел.

У канцы ўборкаўская вуліца якбы ператвараецца ў прасторны пляц. На пляцы злева клуб, крыху далей, у зялёных прысадах, двухпавярховы будынак школы, яшчэ далей — бальніца, а цераз дарогу, направа, калгасная кантора, новы будынак сельсовета. За вёскай — электрастанцыя, жывёлагадоўчы гарадок.

Старшыня калгаса Сяргей Гаўрылавіч Бяброў — камлюкаваты, з валявым, апаленым сонцам і вятрамі тварам, сярэдніх год мужчына — нетаропка крочыць з намі па калгаснай сядзібе, паказвае грамадскія будынкі: вялікі мураваны кароўнік, такі-ж аўчарнік, сіласныя вежы... Старшыня не хавае захаплення: свае, уборкаўскія, муляры і цеслі зрабілі!

— А між іншым,— заўважае Сяргей Гаўрылавіч,— усе грамадскія будынкі ўзведзены ў пасляваенныя гады. У часе варожай акупацыі было ўсё спалена. Уцалела ва Уборках, можа, некалькі хат, а ў суседніх вёсках і хаты амаль усе былі спалены. Пабудаваліся зноў. Бачыце, стаяць нашы вёскі памаладзелыя, адбудаваныя, як-бы вайны ніякай тут не бачылі. А колькі людзі перанеслі!..

Пераадолеўшы пасляваенныя цяжкасці, калгас імя Леніна год ад году ўпэўнена ідзе ўгору, багацее. У мінулым годзе агульнакалгасны грашовы прыбытак склаў 1 180 тысяч рублёў, а сёлета — павялічыцца ў два разы. Толькі ад ільнаводства мяркуецца атрымаць больш мільёна. Прыбытковай галіной становіцца жывёлагадоўля. За дзесяць месяцаў гэтага гаспадарчага года надоена па 1 300 літраў малака ад кожнай каровы, атрымана па 15 цэнтнераў свініны на 100 гектараў ворыва. Калгас заваяваў першынство ў раёне па надоях малака і вытворчасці мяса.

У жывёлагадоўлю, як і на іншыя важныя гаспадарчыя ўчасткі ў калгасе, прыйшло новае папаўненне з моладзі, прынёсшы з сабою энергію і задор. Камсамольцы Міхаіл Рудзянкоў, Маргарыта Дзятлава, Надзежда Лаверава, Яўгенія Іванова, Віктар Курачкін сваёй стараннасцю і працавітасцю заваявалі славу лепшых людзей калгаса. У апошнія гады ўсё больш дзесяцікласнікаў застаецца ў сваім родным калгасе, бо знаходзіць для сябе тут цікавую і карысную працу. З атэстатам сталасці сёння можна ва Уборках сустрэць і электрыка, і механізатара, і жывёлавода.

**На ўборцы ільну.** На пярэднім плане — **лепшая звеннявая Вера Мазурава.**





Уборкаўскія дзесяцікласнікі вывучаюць трактар. За рулём — Алесь Лапіцкі.

Радасна, што мясцовая школа перабудоўвае сваю работу ў адпаведнасці з патрабаваннямі часу. Настаўнікі атрымліваюць вялікую падтрымку з боку бацькоўскага актыву. Праўленне калгаса перадало для вучняў аўтамашыну, а мясцовая МТС — трактар. У гуртох па вывучэнню тэхнікі з ахвотай запісаліся ўсе сёлетнія дзесяцікласнікі.

— Пакуль яшчэ цяжкавата,— гаворыць камсамолка Нэля Сямуткіна, завіхаючыся ля трактара,— адна не завяду матор, прыходзіцца ўдваіх з сяброўкай. Але нічога, к вясне і адна спраўлюся!

Калгаснікі могуць смела разлічваць на такіх сваіх дзяцей, як Нэля, як яе сяброўка Рая Гнедзіна. Яны вырастуць вартымі сваіх бацькоў — гаспадароў зямлі, дастойнай зменай.

На кожным кроку сёння ва Уборках бачны яскравыя прыкметы новага жыцця. Калгасны радыёвузел перадаў лекцыю мясцовага ўрача; жанчына-маці прынесла малога на кансультацыю не да бабкі-шаптухі, як было некалі, а да сваёй акушэркі; пажылы жывёлавод накупляў у сельмагу кніг для ўласнай бібліятэчкі; звеннявая-ільнаводка здае грошы ў ашчадную касу; хлопцы з суседніх вёсак прыехалі ў калгасны клуб на матацыклах і веласіпедах.

Сёння ў кожнай калгаснай хаце — газеты, кнігі; у многіх уборкаўцаў радыёпрыёмнікі, нікеляваныя ложкі, канапы. Вясковая моладзь добра апранаецца. Паглядзіш на ўборкаўскіх дзяўчат, як у нядзелю збяруцца ў прасторным клубе, і не адрозніш, катэрая з іх калгасніца, а якая настаўніца,— ва ўсіх дарагія, з густам пашытыя сукенкі, прыгожыя туфлі.

Не сумуе цяпер моладзь у глыбінцы. У клубе калгаса імя Леніна кожны вечар што-небудзь цікавае: даклад ці лекцыя, кінокарціна ці танцы. Драмкалектыў, якім кіруе ініцыятыўная актывістка Лідзія Савенка, часта радуе землякоў сваімі спектаклямі. Вялікім поспехам у землякоў карыстаецца маладзёжны хор. Уборкаўскі самадзейны калектыў рыхтуе рознастайную і цікавую праграму да Усебеларускага фестывалю моладзі.

— Сёння ў нас яшчэ не ўсё як мае быць,— заканчвае свой расказ старшыня калгаса.— Вось прыедзеце да нас праз год-два, тады пабачыце!..



Самы юны ўборкаўскі жыхар Саша Рудзянкоў акружаны ўвагай і клопатамі.

## НАШ ЗАЎТРАШНІ ДЗЕНЬ

Пра планы і перспектывы сваіх вёсак добра расказваў старшыня Уборкаўскага сельсовета Курдзясаў.

Аляксей Сілавіч тутэйшы чалавек і, як усе ўборкаўцы, вельмі любіць свае родныя мясціны. За гэтыя зялёныя пералескі і палі яшчэ зусім хлапчуком у мінулай вайне ён гераічна змагаўся, не шкадуючы жыцця. Цяжкае раненне не выбіла камсамольца з жыццёвай каляіны. Вярнуўшыся ў родную вёску, Аляксей усяго сябе аддае аднаўленню калгаса. Зараз землякі выбралі яго на адказную пасаду — у сельскі Савет.

Нам гаварылі, што Курдзясаў— летуценнік. Можа гэта і так. Але добрыя, прыгожыя ў яго мары. Гэта — мары людзей, працаўнікоў, якіх партыя, савецкая ўлада ўзняла да творчасці.

Калі Аляксей хадзіў з намі, парыпваючы пратэзам, і гаварыў: «Вось тут паставім новы, на два паверхі мураваны клуб, а тут новую школу», мы шчыра верылі: гэтак і будзе! Калі ён называў лічбы ўраджайнасці ў калгасах сельсовета, якія намечаны планам на бліжэйшыя гады, расказваў пра перспектывы развіцця жывёлагадоўлі ў новай пяцігодцы, мы адчувалі, што гэты чалавек сам верыць у гэта і запаліць верай людзей, з якімі жыве і працуе.

— Рэчку ачысцім, пашырым рэчышча Брагінкі, — гаварыў Аляксей, і яго малады, прыгожы твар нібы асвятляецца нейкім невыказным захапленнем.— У нас хутка будзе яшчэ адна электрастанцыя, і тады ва ўсіх вёсках засвеціць электрычнасць!..

У новай пяцігодцы ўборкаўцы будуць мець лепшую, чым зараз, бальніцу, свой радзільны дом. Калгас на гэта ўжо асігнаваў 25 тысяч рублёў, сваімі сіламі нарыхтоўвае будаўнічы матэрыял. У кожнай брыгадзе вызначана пабудаваць клуб, абсталяваць спартыўную пляцоўку.

У недалёкім будучым на вясковых вуліцах узнімуцца лепшыя, чым сёння, дамы; пры клубах і школьных сядзібах зашумяць маладыя сады; будуць азелянены і добраўпарадкаваны ўсе дарогі і паселішчы; палепшыцца і ўпрыгожыцца быт вясковых людзей.

У глыбінцы кіпіць, струменіць жыццё.

Адна з лепшых даярак калгаса Зіна Крывянкова.



На жывёлагадоўчай ферме.



# З венгерскай паэзіі

Пераклады з венгерскай мовы Міколы ХВЕДАРОВІЧА

Золтан ЗЕЛК

## ЛЯ МАГІЛЫ НЕВЯДОМАГА САЛДАТА

Тут, у Зугло, дзе жах валодаў,
На плошчы дождж і непагода
І ў разбурэнні ўвесь квартал,
Над незалечанаю ранай
У кветкі могільнік убраны,
Нібы ўпэўненасць, паўстаў.

Я рускай мовай не ўладаю.
Стаю, маўчу і ўсё гадаю,
Хто ён, што пад зямлёй ляжыць?
Ён, можа, Лермантава праўнук,
А можа, Пушкіна прапраўнук,
Магіла, ты мне адкажы.

Заводам, шахтай — я зважаю —
Пасланы ён, каб на Дунаі
Змагацца з дзікаю ардой,
Якая сонца засланіла
І наш калодзеж заваліла
Атрутнай мёртваю брыдой.

Хто ён? І быццам-бы адказам
Гарыць рубінавым алмазам
Святло чырвонай зоркі. Там
Нібы пяцёрка пальцаў ясных,
На ўсход, дзе шыр палёў
калгасных,
Паказвае дарогу нам.

Які прастор! Палі, заводы,
Дымоў фабрычных карагоды,
Варштатаў стук. Дарогай мчаць
Камбайны і аўтамабілі...
Ці не аб гэтай вось магіле
Яны спяваюць і гучаць.

Аб ім, аб ім пяюць стыхіі.
І праз палі, лясы густыя
Яны нясуць зямны паклон:
Салдату, другу-чалавеку,
Як славу маладому веку,
Бо перамога наша — ён.

Дьюла ІЙЕШ

## ДАХАЎШЧЫКІ

Над цікавай кніжкай
Сам сяджу не свой;
Раптам чую гукаў
Я рытмічны строй.
Нібы свіст сініцы,
Альбо стук калёс,
Гэты ранні вецер
Да мяне прынёс.

Нарастаюць гукі,
Быццам сыпле град.
Мае пальцы ўтораць
Тому рытму ў лад.
Быццам дзесьці, хтосьці
Зводдаля, вось так
Азбукаю морзе
Адбівае такт.

Гэта там, дзе ўзняўся
Над кварталам гмах,
Дахаўшчыкі стромкі
Узнімаюць дах.

З вышыні далёкай,
Пад рытмічны грук,
Нам нясуць вітанне
Узмахі іхніх рук.

Гэты рытм працоўны
Поўніць мне душу,
Закрываю кніжку —
Вершы я пішу.
І яны сугучна
У дзень працоўны наш
З гордасцю ўліюцца
У пявучы марш.

Хай-жа не загіне
І заўжды жыве,
Усё, што захапляе,
Усё, што нас заве.
Каб, як звон той з даху,
Верш мой гучным быў
І ў вышынях свету
Ён, як заклік, плыў.

Эндрэ АДЗІ

## ПЕСНЯ ВЕНГЕРСКАГА ЯКАБІНЦА

Як да цябе мы дакранемся,
Дык пальцы сочацца крывёй.
З табой нам жыць, альбо памерці,
О Венгрыя! Край родны мой!

Душа баліць і меркнуць вочы.
Ці-ж дачакаемся калі,
Каб Вавілон рабоў-народаў
Стаў вольным краем на зямлі.

Час абудзіць жаданні нашы
І волю гартаваць, як сталь.
Славян, румын і венграў смутак—
Адзіны смутак наш і жаль.

Бо сваякі ў тысячагоддзях
Няшчасце наша і разлад.
Ім час у радасці сустрэцца
На агнявішчы барыкад.

Дунай і Олта паасобку
Не ўзнімуць гневу грозны крык.
Тым гора, хто ў краю Арпада
Не гвалтаўнік, не рабаўнік.

Калі-ж з'яднаемся нарэшце,
Каб даць рашучы наш адказ?
Мы, змардаваныя народы,
Узнімемся ў апошні раз!

Дакуль пачварнікам паганым
Нас прыгнятаць, а нам маўчаць,
Дакуль, народ венгерскі, ў клетцы
Табе, як шпак, скакаць, спяваць?

О Венгрыя, мой край жабрачы!
Ні веры ў нас, ні хлеба ў нас.
Але-ж Наступнае за намі,
І мы паўстанем, прыдзе час!

Шандар ПЕТЭФІ

## НЯЎДАЛАЯ ЗАДУМА

Як дадому ехаў — думаў:
«Што скажу я маме».
Я-ж любімую матулю
Не бачыў гадамі.

І якое слова дружбы
Выказаць захочу,
Ей, старэнькай, што калыску
Калыхала ноччу.

Цэлы рой удалых думак
У галаве змяніўся,
Нерухомым час здаваўся,
Хоць вазок каціўся.

Я ўвайшоў. Насустрач мама
Адчыняе сенцы...
Я павіс на шыі роднай,
Як ліст на галінцы.

## АДНО МЯНЕ ТРЫВОЖЫЦЬ

Адно мяне трывожыць і хвалюе.
Няўжо сярод падушак сам памру я?
І сточыць ціха, быццам тую кветку,
Чарвяк і тля нябачна, неўзаметку,
Растане, быццам свечка, воблік мой;
Не, божа, не пашлі ты смерці мне такой!
Як дуб хай буду я, а смерць, нябёс маланка,
Хай бура выверне з карэннем да астанку,
Хай буду з вышыні нізрынут, як уцёс,
Тым громам, што сусвет увесь патрос
І нетры, і зямныя воды!
Калі нявольнікі-народы
Трываць не пажадаюць болей
Ганебнага ярма няволі
І выступяць на бой астатні,
З чырвоным сцягам, сцягам братнім,
Хай загарацца гневам тvары
І забушуе на штандары
Святы дэвіз: «Сусветная свабода».
Тады ўз'яднаныя народы
Узнімуць кліч: настаў наш час!
Тыраны люта пры скананні
Спрабуюць рынуцца на нас; —
Хай упаду тады я!
Крыві струмені маладыя
Няхай з майго пальюцца сэрца;
І калі з вуснаў амярцвелых
Яшчэ крык радасці сарвецца,
Няхай глыне яго прадонне неба!
Я ўпаду! І шкадаваць ужо не трэба.
Дарогаю да слаўнай перамогі
Мяне растопчуць коней ногі.
... Надыйдзе дзень — вялікія хаўтуры,
Мой прах збяруць, што быў развеян бурай.
І загучаць жалобныя напевы,
Чырвоных сцягаў зашумяць павевы.
У брацкі могільнік усіх сыноў народа
Мяне палож,аць за цябе, свабода.

## ПРА ДНІ КРЫВАВЫЯ Я МАРУ

Пра дні крывавыя я мару:
Яны на свеце ўсё зруйнуюць
І на руінах дня старога
Дзень лепшы, новы дзень збудуюць.

Альбы гучала і склікала
На барацьбу труба еднацца.
О, кліча бойкі, кліча бойкі
Не можа сэрца дачакацца!

І я ўсхваляваны саджуся
На жарабца свайго гнядога.
І, як страла, натхнёна мчуся
Да стану войска баявога.

Калі праб'е мне грудзі куля,
Знайду, хто дасць мне паратунак;
Загоіць раны, боль суцешыць
Бальзам, — любімай пацалунак.

І ёсць каму ў цяжкой няволі
Прыйсці ў турму перад світаннем
І асвятліць яе прадонне
Праменным сонечным каханнем.

Калі-ж на плаху смертны лягу,
Ці пад навалай баявою,
Яна з грудзей маіх прабітых
Крою змые цёплаю слязою.

## Новая тэхніка

Усесаюзная прамысловая выстаўка ў Маскве з'яўляецца сапраўдным усенародным універсітэтам перадавога вопыту прамысловасці.

У 26 залах павільёна «Машынабудаванне» дэманструюцца дасягненні цяжкага машынабудавання, аўтамабільнай і падшыпнікавай прамысловасці, каляровай і чорнай металургіі, трактарнага і сельскагаспадарчага машынабудавання, суднабудаўніцтва, электрастанцый, вугальнай, электра-і радыёпрамысловасці, прыборабудавання, сродкаў аўтаматызацыі і інш.



Вось рабочае кола турбіны Куйбышэўскай ГЭС у натуральную велічыню. Вага яго — 426 тон, дыяметр—9,3 метра; газатурбапаветраны агрэгат, паравыя і газавыя турбіны, ротары магутных паравых турбін, кампрэсары, магутныя гідраўлічныя прэсы, дзеючыя мадэлі шагаючых экскаватараў... Тут-жа прадукцыя прадпрыемстваў сельскагаспадарчага машынабудавання: трактар магутнасцю 250 конскіх сіл; магутныя тралёвачныя трактары ТДТ-40 і ТДТ-60 для лясной прамысловасці. Іх вырабляе Мінскі трактарны завод. А вось і наш добры знаёмы — універсальны прапашны калёсны трактар «Беларусь». Трактаразаводцы прадставілі на выстаўку мадэрнізаваны, значна ўдасканалены трактар «МТЗ-5» узору 1956 года.

На выстаўцы прадстаўлен пяцімесны камфартабельны аўтамабіль «Волга» і іншыя новыя мадэлі аўтамабіляў Горкаўскага, а таксама Маскоўскага аўтазаводаў — ЗІЛ-111, малалітражны аўтамабіль «Масквіч», грузавыя аўтамабілі ГАЗ-19, ГАЗ-56, ГАЗ-47 і многія іншыя; аўтамабілі Мінскага аўтазавода — самы магутны ў нашай краіне аўтасамазвал МАЗ-525, шасцітонны грузавік і інш.

Сярод аўтамабіляў вылучаецца «Волга». Яна валодае большай праходнасцю, магутнасцю і зручнасцю, чым «Пабеда». Аўтамабіль абсталяваны зручнымі адкіднымі сядзеннямі, мае ацяпленне, радыёпрыёмнік. На ім устаноўлен бензінавы рухавік магутнасцю 70 конскіх сіл. «Волга» развівае хуткасць 130 кіламетраў у гадзіну.

У адным з павільёнаў дэманструюцца макеты Брацкай ГЭС, якая будзе буйнейшай гідраэлектрастанцыяй у свеце. Штогод яна будзе выпрацоўваць 21,5 мільярда кілаватгадзін электраэнергіі, — столькі электраэнергіі змогуць даць Куйбышэўская і Сталінградская ГЭС разам.

Вялікім дасягненнем айчыннай прамысловасці з'яўляецца стварэнне высокавольтнага ртутнага выпрамляльніка ВР-9/2. Імі будзе абсталявана першая прамысловая лінія электраперадачы Сталінград — Данбас, будаўніцтва якой прадугледжваецца Дырэктывамі XX з'езда КПСС па шостаму пяцігадоваму плану.

Уверсе — **новы высокавольтны выпрамляльнік;** унізе — **аўтамашына «Волга».**



**(Працяг)** *

**14 снежня.**

Міша заўзята ўзяўся за справу. Але ён хацеў майстраваць лямпавы прыёмнік.

— Я-б яго зрабіў,— скардзіўся ён,— але другія яшчэ нічога не ўмеюць.

У гэты-ж час падыходзіць да мяне адзін з членаў мішавага гуртка.

— Я больш працаваць з Мішам не буду,— заяўляе ён.

— Чаму?

— Не буду і — усё. Ён ніколі не раскажа добра, а толькі злуе і б'ецца.

Я папрасіў Мішу застацца пасля ўрокаў. Пытаю, ці хутка будзем слухаць радыё.

— Ці-ж з такімі можна працаваць? — хвалюецца Міша.— Няздольныя ўсе. Не, кіну я іх, няхай самі робяць як хочуць.

Мы дамовіліся, што я дам Мішу кнігу аб дэтэктарных прыёмніках. Чытаць яе ён будзе разам з Жэнем, разам яны будуць вучыць урокі.

**3 студзеня.**

Першае поўгоддзе навучальнага года закончана. Насталі зімовыя канікулы. Зараз можна падвесці некаторыя вынікі нашай работы.

Сёння па дарозе ў школу мяне дагналі Міша з Жэнем. Узяўшыся за рукі, на каньках, яны спяшаліся ў школу.

— Добры дзень, Канстанцін Сяргеевіч! Сёння ў нас сустрэча з сямікласнікамі па хакею.

Міша цяпер капітан каманды. А ці ведае ён сам, як ён стаў капітанам? За першае поўгоддзе ў яго яшчэ ёсць адна двойка па рускай мове. Але ў першай чвэрці двоек было пяць.

Так, змены ёсць, поспех ёсць. Але ці поўная гэта перамога? Ад Мішы ўсяго можна чакаць.

**24 студзеня.**

Сёння мы праводзілі лыжныя спаборніцтвы. Трэба было выявіць лепшых спартсменаў школы для ўдзелу ў раённых спаборніцтвах. За гэтае права змагаліся многія. Міша, які лічыўся лепшым фізкультурнікам, быў упэўнены, што ён абавязкова трапіць у зборную каманду школы. Да ўнутрышкольных спаборніцтваў ён аднёсся, як да пустой і непатрэбнай справы.

Пачаліся спаборніцтвы школы. Быў выхадны дзень. Судзейская камісія, у склад якой уваходзілі камсамольцы старэйшых класаў і члены совета дружыны, па спісу праз кожную мінуту выпускала лыжнікаў. Міша павінен быў ісці дзевятым. Чакаючы сваёй чаргі, ён падганяў усіх або рабіў высокамерныя заўвагі ў адрас таварышаў.

Не дачакаўшыся, пакуль настане чарга Мішы, я выехаў паглядзець, як ідуць лыжнікі. Ад'ехаўшы з кілометр, я стаў на невысокім узгорку. Мішу я заўважыў адразу, як толькі ён выехаў. Я міжвольна залюбаваўся яго хадой. Праязджаючы каля мяне, Міша крыкнуў:
— Усіх абганю! — і пайшоў.

Міша, бачу, сапраўды, ужо чатырох перагнаў. Толя, які ішоў пятым, адвярнуўся, пачуўшы, што яго наганяюць, пайшоў яшчэ шпарчэй. Міша насядаў. Паміж хлопцамі разгарэлася барацьба. Вось хлопцы параўняліся, ідуць разам. І тут Міша штурхануў Толю. Толя ўпаў, а Міша, нават не азірнуўшыся, пайшоў далей. Толя памкнуўся было ўстаць, але зноў паваліўся ў снег.

Падбеглі вучні. На спаборніцтвы забыліся: было не да гэтага. У Толі аказаўся вывіх нагі.

Што-ж рабіць з Мішам?

**30 студзеня.**

Мішу вырашылі выклікаць на совет дружыны. Справа прыняла сур'ёзны абарот. Мала таго, што былі сарваны спаборніцтвы, Міша праявіў сябе, як хуліган.

Совет дружыны запрасіў на збор дырэктара школы, і ўжо гэта ўказвала на сур'ёзнасць і адказнасць справы, якую павінны былі вы-



рашыць члены совета. Было многа прапаноў. Некаторыя гаварылі, што трэба Мішу выключыць з піянераў, вызваліць яго ад кіраўніцтва гуртком. І ўсё-ж мы схіліліся да той думкі, што варта яшчэ пачакаць. З піянераў Мішу не выключылі, хоць хлопцу вельмі папала ад таварышаў.

**11 лютага.**

Прайшлі дні. Справы, здавалася, наладзіліся. Настаўнікі не скардзіліся на Мішу. На перапынках ён быў вясёлы, нават узбуджаны.

У адзін з гэтых дзён я вырашыў наведаць заняткі радыёгуртка, якім кіраваў Міша. Вось што мне там расказалі.

Пасля совета дружыны, на якім разбіралі мішаў учынак на спаборніцтвах, прыходзіць ён на заняткі гуртка і давай выхваляцца, што хацелі зняць яго з кіраўніцтва гуртком, але дырэктар за яго заступіўся, сказаў, што калі Міша не будзе кіраваць гуртком, то гурток развалiцца.

Пасля заняткаў гуртка я папрасіў Мішу застацца. Што ён чакаў пачуць ад мяне — не ведаю. Я не стаў доўга таміць яго, пачаў адразу па справе:

— Ну, што ты, Міша, думаеш пра ўсё гэта?

— А што мне думаць. Жэня захацеў сам быць галоўным кіраўніком гуртка, няхай. Мне не вельмі гэта патрэбна, для іх-жа карысці стараўся, хацеў навучыць іх працаваць. Не хочуць — не трэба. Толькі пабачым, што ў іх атрымаецца. Няхай... Яшчэ ўспомняць мяне...

— Ты нічога пакуль не зразумеў, Міша,— сказаў я.— Галоўнае, ты не ўмееш паважаць таварышаў. А яны хочуць, каб ты далей кіраваў гуртком...

Міша маўчаў. Хлопцу, мабыць, было нялёгка слухаць гэта. Яму, які да гэтага часу ўмеў выстаўляць сябе ў вачах другіх героем, такое паражэнне было вялікім сорамам. Было-б лягчэй, каб яго дырэктар пакараў, а то свае хлопцы. Члены гуртка прагналі яго, свайго кіраўніка...

**6 сакавіка.**

Міша пакутліва перажываў сваё паражэнне. Слава яго знікла, геройства развенчана. Трэба быць моцным натурай, каб выстаяць, не

---

* Пачатак у № 9 часопіса.

пахіснуцца. Я баяўся за Мішу. Ці не залішне сурова з ім паступілі, ці не рана яго так сурова караць?

Я прыглядаўся да Мішы ў гэтыя дні. Трымаўся ён мужна. Выгляду, што перажывае, не паказваў. Я разумеў, што яму трэба падтрымка. Але як падтрымаць?

У камітэце ДТСААФ арганізаваўся гурток авіямадэлістаў. Справа гэтая была новая.

Ідучы аднойчы ў камітэт ДТСААФ, я запрасіў з сабой і Мішу, нібы для таго, каб ён дапамог прынесці адтуль некаторыя матэрыялы.

Размовы па дарозе ў нас не атрымалася.

У камітэт ДТСААФ Міша, відаць, даўно не заглядваў, бо, калі ўвайшоў, яго здзіўленню

# чайная

# СТОРЫЯ

не было канца. Ён убачыў на лаўках, на стале і нават падвешаныя на дроце мадэлі самалётаў розных тыпаў. Доўга стаяў ён, разглядаючы іх.

— Што, цікава? — звярнуўся да яго старшыня камітэта.— Можа, сам жадаеш рабіць, дык давай...

— Вы не жартуеце? — не верачы свайму шчасцю, перапытаў Міша.

**16 красавіка.**

Сёння перад пачаткам заняткаў выкладчыца рускай мовы Анна Іванаўна сказала мне:

— А Міша ўсё-такі падводзіць нас з вамі: сёння я яму зноў двойку па кантрольнай рабоце паставіла.

Значыць, старая гісторыя працягваецца. Калі ўжо ёй канец будзе?! Колькі Міша абяцаў, запэўняў нас, што будзе добра вучыцца,— і ўсё гэта засталося толькі словамі.

Я наважыў схадзіць у VI «Б» на ўрок разам з Аннай Іванаўнай. Мне цікава было паглядзець, як будзе трымацца Міша.

Калі Анна Іванаўна раздала сшыткі, Міша зачырванеўся і не мог глянуць у мой бок. Пры разборы новага правіла ён слухаў уважліва, некалькі разоў падымаў руку, каб яго выклікалі.

Пасля ўрока мяне дагнаў Міша.

— Нікому не гаварыце, што ў мяне двойка, я яе хутка выпраўлю, а то мяне з гуртка авіямадэлістаў выключаць. У мяне мама хворая, я дома адзін усё раблю.

На вачах у хлопчыка выступілі слёзы. Ён хуценька выцер іх рукой і зірнуў на мяне, ці не заўважыў я.

У той-жа дзень я пагаварыў з Таняй. Мы дамовіліся, што Мішу трэба дапамагчы.

**15 мая.**

У піянерскім пакоі адкрылася выстаўка падарункаў школе, зробленых піянерамі дружыны па прыкладу VI «Б» класа. Стаяў тут і дэтэктарны прыёмнік, прадстаўлены на выстаўку членамі гуртка, кіраўніком якога спачатку быў Міша.

— Во, прыёмнік! — з гонарам заявіў Міша.

— Што ты выхваляешся,— пярэчылі яму некаторыя.— Гэта-ж не ты рабіў, ты сваё пакажы.

Міша пакрыўдзіўся.

Таня мне расказвала, як губляўся Міша, калі вучні прыходзілі да яго дамоў, каб дапамагчы ў хатняй рабоце. Яму было, відаць, сорамна за тое, што ён так дрэнна адносіўся да сваіх аднакласнікаў.

Перамога, здаецца, наступае. Мішу крыўдна за сваё мінулае, але яго таварышы стараюцца не напамінаць яму аб мінулым.

Нядаўна Міша сказаў сябрам:

— Прыёмнікі што! Зараз іх кожны можа рабіць. Я вас навучу рабіць авіямадэлі. Вось гэта цікава! Самі лётаюць. Каб толькі экзамены здаць.

— Здасі, ты-ж рыхтуешся,— адказвалі Мішу.

**П. НЕСЦЯРОВІЧ,**
**старшы піонерважаты Бярэзінскай СШ.**

*Вывучайце музыку*

# Аб музычнай мове

**Музыка з'яўляецца адным з магутных сродкаў сувязі людзей, адным з відаў адлюстравання іх грамадскай свядомасці. Уздзейнічаючы на свядомасць і на пачуцці слухачоў, музыка аказвае актыўны ўплыў на грамадскае жыццё людзей, удзельнічае ў яго перабудове.**

**Зместам музычнага твора з'яўляюцца ўзаемаадносіны чалавека з акаляючай яго рэчаіснасцю, адлюстраванне духоўнага жыцця чалавека, грамадскіх адносін людзей. Разам з тым, зместам музычнага твора могуць быць толькі тыя бакі рэальнай сапраўднасці, якія перадаюцца ў мастацкай форме, сваёй вобразнасцю эмацыянальна ўздзейнічаюць на слухачоў.**

**Музыка перадае рознастайныя бакі рэальнай сапраўднасці перш за ўсё шляхам раскрыцця ўнутранага, духоўнага свету чалавека, перадачы найтанчэйшых адценняў яго пачуццяў. Яна, як слушна сказаў выдатны рускі музычны дзеяч А. Н. Сероў, «наогул дапаўняе паэзію, даказвае тое, чаго словамі нельга або амаль нельга выказаць». У гэтай уласцівасці музыкі яе галоўная сіла і адрозненне ад іншых відаў мастацтва.**

**Вобразы музычнага мастацтва ўспрымаюцца на слых, і таму «ідэі, якія выказваюцца музыкай, неаддзялімы ад гукаў» (В. Белінскі). Вось чаму, калі мы гаворым аб змесце музычнага твора, мы павінны мець на ўвазе не толькі яго ідэйную накіраванасць, яго сюжэт, але і спецыфічныя выяўленчыя сродкі. Гэтыя выяўленчыя сродкі і з'яўляюцца тым, што называюць музычнай мовай твора, і яны вызначаюцца вялікай рознастайнасцю.**

**З усёй рознастайнасці сродкаў музычнай мовы твора рашаючае значэнне мае мелодыя. Яна з'яўляецца галоўным носьбітам, адлюстраваннем мастацкага вобраза, музычнай думкі і выконваецца адным голасам. Мелодыя ў народнай музычнай творчасці з'яўляецца мастацкі закончаным творам — народнай аднагалоснай песняй. У прафесіянальнай (кампазітарскай) музычнай творчасці ніякія хітрыкі аўтараў не могуць прымусіць паверыць у адпаведнасць ідэі рэальнасці з'явы або падзеі, калі не гучыць пераканаўчая мелодыя.**

**У залежнасці ад ідэйна-мастацкай задумы ў кожным музычным творы адлюстроўваецца адзін або некалькі музычных вобразаў. У адпаведнасці з гэтым творы бываюць простымі па пабудове (і невялікімі па памерах) або складанымі, прычым кожнаму з іх уласцівы свой пэўны парадак размяшчэння асноўных тэм, вобразаў і іх развіццё. Заканамернасць пабудовы асобных частак твора ўтварае тое, што завуць музычнай формай. Толькі ў спалучэнні высокай змястоўнасці з мастацкай дасканаласцю музычнай формы ствараюцца такія творы, якія могуць уздзейнічаць на свядомасць і пачуцці шырокіх мас слухачоў.**

**У наступных нумарах нашага часопіса мы раскажам аб формах і жанрах музычных твораў.**

І. НІСНЕВІЧ.





Не пералічыць усіх выдатных дасягненняў савецкай навукі і тэхнікі. Унікальныя станкі, складанейшыя прыборы, магутныя пракатныя станы, шагаючыя экскаватары, у каўшы якіх можа змясціцца цэлая аўтамашына. Але, бадай, самую большую цікавасць у наведвальнікаў выстаўкі выклікае павільён «Атамная энергія ў мірных мэтах». На спецыяльным шчыце—макет першай у свеце атамнай электрастанцыі магутнасцю 5 тысяч кілават. У шостай пяцігодцы будуць пабудаваны атамныя электрастанцыі магутнасцю 100 і 200 тысяч кілават. Велізарны макет з арганічнага шкла дае магчымасць рэальна ўявіць будову і памеры атамнай электрастанцыі магутнасцю 200 тысяч кілават.

А вось і дзеючы рэактар. На дне сталёвага бака дыяметрам 4 метры, глыбінёй 6 метраў, запоўненага дыстыляванай вадой, знаходзіцца актыўная зона рэактара. Магутнасць яго — 150 кілават. На шчыце аўтаматычна фіксуюцца рэгуляванне ланцуговай рэакцыі, кантроль узроўню магутнасці, узроўню радыяцыі пад вадой. Слой вады над актыўнай зонай 4,6 метра.

**Я. ДУБРОВІН.**

Зверху ўніз: **коўш шагаючага экскаватара; новы партальны кран; рабочае кола турбіны Куйбышэўскай ГЭС.**

Фото В. Клімава.



НОВАЯ ТЭХНІКА

# „Візітная картка“ АКЦЁРА

**О. ГАЛІНА,**
**народная артыстка БССР**

Калі акцёр прыходзіць на спектакль, ён — адзін чалавек, а калі ён выходзіць на сцэну, гэта ўжо зусім другі чалавек. Ён змяняецца як унутрана, так і знешне. Створаны ім сцэнічны вобраз часта вельмі далёкі ад яго асабістых якасцей. Шмат трэба папрацаваць акцёру для таго, каб даручаная яму роля прагучала са сцэны, як жывы, праўдзівы, дакладны вобраз. Выканаўцу трэба перадаць не толькі ўнутраныя рысы характару — сутнасць вобраза, але і з найбольшай выразнасцю стварыць яго знешні воблік. Неабходна вельмі добра прадумаць, які вонкавы выгляд павінен мець уяўляемы вобраз. Правільна знойдзеная вонкавая характэрнасць дапамагае данесці да гледача нябачны, унутраны (душэўны) малюнак ролі.

Вельмі часта акцёр толькі выйдзе на сцэну і яшчэ не скажа ніводнага слова, а ўжо мы разумеем, да якой эпохі належыць ствараемы ім вобраз, з якога класа ён паходзіць, які ў яго род заняткаў, які характар, які густ. Першы выхад на сцэну — гэта «візітная картка», як кажуць у тэатры.

Што-ж дапамагае акцёру знайсці яркі выразны знешні воблік свайго героя? Па-першае — жыццёвыя нагляданні. Акцёр павінен быць вельмі ўважлівым да людзей, стараючыся прыкмячаць усе асаблівасці іх паводзін у сувязі з іх прафесіяй, характарам. Трэба запамінаць (лепш за ўсё запісваць) усё яркае, выразнае, «востра-характэрнае», тыповае, што сустракаецца ў паводзінах людзей у жыцці. Трэба прыглядацца да таго, як апранаюцца людзі. У адзежы вельмі часта выяўляецца сутнасць і густ чалавека. Адзін любіць усё сціплае, строгае, цёмнае; другі, наадварот, імкнецца вылучыцца з натоўпу, аддаючы перавагу яркім, арыгінальным рэчам. Адны вельмі неахайныя ў адзенні, а другія — вельмі акуратныя і г. д. Колер адзежы, спалучэнне фарбаў, фасоны суконак, абутку, галаўнога ўбору,— усе дэталі касцюма адыгрываюць істотную ролю для стварэння сцэнічнага вобраза.

Неабходны жыццёвыя нагляданні і ў пошуках грыму. Сустракаюцца такія твары ў жыцці, што па іх, як па кнізе, можна вызначыць характар чалавека. Трэба вывучаць твары людзей, запамінаць, рабіць замалёўкі найбольш выразных, характэрных, тыповых з іх.

Другой крыніцай, адкуль можна браць матэрыял для грыму і касцюма — гэта фатаграфіі і партрэты людзей.

Вывучаючы твары людзей у жыцці, на партрэтах і фатаграфіях, можна зрабіць дакладныя вывады — якія бровы бываюць часцей за ўсё ў людзей моцных, валявых, «з характарам», якія — у бязвольных, у дурных, у наіўных; якая форма губ у людзей дабрадушных і якая ў злосных, у хітрых і г. д.

Вочы, кажуць, гэта адлюстраванне душы, таму вельмі важна загрыміраваць вочы так, каб яны не супярэчылі таму, што гаворыцца аб вобразе ў аўтара. Форма падбародка, авал твару, скулы на твары — усё гэта вызначае характар чалавека. Парык, прычоска, колер валасоў, барада, вусы,— усё гэта дапамагае стварыць новы воблік, змяніць свой звычайны выгляд.

У стварэнні знешняга вобліку вялікую дапамогу аказвае ўменне маляваць. Расказваюць, што Хмялёў пры атрыманні новай ролі рабіў шмат малюнкаў. У тэатры акцёру дапамагае ў грыме спецыяліст — грымёр-цырульнік, але большасць акцёраў лічаць за лепшае грыміравацца самі, таму што ў пошуках адпаведнага грыму яны ўсё больш пранікаюць у сутнасць вобраза. Маючы на ўвазе, што цёмныя фарбы грыму паглыбляюць, змяншаюць, убіраюць, а светлыя — павялічваюць, выпукляюць, шляхам практыкі можна дабіцца значных вынікаў. Рэдка калі грым удаецца з першага разу, вельмі часта прыходзіцца рабіць некалькі варыянтаў і, узяўшы лепшы з іх за аснову, увесь час дапаўняць і папраўляць, дабіваючыся найбольшай выразнасці. Таму лепш за ўсё пачынаць пошукі грыму загадзя, не пакідаючы гэтую працу на самы канец, перад спектаклем. Многія з маладых акцёраў ніяк не хочуць мяняць сваю знешнасць. Яны не задумваюцца над тым, ці падыходзіць іх уласны вонкавы выгляд да выконваемага вобраза. Асабліва не хочацца ім змяняць сябе ў дрэнны бок, а між тым кожная роля нясе ў сабе індывідуальныя рысы характару, якія патрабуюць своеасаблівага выяўлення. Трэба лічыцца і з навакольнымі ўмовамі, і з працай, якую выконвае той ці іншы герой п'есы.

Іграючы ролі людзей старэйшага пакалення і так званыя «характарныя» ролі, трэба старацца змяніць свой знешні воблік у адпаведнасці з запатрабаваннямі ролі амаль да непазнавальнасці. У гэтым выпадку трэба карыстацца наклейкамі з гумоза ці «падцяжкамі» з марлі. Напрыклад, нос можна зрабіць падобным да дзюбы драпежнай птушкі альбо да бульбіны ў адпаведнасці з тым характарам, які мы хочам надаць вобразу. У характарных ролях, дарэчы, вельмі часта ў пошуках грыму зыходзяць ад аблічча птушак або жывёлін. Чалавек можа быць падобны да арла, да савы або да свінні. Вельмі карысна шукаць грым перад люстэркам, гаворачы з адпаведнай мімікай найбольш характэрны тэкст ролі, і найбольш характэрныя мімічныя моманты фіксаваць, падкрэсліваючы фарбамі тыя змены, якія зрабіліся на твары — новыя маршчыны, упадзіны, пукатасці і гэтак далей. Часта аўтар дае падрабязнае апісанне вонкавага выгляду героя або аб ім гавораць дзеючыя асобы п'есы. Зразумела, у такіх выпадках выканаўцу прыдзецца дабівацца дакладнага падабенства.

Адна з маіх апошніх работ у тэатры імя Янкі Купалы — роля Цалаваньевай у п'есе Горкага «Зыкавы». Гэта вобраз ярка выражанай мяшчанкі, якую раззлаваны Зыкаў называе «іржой». Гэта хітрая, злосная баба, якая ўсюды падслухоўвае, падглядае і каламуціць у доме. Яна пазбаўлена якіх-бы там ні было высокіх пачуццяў. Адзінае яе жаданне — жыць у дастатку, з «задавальненнем», нічога не робячы. Такога плану роляў я дагэтуль не іграла, і мне прыйшлося шмат папрацаваць, каб знайсці выразныя сродкі для таго, каб вобраз атрымаўся пераканаўчым. У такой ролі грым мае асабліва вялікае значэнне, і я доўга яго шукала, робячы некалькі варыянтаў. Зразумела, твар такой жанчыны павінен быць пазбаўлены ўсялякага інтэлекту і высакароднасці. Ён хутчэй павінен быць вульгарным. Я вырашыла, што галоўную ролю ў гэтым выпадку павінны адыгрываць вочы, нос і губы. Вочы ў такіх людзей часцей за ўсё бываюць маленькія, невыразныя—значыць, пры дапамозе фарбаў трэба гэтага дабіцца і мне. Нос я вырашыла зрабіць вельмі кірпатым і шырокім, для чаго прыйшлося пры дапамозе марлі і лаку свой нос падцягнуць і пашырыць з бакоў светлымі фарбамі. Гэта ўжо дало добрыя вынікі, бо твар страціў усякую інтэлігентнасць. Цяпер трэба было надаць твару непрыемны і злосны выраз. Лепш за ўсё такі выраз атрымліваўся, калі я пакідала вузенькую палоску замест губ. Усё астатняе ўжо толькі дапаўняла знойдзены асноўны выраз твару: моцная чырвань шчок,— таму што гэтая жанчына заўсёды была чым-небудзь усхвалявана і «палала румянцам»,— і невыразныя высока ўзнятыя бровы, якія надавалі твару нейкую дурнаватасць. Усё астатняе павінна была дадаць міміка твару.

Праверка на сцэне ў час генеральнай рэпетыцыі паказала, што такі грым вельмі дапамагае мне ў выяўленні характару і сутнасці Цалаваньевай. Апошняя-ж мая роля купчыхі Барабошавай у п'есе Астроўскага «Праўда добра, а шчасце лепш» прынесла мне больш клопатаў, таму што я, жадаючы падкрэсліць унутраную моц, упартасць і суровасць гэтай жанчыны, настолькі ўсё ў грыме перавялічыла, што атрымаўся зусім нерэальны вобраз.

На генеральнай рэпетыцыі рэжысёр і таварышы мне аб гэтым сказалі, і я паступова пачала змякчаць свой грым, набліжаючы да больш рэальнага, адпавядаючага вобліку 70-гадовай купчыхі. У працэсе спектакляў я буду працягваць гэты грым удасканальваць, таму што ён мяне яшчэ не зусім задавальняе.

Пошукі грыму — вельмі цікавая, захапляючая творчая праца, якая ў выніку дае выканаўцу вялікае задавальненне, а гледачу — многа асалоды.

На здымках: уверсе — **народны артыст БССР Б. Платонаў.**
Астатнія здымкі — **Б. Платонаў у ролях.**

# Амаль ФАНТАСТЫКА

## СПАЧАТКУ НЕКАЛЬКІ ФАКТАЎ

На дошцы расстаўлены шашкі. Зараз пачнецца дзіўная партыя. З аднаго боку чалавек, з другога машына «Мук» — «электронны мозг» Манчэсцерскага універсітэта. Кідаецца ўверх манета: права на першы ход атрымлівае машына.

Машына не мае рук, яна запісвае свой ход на стужцы, а чалавек павінен перасоўваць шашку. Ігракі робяць па некалькі ходаў.

Але вось замест чарговага хода «Мук» абураецца. На стужцы запіс: «Зяваеце! Наступным ходам я бяру адразу тры шашкі. Рабіце другі ход!»

Гульня працягваецца. Неўзабаве чалавек робіць другі няправільны ход. Машына зноў указвае на памылку. Нарэшце пасля строга вызначанай колькасці памылак «Мук» катэгарычна адмаўляецца весці партыю з такім няроўным іграком.

«Мук» гуляе і ў шахматы. Нядаўна адзін з мацнейшых шахматыстаў свету гросмайстар Самуіл Рашэўскі згуляў партыю ў шахматы з навейшай амерыканскай машынай і не перамог яе. Была зафіксавана нічыя.

Гэтая-ж машына можа пісаць любоўныя пісьмы, музыку, праўда, вельмі прымітыўную: усё гэта ўяўляе набор строга вызначаных слоў і гукаў.

На клавішах машыны машыністка выстуквае англійскі тэкст. Машына падае спецыяльную картку. Гэтая картка закладваецца ў машыну, якая заклікана без дапамогі чалавека перакладаць тэкст на рускую мову. Праходзіць нямнога часу — і машына падае картку з дакладным перакладам на рускую мову.

Гэтая машына — БЭСМ — зроблена ў Савецкім Саюзе.

Ёсць машыны, якія перакладаюць з 20 моў, але ў межах даволі абмежаванага слоўніка.

Выпрабаванне самалёта. Вопытны лётчык праводзіць яго, не бачачы зямлі. Гэта яму і не патрэбна: усе даныя аб становішчы і паводзінах самалёта ён атрымлівае ад прыбораў і экранаў, якія запаўняюць кабіну. Лётчык бясстрашна «выціскае» з машыны ўсё, што яна можа даць. Яго заўвагі рэгіструе магнітафонная стужка.

Але вось эвалюцыі самалёта робяцца ўсё больш рызыкоўнымі, канструкцыі яго, напэўна, напружаны да адказу. І вось наступае развязка — самалёт страціў кіраванне, стрэлка альтыметра паляцела ўніз. За дзве хвіліны яна ўпала з 20 000 метраў да 1 000, 500, 100, 10...

Катастрофа!

Аднак ні выбуху, ні страшэннага ўдару аб зямлю.

Лётчык адчыняе дзверцы кабіны і выходзіць у яркаасветленую залу.

Гэта не фантастыка. Так можна праводзіць выпрабаванні яшчэ не пабудаваных самалётаў пры дапамозе машыны «Трыдак», якая пабудавана ў Англіі.

У нас таксама пабудавана мадэліруючая машына МН-8. Яна, таксама, як і «Трыдак», мадэліруе ўсемагчымыя складаныя аб'екты, якія кіруюцца або аўтаматычна рэгулююцца. Але МН-8 можа імітаваць палёт міжпланетнага карабля, утварэнне гор у будучых стагоддзях, на працягу нейкіх долей секунды разлічваць усе ваганні тэмпературы ў целе гіганцкай плаціны і г. д. Меншы брат МН-8—МН-7 змяшчаецца на невялікім пісьмовым стале, але ён можа рашаць складаныя нелінейныя дыферынцыяльныя ўраўненні.

У машыну закладваецца рэцэптура і тэхналогія гатавання кандытарскага вырабу. Праходзіць нейкі час і з машыны, запакаванае ў кардоннай скрынцы, выскоквае пірожнае з крэмам. Гэта таксама не выдумка. Электронны кандытар аўтаматычна робіць усё, што павінны рабіць людзі.

Такіх аўтаматаў ёсць ужо шмат. Яны перакладаюць, лічаць, мадэліруюць, гуляюць у шахматы, пякуць пірожнае, робяць тыя ці іншыя дэталі. Каб рабіць такія машыны, трэба многа ведаць. Вось чаму зараз асаблівага развіцця дасягае самая маладая ў свеце навука — кібернетыка.

**АБ КІБЕРНЕТЫЦЫ расказваецца ніжэй у артыкуле А. УЛАДЗІМІРАВА.**

Апошнія гады прынеслі чалавецтву новую выдатную перамогу: створаны машыны, якія вызваляюць чалавека не толькі ад фізічнай, але і ад разумовай працы. Машыны з небывалай хуткасцю лічаць, дапамагаюць праектаваць, прадракаць надвор'е, кіраваць заводамі і караблямі, перакладаюць з аднае мовы на другую, гуляюць у шахматы і шашкі. Натуральна, што гэтыя машыны выклікаюць надзвычайную цікавасць у кожнага чалавека.

У многіх краінах рабіліся спробы прадрачы будучыню гэтых машын. Пісалі пра тое, што гэтыя машыны пакуль яшчэ ўступаюць чалавечаму мозгу толькі таму, што ў іх не больш 20 тысяч электронных лямп, а ў мозгу — мільярды клетак. Пасутнасці-ж мозг не што іншае, як самая дасканалая вылічальная машына. З часам, маўляў, з'явяцца машыны, у якіх будзе лямп не менш, чым клетак у мозгу. Вось тады машыны не паддадуцца мозгу. Ім будуць уласцівы ўсе пачуцці, усе здольнасці чалавека.

Пісалі і пра тое, што гэтыя машыны пачнуць самі рабіць адна другую, не толькі паўтараючы стары варыянт, але паляпшаючы, удасканальваючы канструкцыю. На зямлі з'явіцца новая, самая моцная «раса» — машыны, якія думаюць.

А далей, казалі такія прарокі, машыны ўзнімуць бунт супраць людзей і перамогуць іх. Машыны пачнуць кіраваць людзьмі.

А далей яшчэ больш неверагодны страшэнны малюнак. Машыны так размножацца, што ім будзе цесна на Зямлі, і пачнецца самая страшная вайна.

Дзіка? Зусім неверагодна?

А можа гэта праўда? Можа, хоць кропля праўды схавана за гэтымі прадраканнямі?

У нас ёсць электронныя машыны, якія лічаць. Ім крыху больш за 10 год, а яны ўжо намнога пераўзыходзяць чалавека і па хуткасці лічэння і па здольнасці з незвычайнай хуткасцю рашаць лагічныя задачы, і па аб'ёму памяці. Калі яны і далей так будуць развівацца, дык, чаго добрага, з цягам часу пераўзыйдуць мозг чалавека.

Калі так разважаць, дык стрэльба або нават лук ужо даўно пераўзышлі руку чалавека. Яны-ж далей кідаюць кулю і стралу. А хіба не больш дасканалы за руку паравы молат! Рука ў тых ці іншых адносінах уступае і нажу, і піле, і іншаму інструменту. Але чалавечая рука, дзякуючы працы, дасягнула, — пісаў Энгельс, — «той высокай ступені дасканаласці, на якой яна аказалася здольнай, быццам сілай чарадзейства, выклікаць да жыцця карціны Рафаэля, статуі Торвальдсена, музыку Паганіні».

Што-ж дае руцэ гэтую сілу? — Мозг. Ніводная частка чалавечага цела, у тым ліку і рука, не існуе без мозга і не робіць без яго ўказання ніводнага руху.

Таму, хто захацеў-бы пабудаваць механізм, які цалкам замяняе чалавечу руку, мы адказалі-б: паспрабуйце стварыць машыну, якая кіравала-б гэтай рукой не горш за жывы арганізм. Сучасная навука неабвержна даказала беспадстаўнасць усялякіх спроб стварыць істоту, падобную да чалавека.

Аднак стварэнне машыны, здольнай не толькі рашаць асобныя задачы, але і творча мысліць, з'яўляецца нібы роўнасільным стварэнню арганізма, не менш складанага, чым чалавек.

Справа тут не ў колькасці нервовых клетак і электронных лямп. Сярод жывёл ёсць нямала такіх, у якіх колькасць нервовых клетак не перавышае колькасць электронных лямп у лічыльнай машыне. Але справа ў тым, што лічыльная машына рэагуе на тыя сігналы, якія прадугледжаны канструктарам, — астатні свет для яе не існуе.

Хуткасць-жа развіцця лічыльных машын сведчыць аб высокім узроўні тэхнікі, аб сіле розуму чалавека.

Значыць, няма чаго баяцца бунту машын. Машына робіцца памочнікам мозга, а не яго супернікам.

І ўсё-ж параўнанне электроннай машыны з мозгам узнікае само па сабе, бо яны выконваюць аднолькавыя функцыі. У машынах і арганізмах ёсць падобныя з'явы, якія падпарадкоўваюцца агульным заканамернасцям. Ускрыць гэтыя заканамернасці — важная задача навукі. Інжынераў і канструктараў, якія ствараюць сучасную тэхніку — складаныя машыны і цэлыя сістэмы машын — веданне гэтых заканамернасцей узбагаціць вопытам прыроды, якая выпрацавала самае складанае на свеце — арганізм чалавека. Фізіёлагам, медыкам і псіхолагам веданне гэтых заканамернасцей дапаможа лепш вывучыць гэты арганізм ва ўсіх яго праяўленнях.

Вось гэтыя заканамернасці, агульныя для арганізмаў і машын, вывучае маладая, надзвычай важная і цікавая навука—кібернетыка.

Савецкаму чытачу не вельмі пашанцавала з кібернетыкай. Некалькі год назад у друку з'явіўся шэраг артыкулаў, аўтары якіх аб'явілі кібернетыку ілжэнавукай, ідэалістычнай лухтой. Даныя для такой знішчальнай ацэнкі былі пачэрпнуты, галоўным чынам, не з работ вучоных, якія развіваюць асноўныя палажэнні кібернетыкі, а з адвольнага пераказу іх зместу, які друкавалі масавыя выданні некаторых краін. Розныя выдумкі, накшталт таго, што машыны ўзнімуць бунт супраць людзей і будуць кіраваць імі, у гэтых выданнях выстаўляліся як вывады кібернетыкі.

Паходжанне тэрміну кібернетыка звязваецца з грэчаскім словам «кібернос» — кормчы, рулявы. Кібернетыка — гэта навука аб кіраванні.

Кібернетыка — вынік супрацоўніцтва многіх навук. У стварэнні яе ўдзельнічаюць фізікі, матэматыкі, электра-і радыётэхнікі, фізіёлагі, урачы, псіхолагі, лінгвісты.

«Перспектывы далейшага развіцця кібернетычных машын, — піша ў часопісе «Знание — сила» № 7 за 1956 год доктар філасофскіх навук, прафесар матэматыкі Экальман, — вельмі шырокія. Гэтыя машыны будуць усё больш і больш аблягчаць фізічную працу, а таксама разгружаць нас ад нудных аўтаматычных разумовых аперацый.






**Мы яшчэ ў адной краіне, якая пасля доўгай і напружанай барацьбы таксама скінула ярмо каланіялізма — у Інданезіі.**

**Адзін са здымкаў зроблены на востраве Балі. Вы бачыце мастакоў-рэзчыкаў па дрэву за вырабам скульптур. Гэты від мастацтва дасягнуў тут надзвычайнага майстэрства.**

**А гэта адна з вуліц Джак'якарты. Некалькі гадоў назад тут гаспадарылі іншаземцы. Цяпер тут гаспадаром сам інданезійскі народ.**

**А зараз — на старонку 23.**



# Што думаюць пра вас хлопцы?

## ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ

Дарагія хлопцы! Мы з вялікай увагай прачыталі ваша пісьмо. Вы ўзнялі пытанні, якія даўно хвалююць многіх.

Мы, совецкая моладзь, не павінны быць абыякавымі да такіх пытанняў, як сяброўства, каханне, сямейнае жыццё. Гэтыя пачуцці ў нас павінны быць такімі-ж моцнымі, як і ўвесь наш лад. Здаровая, моцная совецкая сям'я — аснова ўсяго. У такой сям'і выхоўваюцца сапраўдныя совецкія грамадзяне, здольныя будаваць комунізм. Але ці-ж сакрэт, што ў нас ёсць і такія сем'і, дзе сямейныя трагедыі — звычайная з'ява, дзе муж б'е жонку, дзяцей. Гэта гнілыя сем'і, сем'і, у якіх яшчэ захаваліся перажыткі старога свету. Муж лічыць сябе галавой сям'і, камандуе жонкай, запалохвае дзяцей. Чаму-ж у нас ёсць такія мужы? Усім-жа дадзена магчымасць жаніцца і выходзіць замуж па каханню. А ці-ж можна пакрыўдзіць каханага чалавека? Адкуль бяруцца ў нас такія сем'і?

У сваім пісьме вы ўскладаеце віну на нас, дзяўчат. Часткова вы правы. Ёсць у нас яшчэ такія дзяўчаты, пра якіх вы пішаце, дзяўчаты, якія ганьбяць святое слова «каханне», якія выходзяць замуж па разліку, глядзяць не на чалавека, а на яго становішча, прафесію. І, безумоўна, такая дзяўчына ці жанчына не здольна пабудаваць моцную совецкую сям'ю, такая сям'я рана ці позна распадзецца.

Але ці-ж няма гэткіх-жа хлопцаў? Ці-ж мужчыны не вінаватыя? Вы прыводзіце прыклады сямейных трагедый, дзе вінаваты жанчыны. Столькі-ж і нават больш можна прывесці прыкладаў, дзе вінаватымі з'яўляюцца мужчыны.

Вы ўжо, мусіць, зразумелі, што мы хочам сказаць. Вінаваты ў гэтым мы і вы. І на чыім баку больш вінаватых, цяжка сказаць. Нам хочацца прывесці некалькі прыкладаў у адказ вам.

Ёсць у нашым калгасе такая Оля. Яна ўжо жанчына, у яе ёсць дзеці. Муж яе загінуў на фронце.

І вось гэтая Оля вядзе такое жыццё: да яе кожнага вечара завітаюць жанатыя мужчыны. Яна, такім чынам, разбівае чужыя сем'і. З-за яе адбываюцца сямейныя непаладкі. І такая жанчына, вядома, не можа выхаваць дзяцей сапраўднымі людзьмі, калі яны толькі не пакінуць яе.

Ну, а мужчыны, якія вяртаюцца ад яе дадому, паднімаюць скандалы, не даюць спакою ні жонцы, ні дзецям. Ці-ж не вінаваты яны? А сярод іх ёсць нават члены партыі, адказныя работнікі. Толькі бяздушныя эгаісты, людзі, якія страцілі ўсялякую адказнасць за свае ўчынкі могуць так рабіць.

Так, яны вінаваты ў большай ступені, чым яна. Ты-ж узяў на сябе імя мужа, бацькі. Дык апраўдай-жа яго!

Вы, магчыма, скажаце, што сярод нашага маладога пакалення няма такіх. Не, гэта не так. Калі хочаце ўпэўніцца, даведацца, адкуль бяруцца такія мужчыны, гляньце цвяроза на жыццё некаторых хлопцаў. Зайдзіце ў парк, на танцпляцоўку. І там вы сустрэнеце стыляг, п'яных, нахабных хлопцаў. Вось з такіх і атрымліваюцца падобныя мужчыны.

Вы кажаце нам, што каханне — гэта узвышанае, сур'ёзнае пачуццё. А ці ведаеце вы самі аб гэтым добра? Ці адносіцеся вы самі сур'ёзна да гэтага пачуцця? Далёка не ўсе.

Вы пішаце, што вы не церпіце ў сваім асяроддзі такіх матылькоў, якія пералятаюць з кветкі на кветку, і вядзеце з імі барацьбу. Дык дазвольце вам сказаць, дарагія хлопцы, што дрэнна вы з імі змагаецеся. Колькі ёсць сярод вас такіх, якія шукаюць у дзяўчыне толькі забавы, здзекуюцца над яе пачуццямі.

Група студэнтаў аднойчы надумала пажартаваць з адной дзяўчыны. Адзін з іх прыкінуўся закаханым. Прадставіўся ёй мараком. Ён прыходзіў да яе на спатканні, гаварыў ёй розную лухту. Сябра гэтага хлопца зрабіў выгляд, што таксама закаханы і рэўнуе. І вось аднойчы, калі хлопец з дзяўчынай сядзелі ў скверы, да іх падыйшлі яго сябры. Яны зрабілі выгляд, што не ведаюць яго і што хочуць збіць яго за дзяўчыну. Узначальваў ўсё гэта другі «закаханы». Хлопец стаў уцякаць, ратавацца. Усе астатнія пабеглі за ім. Дзяўчына бегла за імі і плакала. Яна прасіла іх не чапаць яго. Яна паверыла, што яны будуць яго біць. А яны ў гэты час сабраліся ў пакоі інтэрната і смяяліся з дзяўчыны, што яна такая даверлівая.

Мы параілі-б вам больш сурова змагацца з такімі, бо ў вашым асяроддзі іх больш, чым вы думаеце.

Далей вы пішаце, што дзяўчаты ў апошні час сталі залішне прыхарошвацца. Гэта мае аднолькавае дачыненне і да вас. Колькі можна сустрэць на вуліцах горада хлопцаў у вузенькіх, кароткіх штанах, паласатай шапцы, са стракатым гальштукам і з паднятым каўняром — так званых стыляг. На танцах гэтыя хлопцы імкнуцца перакрывіць нашы танцы, уяўляючы сябе «прафесіяналамі» танцаў.

Сярод вас таксама ёсць такія, якія глядзяць не хто яго жонка а кім яна будзе, колькі будзе атрымліваць грошай.

Наташа сябравала з Сяргеем два гады да арміі. Тры гады ён быў у арміі, і яна яго чакала. Скончыла Наташа дзесяцігодку ў тым-жа годзе, калі Сяргей вярнуўся з арміі. Наташа вырашыла стаць урачом. І Сяргей ганарыўся гэтым. Ён часта гаварыў сваім сябрам: «Мая будучая жонка — зубны ўрач». Сяргей паехаў працаваць у Данбас, Наташа паехала здаваць экзамены ў Львоўскі медыцынскі інстытут. Але Наташа не прайшла па конкурсу. Перад ад'ездам на экзамены Наташа і Сяргей дамовіліся запісацца пасля заканчэння першага курса інстытута. Але на пісьмо, у якім Наташа паведаміла, што не прайшла па конкурсу, яна не атрымала адказу. А Сяргей праз некалькі месяцаў прыехаў дадому з жонкаю.

Хочацца пагутарыць і аб вашай культуры.

Вы пішаце, што з сур'ёзнай дзяўчынай хлопец не пойдзе танцаваць у шапцы і з папяросай у зубах.

Гэта можна аднесці толькі да часткі хлопцаў. Але ёсць і такія, што не толькі танцуюць у шапцы, гавораць непрыстойныя словы пры дзяўчатах, але і наладжваюць бойкі, перашкаджаюць моладзі культурна правесці свой выхадны дзень.

І ўсе гэтыя хлопцы стануць мужамі, бацькамі. І ў многіх з іх могуць быць трагедыі ў сямейным жыцці.

Дарагія хлопцы, вы прасілі адказаць на ваша пісьмо. Мы адказалі вам проста і адкрыта. Але мы не хочам аднесці гэтыя недахопы да ўсіх хлопцаў. Жыццё было-б вельмі сумным, калі-б вы ўсе былі такімі. Большасць з вас дастойныя нашага кахання і павагі. Вы мацуеце нашу Радзіму, будуеце новую будучыню, і мы ганарымся вамі за гэта.

Лідзія РАДКЕВІЧ,
Наташа КУЗНЯЦОВА.

в. Мартынюкі
Камянецкага раёна
Брэсцкай вобласці.

## СЦІПЛАСЦЬ УПРЫГОЖВАЕ ЧАЛАВЕКА

Дарагія рабяты: Леанід, Аляксандр і Валянцін!

Ваш ліст «Што думаюць пра вас хлопцы?» адрасаваны спецыяльна да дзяўчат, але пытанні, закранутыя вамі, датычацца не толькі адных дзяўчат, але і хлопцаў.

Вы ўзнімаеце адно з хвалюючых пытанняў нашай моладзі — на чым павінна грунтавацца сапраўднае каханне, якой павінна быць дзяўчына, хлопец, сям'я. Тут сапраўды ёсць аб чым пагаварыць, паспрачацца.

Зараз, калі я пішу гэтыя радкі, мне ўспамінаюцца мае былыя аднакурсніцы — выпускніцы БДУ імя В. І. Леніна: Зіна Солтан, Соня Вайцеховіч, Галя Барташэвіч, Ніна Манько, Марыя Варчэня і іншыя. Выдатніцы вучобы, актывісткі, чулыя таварышы, яны заслужана карысталіся ўсеагульнай павагай і аўтарытэтам. Шчырыя і адданыя, нашы дзяўчаты былі прыкладам ва ўсім. Імі, выхаванкамі Ленінскага комсамола і совецкай школы, ганарыцца універсітэт. Можна спадзявацца, што і ў далейшым як у рабоце, так і ў жыцці яны будуць такімі-ж прыкладнымі і высакароднымі. А колькі ёсць і другіх слаўных совецкіх дзяўчат!

Такіх-жа, як Валя Мураўёва, аб якой вы пішаце, бяздушных і легкадумных, сярод нашай моладзі знойдзецца не так многа, але яны ёсць. Вось аб іх мы і пагаворым.

Мой добры знаёмы Мікалай В., які працуе ў адной з устаноў г. Мінска, некалькі год таму назад пакахаў прывабную дзяўчыну Ніну Г.

Ціхая і паважная на першы погляд, Ніна літаральна паланіла сэрца Мікалая і выклікала чаруючае замілаванне ў яго сяброў. Пасля вяселля Мікалай прывёў маладую жонку ў новую, добра абсталяваную кватэру і, шчаслівы, сказаў: «Ну, Ніна, будзь гаспадыняй!» Ніна, відаць, мікалаевы словы разумела па-свойму. Калі нарадзілася дзіця, Ніна ўзяла досыць працяглы водпуск, а пасля зусім пакінула работу. Цяпер Ніну ўсёроўна як хто падмяніў. Увесь цяжар работы яна ўзваліла на плечы Мікалая. «Коля, ідзі ў магазін», «Коля, ідзі на базар», «Коля, вары абед». А лаянка стала яе хранічнай хваробай. А нядаўна Ніна, ні з чым не лічачыся, заявіла Мікалаю: «Купі мне футру за дзесяць тысяч рублёў, хоць памры». І няхай Мікалай паспрабуе не выканаць загад уладарнай палавіны! Ніна завядзе такую сімфонію, што хоць уцякай з дому.

Невыносныя ўмовы стварыліся ў сям'і. Але Мікалай вельмі любіць дзяцей, а іх ужо двое, і не хоча рабіць іх нешчаслівымі. Вось і пакутуе небарака.

Выйсці замуж з выгадай, з карысцю для сябе, так, каб не працаваць самой, а жыць за кошт мужа — вось, як ні дзіўна, ідэал некаторых нашых дзяўчат.

Ці не карыслівым разлікам прадыктаваны той факт, што некаторыя выпускніцы універсітэта пасля размеркавання на работу выходзілі замуж за любога, хто быў-бы ім зручным. На здзіўленне таварышаў Тамара К. адказала:

— Не выходзіць-жа мне ў вёсцы замуж за трактарыста ці калгасніка!

Балюча, дзяўчаты, чуць такія словы.

А вось хлопцы Адам М., Генадзій К., Леанід Я., Віктар С., якія таксама маюць вышэйшую адукацыю, жаніліся на «простых» дзяўчатах, сябровак жыцця яны выбіралі, не правяраючы, ці ёсць у іх дыплом аб заканчэнні ВНУ, а па духоўных і душэўных якасцях, па іх чалавечнасці, і сваё шчасце хлопцы знайшлі.

Наконт густаў можна спрачацца больш за ўсё. Мне здаецца, што ў некаторых нашых дзяўчат сапсаваны густ, і яны не выхоўваюць у сябе тонкага пачуцця меры, больш таго, слепа пераймаюць чужыя, часам вельмі далёкія ад дасканаласці густы. Дастаткова сёння аднoй апрануць што-небудзь незвычайнае, як заўтра яе скапіруюць многія, не задумваючыся над тым, падыходзіць гэтая рэч ім ці не.

У мінулым годзе верхам моды ў мінскіх дзяўчат лічыўся пояс-змейка, за якім яны ездзілі аж у Ленінград; сёлета ўсё хараство пояса, на іх думку, заключаецца ў яго як мага большай шырыні. Аднак бадай самую страшэнную мадэрнізацыю перажываюць бедныя дзявочыя прычоскі. У гэтым кірунку вынаходніцкая думка віртуозаў-цырульнікаў, відаць, працавала на славу. Якіх толькі фокусаў моды не сустрэнеш на вуліцы! Адзін з фасонаў хлопцы іранічна называюць «квадратна-гнездавым спосабам». Як брыдка глядзець на галаву дзяўчыны, калі яе прычоска нагадвае электрапрыбор для даення кароў. У апошні час шырока распаўсюджваецца няўдалае спалучэнне мужчынскай і жаночай прычосак — патыліца стрыжэцца «пад хлопчыка», спераду — касмыль валасоў закручваецца некалькімі абаранкамі. Згадзіцеся, што ў такой прычосцы мала прыгожага.

Мы не выступаем увогуле супроць новых мод. Мы асуджаем толькі іх празмернасці і хочам, каб вы, дзяўчаты, праяўлялі тут больш густу, які заўсёды праяўляецца ў прастаце і сціпласці. Сціпласць упрыгожвае чалавека.

Да пытанняў фасону, моды, я думаю, кожны чалавек павінен падыходзіць індывідуальна, улічваючы ўсе свае знешнія якасці, па прынцыпу: сем раз адмерай, раз адрэж. А вось выпускніца універсітэта Люся Е., мусіць, рабіла наадварот. Яе звышнатуральнае модніцтва было пастаяннай тэмай аддзела гумару насценнай газеты. Люся, напрыклад, насіла спадніцу, шырыня якой не перавышала флоцкай штаніны, ад гэтага дзяўчына не хадзіла, а неяк сударгава перастаўляла ногі.

Што крывіць душой, кожны з нас хоча, каб яго будучая сяброўка жыцця была прывабнай, умела спяваць і танцаваць, пашыць і памыць. Хто з нас не адчуваў прыемнага задавальнення, калі заходзіў у чысты і ўтульны пакой, дзе вырашчаны прыгожыя кветкі, дзе ёсць вышываныя дарожкі, падушачкі — пакой, у якім адчуваецца клапатлівая жаночая рука. І калі такая гаспадыня не цураецца грамадскай работы — чэсць і слава гэтай жанчыне!

Мне здаецца, хлопцы, што вы не зусім маеце рацыю, дакараючы дзяўчат за тое, што некаторыя з іх не ўмеюць прыгатаваць ежу. Вы пішаце: «Ажэнішся на такой і будзеш на сухім пайку сядзець век свой».

Справа ў тым, што некаторыя дзяўчаты не мелі магчымасці дасканала авалодаць майстэрствам кухні. Кулінарнай справе іх бацькі не вучылі, не вучыла і школа (а бадай неабходна было-б). Прыйшоўшы на прадпрыемства ці ў навучальную ўстанову, яны захапіліся работай ці вучобай, грамадскімі абавязкамі і даручэннямі, а не доманаводствам.

Я шчыра прызнаюся: калі мая каханая будзе няўдалым кулінарам, а будзе ў яе вялікае сэрца і добрая душа, я ажанюся, не задумваючыся. Яе недахоп (а ў каго іх няма) мы лёгка выправім разам удвух, няхай яна будзе толькі чалавечнай, няхай паміж намі будзе згода і ўзаемная павага.

І яшчэ хачу сказаць вам у заключэнне: хлопцы ў вашым лісце выглядаюць дужа рахманымі. «Мы, моў, мяккія, на нас уплываюць дзяўчаты»... Гэта так, ды не зусім.

А таму на старонках нашага маладзёжнага часопіса дзяўчаты няхай скажуць пра нас, хлопцаў, сваё важкае аўтарытэтнае слова.

У спрэчцы нараджаецца ісціна.

Іван ЦІШЧАНКА,
выкладчык Мінскага тэхнікума
харчовай прамысловасці.





Гэтым летам частка студэнтаў Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута праводзіла сваю вучэбную практыку на беразе возера Нарач, частка — ў Радашковіцкім раёне Мінскай вобласці. Маляўнічыя пейзажы, праца калгаснікаў і нарачанскіх рыбакоў паслужылі тэмамі для шматлікіх эцюдаў маладых мастакоў. Некалькі з гэтых работ мы друкуем у гэтым нумары.

Уверсе: «Брыгада выходзіць на лоў» — замалёўка студэнта III-га курса Л. Шчэмелева; унізе — рысункі пяром студэнта I-га курса Т. Паплаўскага — «Раніцай» і «Навальніца ідзе»; злева — правая частка трыпціха «Хлеб», работа студэнта III-га курса А. Кашкурэвіча.











## СЁННЯ Ў КІТАІ

Злева: **на будаўніцтве маста праз раку Ян-дзінь у г. Ухані.**

Справа ўверсе: **помнік кітайскага мастацтва «Імператарская сцяна дзевяці драконаў» у парку Поўночнага мора ў г. Пекіне.**

У сярэдзіне: **група савецкіх спартсменаў сярод піонераў горада Пекіна.**

Унізе: **г. Пекін. Ля ўваходу ў парк Поўночнага мора.**

Фото Я. Новікава.



# ТРЫ СУСТРЭЧЫ

**Вас. ДАНІЛЕВІЧ**

1

Гэта было год пяць таму назад. Лета тады было гарачае, з навальніцамі. На гарадскіх вуліцах—сухмень, пыл. Кожнага цягнула за горад, на свежае паветра. У адзін з такіх гарачых дзён, здаецца ў нядзелю, мы пайшлі на возера. На яго зялёным беразе ўжо было мноства людзей. Пачалі шукаць, дзе можна-б прытыкнуцца. Знаёмы спартсмен падказаў: ндрэнна на астраўку, каля плавальнага басейна.

Мясціна гэтая аказалася цудоўнай. З зялёнага астраўка можна азірадь усё возера. Вунь справа, на воднай роўнядзі, гойдаюцца блакітныя байдаркі; злева, у басейне, моладзь гуляе ў мяч.

На нашым астраўку хоць і менш людна, але таксама ажыўлена. Тут ідуць заўзятыя спартыўныя гульні.

Непадалёк, у ценю вербалозніку, ляжыць на ўзлокатках юнак. Усміхаючыся, ён спакойна назірае за тым, што робіцца навакол. Але не доўга. Захапіўшыся, і ён не вытрымлівае, хутка ўскоквае і пачынае рабіць вольныя практыкаванні. Нехта з хлапчукоў крычыць:

— Зараз Марык дасць гастролі!

Хлопца гэтага, відаць, многія тут добра ведаюць. Усе пачалі чакаць. Зацікавіліся і мы: на якія-ж «гастролі» здатны гэты спакойны, камлюкаваты хлапец?

Марык доўга не прымусіў нас чакаць. Пакончыўшы з вольнымі практыкаваннямі, ён зрабіў стойку. Усе былі здзіўлены: не кожнаму цыркаваму акрабату ўдаецца такая! Ну, свечка, дый годзе! Затым хлапец проста-такі зачараваў нас. Вось ён з разгону выконвае цэлую серыю прыжкоў. Ды яшчэ якіх прыжкоў!

Вось табе і Марык! А сапраўды, хто-ж ён такі? Можа, на самай справе цыркавы артыст?

Нам захацелася пагаварыць з Марыкам, але ён нечакана павярнуўся і паімчаўся да вышкі. Неўзабаве там ён рабіў прыжок-«ластаўку». Калі ён узняўся на вышку трэці раз, нехта з хлапчукоў крыкнуў:

— Марык, давай «каронны»!..

I вось новы прыжок — тры абароты наперад з разгону. Усе любаваліся майстэрствам юнага спартсмена. Нам яшчэ больш захацелася дазнацца, хто-ж ён, гэты хлапец-спартсмен.

— Марык, ты вучышся? — спытаў я.

— У восьмым класе,— коратка адказаў Марык.

— А гэта адкуль? — паказаў мой спадарожнік-спартсмен на вышку, дзе толькі што здзіўляў нас усіх Марык.

— Гэта?

I ён расказаў нам наступнае.

Яшчэ вучнем шостага класа Марыку з суседнімі хлапчукамі давялося бачыць у цырку добрых прыгуноў. Хлапчукі вырашылі навучыцца так прыгаць. Доўга не думаючы, сябры ўскапалі ў садзе пляцоўку і пачалі трэніравацца. Неўзабаве яны дамагліся нядрэнных поспехаў, асабліва добра атрымлівалася ў Марыка.

За гэтым заняткам і застаў хлапчукоў аднойчы трэнер-акрабат Ільін.

— Прыгаеце вы, хлопцы, смела,— сказаў трэнер.— Але ў вас няма «школы». Як-бы гэта вам сказаць лепей, адным словам, няма ў вас адпаведнай падрыхтоўкі...

Паназіраўшы яшчэ крыху, трэнер прапанаваў хлопчыкам:

— Прыходзьце да мяне ў секцыю. Я навучу вас прыгаць, як трэба!..

Марык стаў адным з актыўных вучняў Ільіна. Выконваў усе яго патрабаванні.

...У выхадныя дні на возеры ў тое лета мы заўсёды сустракалі Марыка — Марка Аляксеева. Але аднойчы яго там не аказалася.

— Паехаў,— сказалі хлапчукі.— Здаецца, паехаў вучыцца.

Памятаю, што да канца купальнага сезона сустрэцца з Марыкам так і не давялося.

2

У наступным годзе зімой адна спартыўная падзея захапіла ўвагу маладых мінчан. У Мінскім акруговым Доме афіцэраў меліся адбыцца Усесаюзныя спаборніцтвы па прыжках у ваду. У іх збіраўся ўдзельнічаць і чэмпіён студэнцкіх гульняў у Будапешце Ісак Баркан. Аматары з нецярплівасцю чакалі адкрыцця спаборніцтваў. Прыжкі ў ваду — захапляючы від спорту.

I вось гэты дзень настаў. Балконы воднага басейна запоўнены гледачамі. Унізе выстраіліся прыгуны. Кожнаму належала зрабіць дзесяць прыжкоў: пяць, якія ўваходзілі ў праграму спаборніцтваў, і пяць вольных. Апошнія прыжкі выклікалі ў прысутных асаблівую цікавасць. Вольныя прыжкі — гэта творчасць кожнага спартсмена.

...Спаборніцтвы пачаліся. Прыгуны адзін за другім выконвалі праграмныя практыкаванні. На вышцы — Ісак Баркан. Гледачы сустрэлі яго дружнымі воплескамі. Выконваецца першы прыжок — паўтара абароты наперад. Спартсмен, нібы мяч, адскоквае ад трампліна і, выкруціўшы паўтара абароты, свечкай апускаецца ў ваду. Чыстая работа!

У рэпрадуктары чуем:

— Выступае Марк Аляксееў!

Марык? Нам прыгадаліся спякотлівы дзень, возера, вышка і спакойны хлапчук, які «даваў гастролі». Цікава!

Пасля першага-ж прыжка Марка Аляксеева пачуўся гром воплескаў. Нават бывалы прыгун Ісак Баркан аж азірнуўся: каго-ж гэта сустракаюць гледачы?

Хутка стала ясна, што барацьба за асабістае першынство разгорнецца паміж двума прыгунамі — Ісакам Барканам і Маркам Аляксеевым, які дагэтуль яшчэ быў невядомы ў спорце. Змаганне насіла востры характар: праграмныя прыжкі выконваліся аднолькава добра. Зыход павінны былі вырашыць вольныя прыжкі.

Вольныя прыжкі Баркана вызначаліся не толькі складанасцю, але і бліскучай тэхнікай выканання. Здавалася, Аляксееву не ўстаяць. Але вось ён выконвае адно, другое, трэцяе практыкаванні. Не, яго прыжкі ніколькі не горш барканаўскіх. Хто-ж выйдзе пераможцам?

У Аляксеева — апошні прыжок. Спартсмен стаіць ля задняй балкі на вышцы, прыкметна хвалюючыся. Потым — разгон, моцны штуршок, і спартсмен, зрабіўшы паўтара абароты наперад і вінт, без усплёску нырае ў празрыстую ваду. Гэта прыжок!

Нашы спадзяванні збыліся: Марк Аляксееў выйграў асабістае першынство. Ісак Баркан пацісну́ў руку свайму маладому «праціўніку».

Марыка акружылі сябры, шумна віншуючы з перамогай. Развітваючыся, мы яшчэ раз уносілі з сабою шчырае пачуццё прыязнасці к гэтаму камлюкаватаму хлопцу.

3

Трэці раз нам здарылася сустрэцца з Марыкам у Маскве. Прыехаўшы ў сталіцу па сваіх справах, неяк у выхадны дзень я трапіў на спаборніцтвы па акрабатыцы, якія праходзілі ў вялікай светлай зале таварыства «Крыллі Советаў». Спаборніцтвы ішлі ўжо некалькі дзён. У гэты дзень павінны былі выступаць акрабаты па праграме майстроў спорту, а таксама са сваімі адвольнымі нумарамі.

— Хто сёння будзе выступаць? — спытаў я ў першага трапіўшага пры сустрэчы ў зале гледача.

— Ды вунь той, што робіць размінку,— адказаў той, паказаўшы на акрабата, які рыхтаваўся ісці да выхаду.

Фігура акрабата здалася знаёмай. Ды гэта-ж ці не Марык? Сапраўды, ён!

А Марык спакойна рыхтаваўся да прыжка. Разагнаўся і, штурхануўшыся нагамі аб трамплін, закруціўся ў паветры. Два пярэднія сальта! Але прызямліўся няўдала, ледзь не расцягнуўшыся на зямлі. Да яго падбегла дзяўчына ў белым халаце і пачала расціраць калена, якое ён, відаць, моцна ўдарыў.

— Вось няшчасце,— паспачуваў нехта з гледачоў.— Як ён будзе выконваць гэты нумар у залік?

Але Марык пайшоў да трампліна. Ён выдатна выкруціў два сальта і мякка прызямліўся на дыван. Зала загрымела апладысментамі.

Суддзя аб'явіў ацэнку:

— Дзевяць і чатыры дзесятых бала!

I зноў — гром апладысментаў.

У канцы спаборніцтваў я сустрэўся з Марыкам. Ён сарамліва трымаў у руках прыгожую шкатулку, дзе былі грамата і жэтон. У той раз ён заняў трэцяе месца ў змаганні мацнейшых акрабатаў Масквы.

— Ганаровыя «трафеі»,— заўважыў я.

— Так,— адказаў Марык, яшчэ больш засаромеўшыся.— Але не гэта галоўнае.

— А што-ж?

— Я сёння выканаў норму майстра спорту СССР.

Яго мара была ажыццёўлена.

Нядаўна я сустрэў спартсмена, які добра знаёмы з Маркам Аляксеевым. Марык паспеў ужо закончыць у Маскве цыркавое вучылішча і зараз вучыцца ў Беларускім дзяржаўным фізкультурным інстытуце, павышае веды, удасканальвае сваё майстэрства.

На Спартакіядзе народаў СССР Марк Аляксееў у зборнай камандзе прадстаўляў разам са сваімі сябрамі лепшых спартсменаў па прыжках у ваду.



Суддзі ўважліва сочаць за прыжком спартсмена.
Фото Ю. Мацука




# Забытаная справа

Аляксандр **КАПУСЦІН**

Мал. Г Паплаўскага

**Запіскі юрыста**

Здарылася гэта ў пачатку верасня. Уночы ў аддзяленне міліцыі пазванілі з Селішча. Усхваляваны голас паведаміў, што непадалёку ад вёскі абрабаваны нарыхтоўшчык сельпо. Злачынца нанёс удар ззаду па галаве, забраў грошы і знік. Адразу-ж на месца злачынства выехалі пракурор і работнікі міліцыі. Пацярпеўшы Ціт Бандарчук быў дома. Ён скардзіўся на шум у галаве, моршчыўся ад болю, але сам прапанаваў паказаць месца здарэння. Павязка на яго патыліцы была ў крыві. Ціт яе ўвесь час папраўляў і, звяртаючыся да каго-небудзь з прысутных, гаварыў:

— Аж у вачах кругі. Гэта-ж так трэснуць. Добра, што хоць яшчэ жывым застаўся!

На месцы здарэння знайшлі кавалак цаглі́ны. Пракурор Ігнат Іванавіч Чуяшоў знайшоў яшчэ ўтаптаны ў зямлю гузік. Здавалася, яго ён толькі і шукаў: ён доўга ўглядаўся ў тое месца, дзе ляжаў гузік, асвятляючы ліхтарыкам прытаптаную прыдарожную траву, ледзь прыкметныя сляды на пясчанай дарозе.

На месцы здарэння больш нічога не знайшлі. Пратакол пісалі ў сельсавеце. Бандарчук, падпёршы галаву рукою, сядзеў каля стала і час-ад-часу зазіраў у пратакол. Раптам яму зрабілася горш. Ён пахіснуўся, застагнаў, і яго адвялі дадому. Ігнат Іванавіч дапытаў некалькі чалавек рабочых, якія ў той дзень працавалі ў садзе. Яны расказалі, што на крык Бандарчука адразу-ж падбеглі да яго і ўбачылі, што з таго боку, куды, па словах пацярпеўшага, пабег рабаўнік, з-за кустоў выскачыў на шлях грузавік і паімчаўся ў бок Кляноўкі. Але нумара машыны ніхто не заўважыў.

Дадому Ігнат Іванавіч прыехаў на світанні. Стомлены, занепакоены, ён прышоў на працу раней, чым звычайна, і зайшоў адразу да следчага Сцяпана Карпавіча Маркушава. Следчы ўжо быў у пракуратуры. Яму пракурор і даручыў расследаванне гэтай справы, бо сам ён атрымаў чарговы адпачынак.

Сцяпан Карпавіч быў чалавекам тутэйшым. Скончыўшы юрыдычны інстытут, ён папрасіўся на працу ў свой раён і атрымаў накіраванне ў раённую пракуратуру. Прыехаў ён на станцыю пад вечар і, вырашыўшы, што ў пракуратуры цяпер ужо нікога няма, пашыбаваў дадому ў вёску Кляноўку.

Па дарозе яго дагнаў грузавік з поўным кузавам залацістай пшаніцы. Параўняўшыся са Сцяпанам, ён спыніўся. З кабіны выскачыў аднавясковец Іван Чарнагуз і, прыклаўшы руку да казырка зашмальцаванай кепкі, весела гукнуў:

— Гонар маю, таварыш... Хто вы, следчы ці пракурор — не ведаю...

Потым схапіў сцяпанаву руку ў свае невялікія рукі і так яе пацісну́ў, што Сцяпан аж войкнуў:

— Моцы ў цябе ў руках, як у таго асілка, — не глядзі, што маленькі, — усміхнуўся Сцяпан.

— Я-ж, як злосны бываю, дык семярых забіваю, — пажартаваў Іван, і раптам твар яго зрабіўся насмешліва сур'ёзным.

— Прашу ў кабіну. Падвязу з вецярком. — Голас яго быў падкрэслена ветлівым, а вочы праменіліся смехам.

— Ну, і перасмешнік... Ніколькі не змяніўся. Ты, напэўна, і ў сне смяешся? Пачакай, а калі гэта ты на шафёра вывучыўся?

Сцяпан ведаў, што Іван раней працаваў у калгасе рахункаводам.

— Ды тады, калі ты там у інстытуце кодэксы розныя вывучаў.

Каля вёскі Сцяпан спытаў:

— Пшаніцу куды павязеш?

— У першы свіран,— і Іван па-змоўніцку падміргнуў вокам, панізіў голас:— А рэшту на самагонку пусцім.

— Зноў пачынаеш,— усміхнуўся Сцяпан.

А шафёр прадаўжаў:

— Дамовіліся з камбайнерам і кладаўшчыком крыху прапусціць праз трубку. Спадзяюся, што ты мяне не арыштуеш, калі што якое...— і, не вытрымаўшы, зноў зарагатаў.

— Дык ты-ж, здаецца, не п'еш цяпер,— кальнуў сябра Сцяпан.

З пісьма маці ён ведаў, што Іван праз выпіўку нават у турму трапіў. Аднойчы, будучы п'яным, нахуліганіў і быў асуджаны на год пазбаўлення волі.

— Не п'ю. Яна мне колам у горле стаіць. Аднойчы ў рот узяў і папярхнуўся: пра аўтаінспектара ўспомніў.

І зноў свавольна засмяяўся.

На павароце яны развіталіся. Іван паехаў да свірна, а Сцяпан пайшоў напрамкі ў вёску. Ішоў і думаў: «Неўтаймаваная натура якая! Усё жартуе. І як гэта ён у турму трапіў? Розумам не дайду. А пра самагонку... Жартуе ці і сапраўды прапускае праз трубку час-ад-часу? Зразумей яго»...

Ціт Бандарчук сядзеў насупраць следчага і паволі расказваў:

— Грошы я расклаў па кішэнях — у адну не ўмяшчаліся. Як ні кажы — дзесяць тысяч. Пабыў у садзе, пакуль не скончылі адгрузку яблык, і ўжо калі зусім змерклася — пайшоў дадому, на пасёлак. Толькі прайшоў мост на дарожцы, што выходзіць на Кляноўскі шлях, а тут нехта ззаду па галаве як трэсне! Дык мяне і павяло ў бок. Калі ён выцягваў грошы, дык схіліўся нада мной, і я заўважыў яго ў твар. Вечар быў месячны, можна было заўважыць.

— А вы пазналі-б яго?

— Пазнаў-бы, як-жа.

— Што вы такое прыкметнае заўважылі на яго твары?

— Ну, як вам сказаць... Нічога асаблівага, але пазнаў-бы.

— Пачакайце, Бандарчук. У сваёй заяве ў пракуратуру вы пісалі, што страцілі прытомнасць. Дык як-жа вы маглі заўважыць у твар чалавека, які вас абрабаваў?

Бандарчук уважліва паглядзеў на следчага і праз хвіліну адказаў:

— Я страціў прытомнасць адразу, як толькі ён мяне ўдарыў. А пакуль ён выграбаў з маіх кішэняў грошы, апрытомнеў.

Допыт пацярпеўшага і шматлікія допыты сведак нічога станоўчага для расследавання справы не далі. Сведкі пацвярджалі, што, калі прыбеглі на крык, Ціт намагаўся стаць на ногі, але не мог, усякі раз зноў падаў. Галава яго была ў крыві. Больш ніхто нічога не бачыў. У дадатак да таго, што Бандарчук расказаў пракурору, следчаму ён паказаў, што таксама бачыў грузавік, які выскачыў з-за кустоў. Пракурору ён не расказваў пра гэта таму, што забыўся. Галава трашчала ад болю. Эпізод з грузавіком вельмі зацікавіў Сцяпана. Калі рабаўнік перабягаў дарогу ў пералесак, дык шафёр, напэўна, яго заўважыў і могбы даць каштоўныя для расследавання справы звесткі. А калі ён уцёк на грузавіку, дык зноў-жа, ведаючы нумар машыны, можна было хутчэй разблытаць гэты клубок і знайсці злачынцу. І следчы шукаў загадкавы грузавік. Але натрапіць на яго след не ўдалося.

Сцяпан зноў — у каторы раз — пачаў праглядаць справу. У судова-медыцынскім пасведчанні гаварылася, што на галаве ў пацярпеўшага была невялікая ранка на скуры. Гэта было лёгкае раненне. Чамусьці раней Сцяпан не звярнуў на такую акалічнасць асаблівай увагі, а цяпер вырашыў назначыць медыцынскую экспертызу. Яго цікавіла пытанне, ці можна пры такім раненні страціць прытомнасць. Абласны судова-медыцынскі эксперт дэталёва пазнаёміўся з медыцынскім заключэннем, выданым раённай бальніцай, з усімі паказаннямі Бандарчука. Так, пашкоджанні, нанесеныя Бандарчуку, адносіліся да катэгорыі лёгкіх. Але-ж галоўнае было не ў гэтым. Ні адзін эпізод, звязаны з абрабаваннем, не выпаў з бандарчуковай памяці. І эксперт даў катэгарычнае заключэнне, што страты прытомнасці не было.

Следчы азнаёміў Бандарчука з заключэннем эксперта. Бандарчук прачытаў заключэнне, паклаў яго на стол і спакойна адказаў:

— Як-жа не страціў? Страціў. Мне лепш вядома, чым эксперту?

— Але-ж ён сцвярджае, што гэта немагчыма!

— А што, эксперт не можа памыліцца? Можа.

«І то праўда»,—зазначыў у думках следчы.

На другі дзень да Сцяпана ў пракуратуру зайшоў Іван Чарнагуз. Сцяпан зірнуў на яго ўважліва, спытаў:

— Пра сустрэчу з аўтаінспектарам ты, відаць, ужо забыўся?

— З якім аўтаінспектарам? А-а, вось ты аб чым,—усміхнуўся Іван.— Дык я-ж адных толькі сто грам... І то таму, што адмовіць не мог, характар слабы. — І ўжо сур'ёзна дадаў: — Я да цябе па справе. Падвозіў я да мястэчка аднаго грамадзяніна, здаецца, Бандарчук яго прозвішча. Ехалі, разгаварыліся. Ён мне расказаў, што ў Селішчы яго абрабавалі, галаву разбілі. А я тады якраз быў там...

— Быў там? — жыва перапытаў Сцяпан.— У колькі гадзін, прыкладна?

— Ды ўжо ўвечары... Ага, дык ведаеш, як ён узрадаваўся!

— А чаго ты ездзіў у Селішча?— зноў перабіў следчы.

— У МТС па запасныя часткі для трактара. Дык слухай далей. У мястэчку ён мне грошы даваў. Я думаў, за тое, што падвёз яго.

— А завошта-ж?

— Ды паслухай ты,— зазлаваў Іван.— Пасля распытаеш. Дык вось... Калі я адмовіўся ад грошай, дык ён прычапіўся: «Пойдзем, кажа, па бутэльцы піва вып'ем». А тады гляджу — паўлітэрку выцягвае з кішэні. Ну, выпілі мы патроху. Ён мне і гаворыць: «Схадзі ты да следчага і раскажы яму аб гэтым». «Аб чым?» — пытаюся. «Ну, што быў там. Скажы, што бачыў, як з кустоў праз дарогу бег чалавек». І ўсё падлівае ў маю шклянку. «Дык я-ж не бачыў»,— кажу. А ён мне: «Давай, браце, вып'ем»,— і суне шклянку ў руку. — «Ды гэта,— кажа,— нічога, што не бачыў. Тады злачынцу мо' смялей будуць шукаць». Дык вось я і прышоў перадаць яго просьбу,— закончыў Іван.

— Цікава,— Сцяпан устаў з-за стала, пачаў хадзіць па кабінеце.

Іван таксама ўстаў.

— Ну, я паеду, няма часу.
— Пачакай, дзе гэта ты гузікі свае пагубляў?
— Якія гузікі? А, вось гэта? Знайшоў аб чым гаварыць...
— А гэта не твой?
Сцяпан дастаў з канверта, падшытага ў справу па абрабаванню Бандарчука, якраз такі, якога не хапала на пінжаку ў Івана, шэры з светлай хвалістай палоскай гузік.
— Ды падобны да маіх. Ну, бывай здароў, я паехаў,— і Іван вышаў.
«Якое супадзенне! — здзівіўся следчы.— Быў там, гузік яго... І зноў-жа Бандарчук прасіў... Чорт ведае, як усё гэта разумець».
Усё, што гаварыў Іван, Ціт Бандарчук на допыце адмаўляў. Сцяпан зрабіў ім вочную стаўку. Як толькі Іван зайшоў у кабінет, Бандарчук усхапіўся з крэсла, утаропіўся ў шафёра.
— Ён! Я пазнаў яго! — выдыхнуў Ціт.
— Хто ён?
— Той самы, што... што мяне абрабаваў.
— З-заб'ю, гад!
Іван кінуўся да Бандарчука, але Сцяпан яго стрымаў.
— Ён вас абрабаваў?!
— Ён, грамадзянін следчы. Я яго пазнаў. Той-жа шырокі твар, пасма валасоў над вокам... Яго трэба арыштаваць, а то ўцячэ.
— Пачакайце, дык вы яго не прасілі, каб ён сказаў...



— Выдумаў ён, грамадзянін следчы, усё выдумаў. Гэта, каб адвесці ад сябе падазрэнне. На ўсякі выпадак... Цяпер я зразумеў. Ды вы падумайце самі, хіба аб гэтым будзе хто прасіць незнаёмага чалавека?
— Ах ты, труба выхлапная! — не стрываў Іван і зноў памкнуўся да Бандарчука.
— Супакойся! — следчы сурова зірнуў на Івана і запытаў у яго:
— А вас хто-небудзь разам з Бандарчуком бачыў тады?
— Мо' і бачыў хто, але-ж ці знойдзеш яго цяпер?
Іван разумеў, што такі сведка вельмі дапамог-бы яму. Бандарчук-жа сцвярджае, што пасля абрабавання сустракае яго, Івана, упершыню.
— Афіцыянтка, скажам, што вам на стол падавала, — прадаўжаў следчы.
— Выпівалі мы каля рэчкі. Так што ніякіх там афіцыянтак не было, — сказаў Іван.
— Хлусіць ён, грамадзянін следчы, усё хлусіць,— сцвярджаў Бандарчук.
Вочная стаўка скончылася.
— Арыштуйце яго, грамадзянін следчы,— маліўся Бандарчук.— Ён-жа мяне заб'е цяпер!
— Не бойся. Рук мараць аб цябе не буду. Але ты мяне яшчэ успомніш.
— Ну вось, бачыце?
Пасля вочнай стаўкі Бандарчук пайшоў ад следчага не адразу. «Баіцца Івана»,—падумаў Сцяпан. А пацярпеўшы занепакоена пазіраў на яго, штосьці хацеў сказаць. І сапраўды, Бандарчук яшчэ паведаміў, што Іван п'яны хваліўся, быццам п'е за яго, бандарчуковы, грошы. І гэта чуў Міша Карпаў, вучань чацвёртага класа селішчанскай школы.
Застаўшыся адзін, Сцяпан падумаў: «Вось яна, работа следчага. Паспрабуй, разбярыся тут!»
Допыт Мішы Карпава следчы вырашыў правесці ў школе, у прысутнасці настаўніка.
У школе Сцяпан пазнаёміўся з настаўніцай Нінай Міхайлаўнай Зорынай. Настаўніца Мішу хваліла: хлопчык добра вучыўся і быў дысцыплінаваным. Сцяпан папрасіў дазволу прысутнічаць на ўроку.
— Мішу выклікаць будзеце сёння? — спытаў ён у настаўніцы.
Ніна Міхайлаўна яго зразумела. Следчы хацеў, перш чым прыступіць да допыту, бачыць Мішу ў звычайнай для яго школьнай абстаноўцы. Так, яму неабходна было мець найбольш поўнае ўяўленне аб гэтым хлопчыку, ад паказанняў якога цяпер залежала многае. На ўроку Міша адказваў бойка, упэўнена. На пытанні адказваў не спяшаючыся. Сцяпану кінулася ў вочы ўважлівасць, з якою слухаў Міша тлумачэнні настаўніцы. Сядзеў ён, падпёршы кулачком шчаку і, здавалася, не прапускаў ніводнага яе слова.
На допыце Міша пацвердзіў паказанні Бандарчука. Так, ён чуў, як Іван Чарнагуз хваліўся, што п'е за бандарчуковы грошы.
Сцяпан неяк разгубіўся. Што рабіць? Супраць Івана ёсць яўны доказ — паказанні Бандарчука. І іванаў гузік, знойдзены на месцы злачынства? А паказанні Мішы Карпава? Гэта-ж таксама доказ. Ды і сам Іван не адмаўляецца, што быў тады ў Селішчы. Ну, мог ён быць у МТС, а пасля... ці нават і да гэтага... Следчая практыка ўсялякія выпадкі ведае. Так, важкія ўлікі ёсць супраць Івана. Праўда, іх яшчэ не дастаткова, каб закончыць справу, але-ж Іван... Сцяпан ведаў яго характар — рашучы, смелы. Яшчэ, чаго добрага, расправіцца з Бандарчуком! І ён некалькі разоў ужо браўся пісаць пастанову на арышт. Але ўсякі раз адкладваў у бок ручку, задумваўся. І не разумеў сам, што яго стрымлівае: ці няўпэўненасць у іванавай віноўнасці, ці тое сяброўскае пачуццё, якое з'явілася ў яго да Івана яшчэ ў дзяцінстве. Ён зноў пачынаў падрабязна прадумваць усё спачатку, зноў браўся за ручку. «Ды што гэта я...—разлавана падумаў.— Нарабіў бяды, дык няхай адказвае»,— і напісаў пастанову на арышт. У той-жа дзень Івана арыштавалі. Увечары прыехаў Ігнат Іванавіч. Водпуск яго скончыўся, і ён на другі дзень прыступіў да працы. Сцяпан адразу-ж далажыў яму ход справы. Ігнат Іванавіч слухаў уважліва і, калі Сцяпан скончыў, заўважыў:
— Віноўнасць Чарнагуза — версія магчымая, але не праверана да канца.
— А што трэба было яшчэ зрабіць!
— Вочную стаўку Чарнагузу з Мішам Карпавым — у першую чаргу.
— У аб'ектыўнасці Карпава я не сумняваюся.
— Але-ж ты не ўлічваеш, што Карпаў — дзіцё. Ён можа добрасумленна памыляцца. Можа?
— Бывае і такое. Але ў гэтым выпадку, здаецца мне, няма падстаў прытрымлівацца такой думкі.
— Тым не менш ты павінен быў зрабіць вочную стаўку. Уяві на момант, што аб магчымай памылцы Карпава табе Чарнагуз гаворыць, а не я. Што ты супроцьпаставіш яго довадам?
— Тады зраблю вочную стаўку.
— А калі на вочнай стаўцы высветліцца, што Карпаў памыліўся, тады што?
— Чарнагуза вызвалю з-пад арышту.
— А як ты яму пасля гэтага ў вочы глядзець будзеш?
Сцяпан маўчаў. Яны сядзелі адзін насупраць другога. Ігнат Іванавіч — прысадзісты, каржакаваты, з спакойнымі пільнымі вачыма, чорнымі з іскрынкамі сівізны валасамі, і Сцяпан — высокі бялявы юнак з прыемным адкрытым тварам і жывым уважлівым позіркам блакітных вачэй.
— Уяві, як-бы мы адчувалі сябе, каб каго-небудзь з нас незаконна пазбавілі волі?
— Я разумею, Ігнат Іванавіч.
Ігнат Іванавіч закурыў і прадаўжаў:
— Наколькі я зразумеў цябе, у працэсе расследавання намячалася яшчэ адна версія — сімуляцыя Бандарчуком абрабавання. Што зроблена для праверкі гэтай версіі?
— Не правяраў. Я-ж прытрымліваюся версіі аб віноўнасці Чарнагуза.
— Я зноў аб тым-жа. А калі гэтая версія памылковая?
— Буду правяраць другую.
— Дык мо' позна будзе? Бандарчук паспее схаваць канцы ў ваду.
Следчы зноў не знайшоў, што адказаць. Ад пракурора ён выйшаў пачырванелы, усхваляваны. Ігнат Іванавіч не папракаў яго, але Сцяпан адчуваў сябе няёмка.
На вочнай стаўцы Міша заявіў, што Чарнагуза ён бачыць упершыню. Следчы аж устаў з крэсла. Ніна Міхайлаўна таксама здзіўлена пазірала на свайго выхаванца.
— А ты-ж гаварыў, што сам чуў, як Чарнагуз выхваляўся?—Сцяпан намагаўся стрымаць сваё хваляванне і таму гаварыў цішэй, чым звычайна.
— Дык то-ж Чарнагуз, а не гэты дзядзька.
— Значыць, не гэты, другі?
— Але-ж, другі. Я-ж кажу: Чарнагуз.
Следчы пачынаў разумець.
— А адкуль ты ведаеш, што таго Чарнагуз прозвішча?
— Мне дзядзька Бандарчук сказаў. Мы-ж з ім поплеч жывем. Калі я расказаў яму, што чуў, ён адазваў мяне ўбок і пачаў распытваць: ці ведаю я таго дзядзьку? А потым як вылаяўся і кажа: «Гэта-ж ён, Іван Чарнагуз. Запамятай, кажа, прозвішча. Запамятаеш?» «А навошта?» — пацікавіўся я. «Мо' хто спытае — скажаш»,— адказаў мне дзядзька Бандарчук.
— Чаму-ж ты гэтага раней не сказаў? — вырвалася ў Сцяпана.
— Дык вы-ж у мяне не пыталі.
Сцяпану зрабілася горача. На ілбе дробнымі кропелькамі выступіў пот. Іван увесь час маўчаў і толькі пераводзіў позірк то на следчага, то на следчага. Вось ён сустрэўся вачыма з Сцяпанам, і ў яго позірку Сцяпан прачытаў: «Эх ты, гора, а не следчы».
Івана следчы тут-жа вызваліў з-пад арышту.
— Гэта што, я ўжо меру пакарання адбыў? Хутка... Відаць, з залікам: адзін дзень год за дзесяць, — у іванавым голасе чулася злосная іронія, а шэрыя вочы, заўсёды смяшлівыя, цяпер былі нейкія жорсткія. Сцяпан змаўчаў. Ды і што ён мог сказаць?
Вобыск цягнуўся доўга. Нічога, што цікавіла следчага, не знайшлі, і ўжо хацелі заканчваць. Сцяпан яшчэ раз акінуў позіркам кухню, падыйшоў да вешалкі, дзе вісела старая вопратка. «Ну, чаго тут лазіць. Упаўнаважаны міліцыі тут усё пераглядаў»,— падумаў і з неахвотаю пачаў аглядаць вопратку. У старым жаночым паліто ў патайнай кішэні знайшоў скручаную ружаватую паперку. Разгарнуў і спачатку не прыдаў ёй асаблівага значэння — звычайны чыгуначны білет да Ленінграда. Але



прагледзеўшы кампосцер, зацікавіўся. Білет быў куплены якраз на другі дзень пасля здарэння з Бандарчуком. Бандарчукова жонка, відаць, зразумела сцяпанава недаўменне, паспшапалася растлумачыць:
— Гэта я да сястры ездзіла. Тэлеграму атрымалі, што яна захварэла.

— А мужа на каго пакінулі? Ён-жа таксама быў хворы.

— Яму ўжо стала лепш тады.

Следчы задумаўся.

— А можна мне тэлеграму паглядзець?

— Тэлеграма дзесьці згубілася,— адказала гаспадыня. А сама нават і не збіралася яе шукаць.

На запытанне Сцяпана пошта адказала, што ні на імя Бандарчука, ні на імя яго жонкі тэлеграмы не было. Затое бандарчукова жонка ў той-жа дзень, калі быў куплены білет, паслала ў Ленінград тэлеграму, што выязджае. «Чаго яна ездзіла туды? — думаў Сцяпан. — Мо' яблыкі вазіла прадаваць?» Але багажная кантора на яго запытанне адказала, што Бандарчукі багажом нічога ў Ленінград не перавозілі. «Дык чаго-ж яна ездзіла?» Гэтая думка не давала следчаму спакою.

На другі дзень Сцяпан быў на вакзале.

У Ленінградзе ён разам з прадстаўніком гарадской пракуратуры зрабіў вобыск у бандарчуковых родзічаў. Вобыск пацвердзіў меркаванні следчага. Была знойдзена ашчадная кніжка на імя бандарчуковай жонкі на дзесяць тысяч рублёў. Грошы былі ўнесены на трэці дзень пасля здарэння з Бандарчуком.

Прыехаўшы з Ленінграда, Сцяпан адразу-ж вынес пастанову на арышт Бандарчука. Быў у кабінеце, праглядваў справу, калі яму пазванілі з міліцыі.

— Што? Збег?! — перапытаў і, пачуўшы ў адказ тое-ж самае, кінуў на рычаг трубку.

— Вось прайдзісвет, абдурыў! Але-ж не схаваешся, не! Хоць пад зямлёй знайду!

Ад узбуджанасці ўстаў, захадзіў узад-уперад па кабінеце. Зноў раздаўся тэлефонны званок. «Хто там яшчэ»,— незадаволена падумаў следчы і злосна кінуў у трубку:

— Слухаю. Чарнагуз? Што ты хочаш? Бандарчук на вакзале? З чамаданам? А ён цябе бачыў? Не бачыў? Слухай, Ваня, сачы за ім. Як будзе садзіцца ў поезд — трымай. А я зараз пад'еду.

«Не ўцячэш»,— думаў ліхаманкава і, апранаючыся на хаду, выскачыў на двор, загадаў шафёру:

— На вакзал!



## Дзвесце год у няволі

У 1737 годзе ў Індыйскім акіяне, на востраве Эгманта, была злоўлена гіганцкая чарапаха. Вучоныя вызначылі тады яе ўзрост — 100 год. Гэтую чарапаху прывезлі ў Англію. Доўгі час яна жыла ў аднаго англічаніна, які вельмі любіў жывёл, а потым была перададзена ў лонданскі заапарк. Там яна жыла яшчэ ў дваццатых гадах бягучага стагоддзя і, магчыма, жыве і цяпер. Калі заолагі ў пачатку правільна вызначылі яе ўзрост, дык цяпер ёй ужо больш трохсот год (з якіх больш за дзвесце яна пражыла ў няволі). Чарапаху гэтую можна лічыць самай старой з вядомых нам жывёл. Адзначым, што гэты факт — зусім не выключэнне: былі апісаны і іншыя выпадкі жыцця чарапах у няволі да двухсот і больш год.

Паводле некаторых даных, кракадзілы таксама дажываюць да трохсотгадовага ўзросту. У Афрыцы ёсць кракадзілы, якія перажылі некалькі пакаленняў людзей. Цікава, што растуць кракадзілы да глыбокай старасці, праўда, вельмі марудна. Старыя кракадзілы дасягаюць 10 метраў.

Раней лічылі, што найбольшай працягласцю жыцця вызначаюцца кіты і сланы, якія нібыта жывуць чатырыста і больш год. Цяпер заолагі вызначаюць сярэдні ўзрост кітоў пяццюдзесяццю гадамі, а сланоў — сямюдзесяццю.

Вельмі доўгавечныя некаторыя рыбы. Так, у Падмаскоўі ў 1794 годзе ў часе прачысткі Царыцынскіх сажалак быў злоўлены вялізны шчупак. У яго жаберных крышках было прадзета кальцо з выгравіраваным надпісам: «Пасадзіў цар Барыс Фёдаравіч». Цараванне Барыса Гадунова прыпадае на гады 1598—1605, значыць, шчупак пражыў у сажалцы каля 200 год.

У Германіі ў адным з азёраў паблізу Гейльброна ў 1497 годзе быў злоўлены шчупак таксама з кальцом, пасаджаны туды ў 1230 годзе! Такім чынам, гэты шчупак пражыў на свеце больш за 267 год. Мяркуючы па чучалу, якое захавалася, даўжыня гэтага шчупака перавышала пяць метраў.

Доўга жыве і карп — паводле некаторых даных да 150 і нават больш год. Да стогадовага ўзросту дажываюць самы.

Сярод птушак асаблівым доўгалеццем вызначаецца крумкач, які дажывае да 140 год. Па 80 і больш год жывуць у няволі паляўнічыя арлы — беркуты. У Маскоўскім заапарку з 1892 года жыве самы стары яго жыхар — амерыканскі кондар. У адным з заапаркаў 68 год пражыў начны драпежнік — пугач. Стогадовага ўзросту дасягаюць сокалы, а з недрапежных птушак — папугаі. Сярод хатніх птушак асабліва доўгавечныя гусі, якія дажываюць да 80 год. Куры жывуць да 20 год.

З беспазваночных жывёл рэкорд доўгавечнасці паставіла, відаць, гіганцкая, вагой да 300 кілограмаў, ракавіна Індыйскага акіяна — трыдакна, якой каля 100 год.

Каля 10 год жыве дажджавы чарвяк. Звычайны рачны рак жыве да 20 і нават да 30 год, лягушкі — да 15 год, а жабы яшчэ больш.

## У кіностудыях свету

### Італія—Францыя

**ІУ МАНТАН — «ПАЛЯЎНІЧЫ НА ВАЎКОЎ»**

У сучаснай Італіі яшчэ ёсць людзі, прафесіяй якіх з'яўляецца паляванне на ваўкоў. Жыццю гэтых людзей, поўнаму небяспекі, Джузэпе да Санціс вырашыў прысвяціць свой новы фільм. Сцэнарый расказвае аб прыгодах аднаго паляўнічага, які вельмі любіў выхваляцца, але хутка «выправіўся», знаходзячыся ў асяроддзі сваіх суровых таварышаў. Сыграць гэтую ролю выпала на долю Іва Мантана. Разам з ім у пастаноўцы ўдзельнічае і Педро Армендарыз. Назва фільма — «Людзі і ваўкі».

### Вялікабрытанія

**«КАРОЛЬ У Н'Ю-ЙОРКУ»**

Такая папярэдняя назва новага фільма, які Чарлі Чаплін пачаў здымаць у Англіі.

Калі вядомага пастаноўшчыка просяць расказаць коратка сюжэт фільма, ён адказвае: «Адзін кароль прыязджае ў Н'ю-Йорк, пазней ён яго пакідае». Фільм расказвае аб лёсе караля (яго ролю іграе Чарлі Чаплін) адной вельмі маленькай краіны ў Еўропе. Аднойчы ён захацеў выкарыстаць атамныя рэсурсы сваёй дзяржавы ў мірных мэтах. Гэтага было дастаткова, каб міністры зверглі караля. Але той не адмаўляецца ад сваіх планаў: ён едзе ў Н'ю-Йорк, каб арганізаваць там фонд па мірнаму выкарыстанню атамнай энергіі. Хутка яго абвяшчаюць «камуністам» і высылаюць з краіны. Вярнуўшыся ў Еўропу, ён вядзе жыццё выгнанніка. У фільме ёсць і другая сюжэтная лінія — каханне караля да адной маладой амерыканкі (гэтую ролю будзе выконваць Дэн Адамс).

Такі кароткі змест будучага фільма Чарлі Чапліна. Мы бачым, што вялікі артыст застаўся верны сабе. Яго фільмы заўсёды адлюстроўваюць праблемы, якія хвалююць «маленькага чалавека». Сёння — гэта пытанне аб мірным выкарыстанні атамнай энергіі, і адлюстраванне яго мы знаходзім у новым фільме Чарлі Чапліна.

### ЗША—Вялікабрытанія

**МАРЛІН МАНРО І ЛОРЭНС ОЛІЎЕ**

Амерыканская актрыса Марлін Манро і англійскі акцёр і пастаноўшчык Лорэнс Оліўе абвясцілі аб здымках новага фільма паводле рамана Торэнса Рацінгена «Прынц, які спіць». Вытворчасць фільма будзе ажыццяўляць кампанія, якую нядаўна заснавала Марлін Манро. Пастаноўшчык — Лорэнс Оліўе. Ролі будуць выконвацца Марлін Монро і Лорэнсам Оліўе.

### Францыя—Японія

**«ВЯСЕННЯЯ ТРАВА»**

Так названы фільм, які здымае французскі рэжысёр Іў С'емпі. Гэта гісторыя кахання маладога француза, ролю якога выконвае Жан Марэ, да адной красуні-японкі. Іў С'емпі знайшоў ужо актрысу на ролю жанчыны, у якую «закахаецца» Жан Марэ. Гэта 24-гадовая кінозорка Кейко Кішы. Яна будзе «суперніцай» Даніэль Дарэ, якой даручана галоўная жаночая роля.

Вядома, што сцэнарый, паводле першапачатковай задумы, павінен быць перапрацоўкай рамана Томаса Рока «Паважная паездка за горад», але таму, што ад гэтага твора амаль нічога не засталося, фільм папярэдне атрымаў назву «Вясенняя трава».

### Індыя—СССР

**ЖЫЦЦЁ ВАНДРОЎНІКА**

Індыйская кінокампанія «Нэй а Сансаз», якой кіруе пан Ахмед Абас, і Маскоўская студыя «Мосфільм» (дырэктар І. А. Пыр'еў) вырашылі стварыць сумесна фільм пра рускага вандроўніка Афанасія Нікіціна. Нікіцін быў першым еўрапейцам, які ў 1469 годзе прыехаў у Індыю і застаўся там на працягу трох год. Здымкі будуць праводзіцца ў СССР і ў Індыі. У карціне будуць заняты індыйскія і савецкія акцёры. Назва фільма — «Пардэзі».

### Куба—ЗША

**«СТАРЫ І МОРА»**

Пачаліся здымкі фільма па новай аповесці амерыканскага пісьменніка Эрнеста Хемінгуэя «Стары і мора». Пастаноўка ажыццяўляецца Фрэдам Зінеманам, які вядомы, у прыватнасці, сваім фільмам «Сёмы крыж», пастаўленым паводле рамана Анны Зэгерс. Акцёру Спенсеру Трэйсі даручана роля старога, а ролю хлопчыка, сябра рыбака, будзе іграць адзін малады кубінец. У адпаведнасці з аповесцю, фільм будзе здымацца на Кубе, дзе разгортваюцца падзеі, пра якія расказвае Хемінгуэй.

# ХЕРЛУФ БІДСТРУП




ДЭТЭКТЫЎНЫ РАМАН



ЗАМАРЫЛАСЯ

Чытачы дацкай комуністычнай газеты «Ланд ог фольк» з нецярплівасцю чакаюць чарговага з'яўлення ў газеце рубрыкі «Сённяшні Бідструп». Пад гэтай рубрыкай амаль штодзённа з'яўляюцца серыі малюнкаў выдатнага мастака Херлуфа Бідструпа. Едкая сатыра на правячыя класы, іх палітыку, на двудушнасць і хлусню ўсялякіх згоднікаў зрабіла тое, што малюнкі Бідструпа замяняюць часам перадавы артыкул.

Вялікі дацкі пісьменнік Марцін Андэрсен Нексе пісаў яшчэ ў 1953 г.: «Не дзіўна, што мы, прагрэсіўныя датчане, любім Бідструпа, мы бачым у ім аднаго з лепшых сярод лепшых і цвёрда ўпэўнены ў тым, што ён — адзін з самых выдатных карыкатурыстаў... Яго серыі малюнкаў, поўныя гумару, карыстаюцца сусветнай вядомасцю, яны выпраменьваюць чалавечае цяпло».

І сапраўды, Бідструп не толькі гнеўны сатырык, але і мастак, які з вялікай цеплынёй і гумарам гаворыць аб жыцці простых людзей.

Вось малюнкі аб выніках чытання «ўльтрамодных» раманаў з жыцця злачынцаў і бандытаў. Пасля чытання такога рамана чалавек баіцца ўвайсці ў свой уласны дом, усюды яго «падсцерагаюць» жахі. І нарэшце чалавек памірае ад разрыву сэрца, пачуўшы, як з бутэлькі вылятае корак... Гэтая серыя малюнкаў гаворыць аб якасці ўсіх дэтэктыўных раманаў больш, чым вялікі крытычны артыкул.

А вось серыя малюнкаў, у якой паказаны «рабочы» дзень багатай гультайкі. Увесь дзень яна камандуе сваёй служанкай, прымушае яе выконваць самую цяжкую работу па гаспадарцы, крычыць, злуецца. Пад канец дня, яе, змучаную сваёй злосцю, бедная служанка нясе на ложак.

А вось і проста вясёлыя малюнкі. Чалавек выехаў за горад і прылёг адпачыць у цяньку. Спёка размарыла яго і ён заснуў. Яму сніцца нешта вельмі добрае, ён усміхаецца. Потым пачынае смяяцца... рагатаць... і прачынаецца ад смеху. Аказваецца, карова лізала яму голыя пяткі. Бідструп вельмі любіць такія нечаканыя канцоўкі.

Малюнкі Херлуфа Бідструпа добра ведаюць і цэняць прагрэсіўныя людзі ўсяго свету. Яны блізкія простым людзям сваёй гуманнасцю, цеплынёй, мяккім гумарам, сваёй мэтанакіраванай бязлітаснай сатырай.



НА СВЕЖЫМ ПАВЕТРЫ

# НАРАДЖЭННЕ ПРАФЕСІІ

У санітарную зямлянку партызаны прынеслі васьмігадовага хлопчыка, у яго была цяжка паранена сківіца.

— Аперацыя, — скупа прамовіў пажылы хірург і адразу пачаў мыць рукі.

Малады фельчар Тоня Паўлава, якая павінна была дапамагаць хірургу, здзівілася, якім звычайным тонам прамовіў ён гэтае страшнае слова. Тоня была яшчэ зусім маладым медыкам, і таму адзін выгляд такой цяжкай раны моцна ўсхваляваў яе. Калі яна ў час аперацыі падавала хірургу інструменты, рукі яе дрыжалі, а перад вачыма плаваў нейкі туман.

Але бадай самае цяжкае для яе пачалося пасля аперацыі, калі хворы быў пакінуты на яе апеку. Даглядаючы яго, дзяўчына адчула, што ёй нехапае ведаў. Тады, у бяссонныя ночы ля пасцелі хворага і нарадзілася моцнае жаданне вучыцца, стаць кваліфікаваным урачом.

З таго часу прамінуў не адзін год. Сёння Антаніна Паўлава — ужо ўрач. Многаму навучылася, над многім думала яна ўсе гэтыя гады. Работа ў клініцы навяла яе на новыя цікавыя думкі. Назіраючы за ўдзелам хімічных элементаў у кроваўтварэнні, яна прыйшла да вываду, што найбольшая колькасць кобальту змяшчаецца ў крыві дзяцей ва ўзросце ад аднаго да трох год.

Гэтае маленькае адкрыццё натхніла Тоню. Даўно пайшлі ў парк апошнія трамваі, а яна ўсё сядзіць за работай. Роўнымі радкамі кладуцца на паперу думкі, запаўняюцца табліцы, запісваюцца формулы. У пакоі ціха, толькі чуваць, як за акном свішча вецер.

Раптам Тоні здалося, што ў дзверы нехта пастукаў. Яна прыслухалася. Нясмелы стук паўтарыўся зноў.

— Хто там?

— Антаніна Кірылаўна, вас выклікаюць у клініку. Дзяўчынку хворую прывезлі... Хутчэй...

— Іду.

Хворая дзяўчынка год шасці ляжала ў прыёмным пакоі і трызніла. Каля яе былі дзяжурны ўрач і сястра. Тоня падыйшла да дзяўчынкі.

— Што з ёю?

— Падазраю пнеўманію, — няўпэўнена адказала пажылая жанчына — дзяжурны ўрач. — Але вырашыла запрасіць вас... Вы-ж замяшчаеце кансультанта...

— Якая тэмпература?

— Трыццаць дзевяць і пяць...

Тоня прыклала вуха да гарачай спіны дзяўчынкі, потым паслухала яе сэрца, агледзела рот.

— Прыдзецца пакласці дзяўчынку ў бальніцу. У яе двухбаковае запаленне лёгкіх.

— Доктар, яна памрэ? — кінулася да Тоні маці дзяўчынкі.

— Што вы? Цяпер ад гэтага не паміраюць. Вылечым, — супакоіла жанчыну Тоня.

Калі дзяўчынку асцярожна перапранулі, Тоня захінула яе ў коўдру і панесла ў стацыянар. На хаду яна тлумачыла сястры, што падрыхтаваць для хворай.

Паклаўшы дзяўчынку ў пасцель, Антаніна раптам пачула злослівы голас дзяжурнага ўрача:

— Ідзіце дадому... Калі вы не давяраеце мне, педыятру з немалым стажам, то пеніцылін можа з поспехам увесці і медыцынская сястра...

— На што вы пакрыўдзіліся? — спытала Антаніна, і на яе твары разлілася пунцовасць. — Вы мяне выклікалі, я прыняла хворую, зрабіла сваё назначэнне.

— Ну, а цяпер ідзіце адпачываць.

І Антаніна зноў улавіла ў голасе дзяжурнага ўрача ноткі крыўды. Яна добра разумела, што гэтай немаладой жанчыне з старым запасам ведаў нялёгка прымірыцца з тым, што яе абганяе моладзь, якая смела выпрабоўвае сябе ў навуцы.

Калі малады ўрач Антаніна Паўлава ўзялася за навуковую работу, рыхтуючыся да абароны кандыдацкай дысертацыі, яна не раз лавіла на сабе зайздросныя позіркі тых, хто выхваляўся сваім вопытам, хто многа год пражыў ціха і спакойна, не абцяжарваючы сябе лішне знаёмствам з навейшымі дасягненнямі навукі, сваімі пошукамі ў ёй.

Але такіх людзей было нямнога. Большасць таварышаў па рабоце горача падтрымлівалі яе імкненні, радаваліся яе поспехам.

У працэсе лячэння дзяўчынкі хворай на запаленне лёгкіх Антаніна заўважыла, што колькасць кобальту ў яе крыві значна зменшылася. Значыць, зніжэнне гэтае адбываецца не толькі пры рознага роду запаленнях, але і пры моцным малакроўі.

Такія клінічныя нагляданні Антаніна правяла над многімі дзецьмі. І малюнак нязменна заставаўся такім-жа: чым большай была ступень анеміі, тым менш кобальту змяшчалася ў крыві. Цяпер у даследчыка не было сумнення ў тым, што колькасць кобальту ў крыві залежыць ад ступені анеміі. Гэты вывад уяўляў вялікую навуковую цікавасць яшчэ і таму, што радыёактыўныя вяшчэствы, у тым ліку і кобальт, зараз шырока прымяняюцца як лячэбны сродак.

Потым Антаніна Паўлава ўстанавіла, што паступовае зніжэнне кобальту ў крыві ў здаровых дзяцей адбываецца пасля трох год. Прычым, у вясенне-летні перыяд, калі спажываюцца свежыя фрукты, ягады, гародніна, багатыя мікраэлементамі і вітамінамі, колькасць кобальту ў крыві значна большая, чым у вясенова-зімовы перыяд.

Паўлаву зацікавіла таксама колькасць медзі ў крыві, паколькі кобальт і медзь знаходзяцца ў самай цеснай сувязі паміж сабой у працэсе кроваўтварэння. Таму і дысертацыю сваю яна назвала так: «Колькасць кобальту і медзі ў крыві дзяцей здаровых і пры анемічным стане».

На абарону дысертацыі сабралася шмат народу. Аўдыторыю запоўнілі прафесары і дацэнты, навуковыя работнікі і ўрачы-практыкі. І правадзейны член Акадэміі навук БССР прафесар Леонаў, і доктар біялагічных навук Мяражынскі ў сваіх выступленнях адзначалі выключную тэарэтычную і практычную каштоўнасць навуковай работы Антаніны Паўлавай. З гэтым вывадам аўдыторыя выказала сваю згоду дружнымі апладысментамі. Маладому даследчыку заслужана прысвоена навуковая ступень кандыдата медыцынскіх навук.

П. ТОРМАСАЎ.



## БЕЛАРУСЫ У СІБІРЫ

У цудоўным сібірскім краі жыве шмат беларусаў. Многія нашы земляні перасяліліся ў Сібір даўно, яшчэ ў тыя змрочныя дарэвалюцыйныя часы, калі сяляне з кайстрай за плячыма, пехатою пракладвалі шляхі-сцежкі ў някранутыя сібірскія гушчары.

Васіль Майсеевіч Сатварэнін — адзін са старэйшых беларусаў, якія некалі перасяліліся на ўрадлівыя сібірскія землі. Ён нарадзіўся ў 1831 годзе ў вёсцы Прудок на Магілёўшчыне.

Цікавы жыццёвы лёс гэтага чалавека — жывога сведкі і ўдзельніка Крымскай вайны 1853—1856 гадоў і ўдзельніка паходу рускіх войск у 1877—1878 гадах на Балканы.

Бацькі В. М. Сатварэніна былі бедныя прыгонныя сяляне. Да 25 год Васіль жыў у бацькоў, нёс разам з усімі аднавяскоўцамі цяжар паншчыны.

Аднойчы ў вёску прыехаў брат прудкоўскага памешчыка — гаспадар цукровага завода з-пад Кіева. Ён выбраў сабе некалькіх дужых вясковых хлопцаў, у тым ліку і Васіля Сатварэніна. Шэсць год працаваў Сатварэнін на цукровым заводзе і кожную вясну, калі вяртаўся дадому, пехатою ішоў з-пад Кіева ў магілёўскую вёску.

На трыццатым годзе В. М. Сатварэніна забралі ў рэкруты, дзе ён адслужыў пятнаццаць год. Калі вярнуўся да бацькоў, прыгон ужо быў адменены. Сям'я Сатварэніных з дзесяці чалавек перабівалася на адной дзесяціне зямлі. У іх не было каня, і нядаўняму салдату-грэнадзёру давялося разам з братам запрагацца ў саху...

Такое жыццё было не лепш прыгону, і Васіль наняўся ў батракі да барона Корфа. Тут ён і ажаніўся на такой-жа, як і сам, батрачцы. Яго жонка Марыя Сямёнаўна была маладзейшай за свайго мужа амаль на трыццаць год.

Ранняй вясною 1877 года Васіля Сатварэніна прызвалі ў дзеючую армію, у той-жа грэнадзёрскі полк, у якім ён некалі служыў. І цяпер стары ветэран добра памятае і жыва апавядае пра свае ваенныя паходы, пра храбрасць і адвагу сваіх сяброў-грэнадзёраў на Дунаі. У гэтым паходзе, пры фарсіраванні Дуная і ўзяцці ўмацавання на правым беразе вызначыўся і салдат-грэнадзёр Васіль Сатварэнін. За доблесць і геройства ён узнагароджаны Георгіеўскім крыжам, а пры пераходзе цераз Балканы ў 1878 годзе — двума Георгіеўскімі медалямі.

Вярнуўшыся з вайны, рускі воін становіцца пастухом — іншага выйсця не было, бо хіба пракорміш на шматку зямлі сям'ю ў восем чалавек. Сатварэнін з дзецьмі вандраваў з вёскі ў вёску, пасвіў жывёлу...

У 1918 годзе, дачуўшыся пра дэкрэт Леніна аб зямлі, Васіль Майсеевіч кінуў сваё пастухоўства і рушыў у Сібір. Яму тады ішоў 87-ы год, але ён быў такі моцны, што не спалохаўся далёкага і нялёгкага падарожжа. У тамбурах і вуглярках, на дахах вагонаў сям'я Сатварэніна зрабіла больш за пяць тысяч кілометраў.

Спыніўся Васіль Майсеевіч на багатых і вольных землях Сібіры — у вёсцы Гаўрылаўка Енісейскай губерні. На першым часе і тут давялося запрагацца ў самаробны смык-саху, адваёўваючы ў тайгі кожны метр зямлі.

І цяпер В. М. Сатварэнін жыве ў калгаснай Гаўрылаўцы, якая вырасла за гады Савецкай улады, пры яго актыўным удзеле. Старому ўжо споўнілася 125 год. У яго сям'і пяць чалавек, старэйшай дачцы Ефрасінні 80 год.

— Здароўе яшчэ ёсць, — гаворыць Васіль Майсеевіч, — яшчэ працаваў-бы, але крыху ногі падводзяць...

Ул. МЯЖЭВІЧ.

На здымку: Васіль Майсеевіч Сатварэнін са сваім праправнукам Мішам.

Фота Л. Ліхоты.




## СЯБРОЎСКАЯ ПЕРАПІСКА

У адрас Брэсцкага гаркома камсамола часта прыходзяць пісьмы і паштоўкі з іншаземнымі маркамі і штэмпелямі. Моладзь гэтага, самага заходняга ў Беларусі, горада вядзе перапіску з юнакамі і дзяўчатамі многіх краін. Праз Брэст ідуць цягнікі з Масквы ў Варшаву, Берлін, праз яго едуць у Савецкі Саюз турысты, госці з розных краін. Тут, на прасторным пероне вакзала, часта можна сустрэць прадстаўнікоў многіх нацыянальнасцей. Асабліва помняць маладыя жыхары Брэста дні сустрэч з удзельнікамі Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Варшаве. Тады ў Брэсце пабывала моладзь Кітая і Карэі, В'етнама і Фінляндыі. Вось з таго часу і завязалася перапіска з фінскай дзяўчынай Эмай Лемінен, з маладой пекінскай спартсменкай Фу Сі-я і многімі іншымі юнакамі і дзяўчатамі.

Асабліва многа сяброў маладыя брэстчане маюць у суседняй брацкай Польшчы. Госці з Польшчы прымалі ўдзел у правядзенні першага абласнога фестывалю моладзі. Чэслаў Петчык, Рамуальд Балясек, Леон Янчэк з таго часу рэгулярна перапісваюцца з брэсцкімі сябрамі. У сваіх пісьмах яны расказваюць пра сваё жыццё, пра вучобу.

А з нямецкім юнаком Вольфганам Штэйнке перапіска ўстанавілася яшчэ з 1953 года.

Усіх зарубежных сяброў вельмі цікавіць жыццё савецкай моладзі. І маладыя жыхары Брэста ахвотна дзеляцца сваімі поспехамі ў працы і вучобе.

Б. РОЗАЎ.

## ПАЯДЫНАК З ВАЎКОМ

Адбылося гэта ў горадзе Калінкавічы Гомельскай вобласці. Аляксандр Гаркуша — рабочы чыгуначнага вузла, прышоў з работы дадому і збіраўся ўжо адпачываць. Але адпачываць яму не давялося — на вуліцы ўзняўся незвычайны брэх сабак.

«Не інакш, воўк», — чамусьці падумаў сам сабе Аляксандр.

Ён узяў сякеру і выйшаў на вуліцу. Гэта было ў дзве гадзіны ночы. Непадалёк Аляксандр убачыў ваўка. Гаркуша падняў з зямлі камень і шыбануў у звера, хочучы прагнаць яго. Але воўк і не думаў уцякаць. Наадварот, ён кінуўся на Гаркушу. Пачаўся паядынак чалавека са зверам. Воўк учапіўся зубамі ў шыю Аляксандра, і абодва яны, чалавек і звер, паваліліся на зямлю. Воўк ужо ледзь не адолеў чалавека, але Аляксандр не разгубіўся, ён схапіў ваўка за сківіцу і вызваліў шыю з воўчай пашчы. Але звер і не думаў адступаць, ён кідаўся і кідаўся на чалавека. Гаркуша ўлавіў момант і ўсунуў у пашчу ваўку правую руку, а левай намацаў сякеру і ўдарыў яго па галаве. На дапамогу прыбеглі маці і меншы брат, яны аказалі Аляксандру першую медыцынскую дапамогу. Пасля хірург налажыў пацярпеўшаму ў паядынку шэсць швоў, зрабіў перавязку.

С. ІВАНОЎСКІ.






# Чароўная ўсмешка

**П. ВЕСЯЛОЎ**

Мал. Н. Лебедзевай

— Ён такі мілы чалавек!
— А які далікатны, карэктны!
— Усмешка! Галоўнае — яго ўсмешка...— гаварылі пра Мікалая.

Лорачка гэтую чароўную ўсмешку прыкмеціла пры першым-жа з ім знаёмстве. Прыкмеціла — і адразу-ж палюбіла яе. У хвіліну якіх-небудзь непрыемнасцей успомніць Лорачка гэтую ўсмешку — пра ўсё забудзе і сама радасна ўсміхнецца.

Штодзённа на працягу поўгода Лорачка сустракалася з Мікалаем. І за гэтыя амаль дзвесце сустрэч не было выпадку, каб Мікалай недзе забыў, пакінуў сваю ўсмешку, каб прышоў на спатканне без яе.

Лорачка не была лёгкадумнай дзяўчынай, але заўсёды з ёю было весела. Не была і модніцай, але апраналася заўсёды з густам.

Пасля дзесяцігодкі Лора пайшла працаваць на фабрыку і стала добрым майстрам. Адным словам, гэта была звычайная сучасная дзяўчына, вельмі прыемная іменна гэтай сваёй звычайнасцю.

Усе суседзі нашага квартала цвёрда вырашылі, што Мікалай не памыліўся ў сваім выбары, і жадалі толькі аднаго: каб Лорачка не расчаравалася ва ўсмешцы свайго каханага.

Пышна адгулялі вяселле. Добрымі пажаданнямі праводзілі суседзі Ларысу Андрэеўну ў сямейнае жыццё.

— Устаць, суд ідзе!

Так мы маглі-б прадоўжыць гумарэску. Але для большай паслядоўнасці павядзем апавяданне інакш.

Не прайшло і месяца, як у сям'і Ларысы Андрэеўны адбылася першая сварка.

— На фабрыцы мне прапанавалі пуцёўку ў санаторый, але я адмовілася, — неяк сказала Лора.

— Дзіўна, — заўважыў Мікалай.

— Нічога дзіўнага. У нас ёсць матарыстка Клава, ёй сапраўды трэба падлячыцца, а я і так здаровая, — растлумачыла Лора.

— Ты магла-б узяць яе для свайго мужа, — з крыўдай сказаў Мікалай.

Ларыса ўспрыняла гэта як жарт і ласкава сказала:

— Міколка, ты-ж, дзякуй богу, у мяне здаровенькі!

— Добра-ж, — голас яго нервова задрыжэў, і ён парваў білеты, што ўзяў у кіно. На твары яго ўжо не было той прыемнай усмешкі.

Гэта быў горкі пачатак. Усмешка ўсё часцей і часцей знікала з мікалаевага твару.

— Мне сёння прапанавалі выступіць па радыё, расказаць аб рабоце,— імкнецца Ларыса абрадаваць Мікалая.

— Выступай, калі табе цікава, — абыякава адказвае ён.

— Коля, ты відаць, злуешся таму, што нідзе не працуеш.

— У мяне бацька — палкоўнік, — спакойна адказвае Мікалай. — Стары яшчэ не гарбаты, няхай падтрымае.

Аднойчы Ларыса падыйшла да Мікалая, уважліва паглядзела ў яго вочы і жахнулася: ад ранейшай яго такой дарагой усмешкі не засталося і следу. На яе глядзеў капрызны, жорсткі твар з перакошаным ротам і халоднымі вачыма.

На працягу наступных паўтара года ўсмешка больш не з'яўлялася на твары Мікалая. Ларыса толькі і чула:

— Я не магу сам касцюмы прасаваць. Не для таго жаніўся.

— Я буду хадзіць на стадыён, калі хачу і з кім хачу. Да тваіх паслуг — спартыўныя радыёперадачы.

— Я ўпэўнены, што ты абыйдзешся і без новай сукенкі. Няма чаго прыбірацца, у цябе сям'я.

— Што, дзіця паглядзець? Гэта справа бабская...

Яна сама падала заяву аб разводзе. Схуднелая, з маршчынамі каля вачэй, яна зусім не была падобна на ранейшую Лорачку.

А Мікалай зноў быў, як кажуць фізкультурнікі, у поўнай сваёй форме — ветлівы, далікатны. Ён спакойна гаварыў аб тым, што стаіць за трывалы быт, што асуджае тых, хто пры разводах спасылаецца на розніцу ў характарах. Ён не падаваў на развод, ён яго не дабіваўся. Але цяпер, калі яго годнасць прыніжана заявай жонкі ў суд, ён вымушан пагадзіцца на развод. Але і цяпер ён не разумее, у чым яго абвінавачваюць. Ён-жа не біў яе, не выпіваў і нават грубымі словамі не абражаў.

На твары яго зьвяцілася тая асаблівая ўсмешка, якой Ларыса даўно не бачыла. Але яна разумела, што ўсмешка гэтая цяпер пасылалася не ёй. Цяпер гэтая ўсмешка прызначалася суддзям, бо яму трэба было пераканаць іх, прымусіць паверыць яму.

Шырокімі вачыма глядзела Ларыса на гэтую па-дзіцячаму наіўную ўсмешку. Яна нават сама не прыкмеціла, як прыўзнялася з крэсла:

— Вось... зноў... усмешка... Крывое люстэрка... — і яна ў знямозе апусцілася на крэсла.

І суддзі зразумелі яе. Практыка навучыла іх за чароўнай усмешкай гэтага чалавека ўбачыць яго нізкую і агідную душу.








**Мы ў Заходняй Германіі. Прайшло толькі адзінаццаць год з таго часу, як агульнымі намаганнямі народаў Совецкага Саюза, Польшчы, Чэхаславакіі, Англіі, Францыі, ЗША была разгромлена гітлераўская Германія. Нямецкі народ, які доўгі час знаходзіўся пад ярмом гітлераўскай клікі, нарэшце атрымаў магчымасць развівацца па шляху дэмакратыі і міру. Так яно і ёсць у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы, дзе сам народ з'яўляецца гаспадаром свайго лёсу. Зусім паіншаму складаецца лёс народа у той частцы Германіі, дзе пасля вайны гаспадарылі амерыканска-англійскія войскі. Пад крылом рэакцыйнай заменжнай ваеншчыны тут паступова выспявае новая змова супраць міру і дэмакратыі. Былыя фашысты зноў узнімаюць галовы. У канцы лета гэтага года ўрад Федэральнай Рэспублікі Германіі прыняў рашэнне, якое вельмі нагадвае пра першыя крокі гітлераўскай клікі. Урад забараніў самую масавую і самую папулярную партыю ў краіне — Комуністычную партыю. Гэтае рашэнне выклікала абурэнне ва ўсіх краінах свету, ва ўсіх людзей, якія не хочуць вайны і крывавага тэрору. Масавыя мітынгі пратэсту пракаціліся па ўсёй Германіі. Працоўныя выказваюць сваё абурэнне арыштамі комуністаў.**

**І зноў, як ў гады другой імперыялістычнай вайны, працоўныя ўсяго свету ўспамінаюць словы мужнага барацьбіта супраць фашызма Юліуса Фучыка:**

**— Людзі, будзьце пільнымі!**

На здымку: **напад паліцэйскіх на памяшканне КПГ у Дзюсельдорфе. У знак пратэсту комуністы вывесілі на вокнах памяшкання нацыянальныя сцягі.**

У час АДПАЧЫНКУ

## ЦІ Ў НОГУ ІШОЎ АТРАД?

Стоячы на ўзгорку, мы аглядалі ў бінокль мясцовасць. Здалёк ішоў атрад. Чотка раздаваліся крокі салдатаў і голас афіцэра: «раз-два-тры»... «раз-два-тры»...

— Што такое? — сказаў мой таварыш, які глядзеў у бінокль. — Мне здаецца, што яны ідуць няправільна. Глядзіце, калі афіцэр гаворыць «раз», байцы ступаюць правай нагой, а пры ліку «два» — левай.

Паглядзеўшы ў бінокль, я упэўніўся, што ён правы.

— Сапраўды! А трэба наадварот.

Зацікаўленыя дзіўнай маршыроўкай, мы прыблізіліся к атраду. І што-ж? Цяпер салдаты ішлі, як трэба. Афіцэр гаварыў «раз», і яны выстаўлялі левую нагу, гаварыў «два» — выстаўлялі правую. Мы прыпыніліся ў здзіўленні.

— Няўжо афіцэр збіўся з ліку і скамандаваў няправільна.

— Не, я ўвесь час камандаваў правільна, — адгукнуўся афіцэр. Ён чуў нашу размову і вырашыў у яе ўмяшацца.

— Тады чаму-ж з узгорка мы бачылі ваш атрад, які ішоў не так, як трэба? — спыталі мы афіцэра.

Афіцэр пацiснуў плячыма.

Ці не адкажаце вы, чытач, на гэтае пытанне?

## ШАХМАТЫ

**пад рэдакцыяй майстра спорту А. СУЭЦІНА**

### ВЫХАВАЎЧАЕ ЗНАЧЭННЕ ШАХМАТАЎ

Шахматы вельмі цікавы від спорту. Кожны аматар шахматаў, ці ён пачынаючы шахматыст, ці вопытны майстар, ведае, што прываблівае яго ў шахматах. Гэта — неабсяжны палёт фантазіі, гэта — як-бы адчуванне стваральніка-мастака, які на палатне здзяйсняе свае ідэі і задумы, і, нарэшце, гэта — перамога, псіхалагічная перамога, перамога наперад вызначанай ідэі данай партыі.

Але ў кожнай партыі або ў спаборніцтвах шахматыст імкнецца не толькі да перамогі, настойліва і ўпарта ён удасканальвае сваё майстэрства, і для дасягнення гэтай мэты напружвае і развівае свае здольнасці. Гэтыя здольнасці можна падзяліць на дзве асноўныя групы: здольнасці спецыфічна шахматныя і здольнасці агульнага характару.

Да спецыфічна шахматных здольнасцей належаць шахматнае дараванне (талент), здольнасць шахматнага разліку, шахматная памяць, разуменне сутнасці шахматнай барацьбы, вопыт ігры, веданне тэорыі і г. д. Аднак недастаткова валодаць шахматным дараваннем і шахматнымі ведамі, трэба валодаць яшчэ тымі шахматнымі дадзенымі, без якіх зусім немагчымы поспех, які адпавядае ступені шахматных здольнасцей і ведаў. Гэта, перш за ўсё, **дысцыплінаванасць характару і працэсаў мыслення; гэта — здольнасць да працяглай і неаслабнай канцэнтрацыі ўважлівасці.**

Зусім зразумела, што добрай ігрой магчыма давесці партыю да выйгрышнага становішча, але потым у выніку стомленасці, хвалявання ці проста лёгкадумнай упэўненасці, што перамога, моў, забяспечана ўсёроўна, інакш гаворачы, у выніку паслаблення волі і ўважлівасці хоць-бы на некалькі хвілін, партыя, якая была выйгрышнай, дае пройгрыш.

Людзі, якія не могуць сканцэнтроўваць волю і ўважлівасць, не могуць разлічваць і на поспехі ў шахматнай ігры.

Шахматыст, які валодае настойлівай, цвёрдай воляй да перамогі, паступова прывучае сябе да неаслабнай уважлівасці. Зрывы ў яго шахматных выступленнях робіцца ўсё радзейшымі. Адначасова і ў асабістых паводзінах у жыцці ён пазбаўляецца ад правалаў у галіне ўважлівасці, ад рассеянасці. Гэта — прамы вынік уздзеяння шахматаў на псіхіку.

Гэтая асаблівасць шахматаў мае і яшчэ адну каштоўнейшую выхаваўчую ўласцівасць — яна пасłабляе і нават зусім пазбаўляе чалавека такой адмоўнай рысы характару, як **апатычнасць**, ленасць думкі, няўстойлівасць уважлівасці. За шахматнай-жа дошкай усялякае паслабленне напружанасці думкі трэба аплочваць паражэннем! Шахматысту, хоча ён або не, трэба вучыцца дысцыплінаванасці характару і працэсаў мыслення. Акрамя таго, шахматы патрабуюць **лагічнасці мыслення, актыўнасці яго, прадпрыймальнасці, вынаходлівасці, рашучасці.** Якасці, процілеглыя ўказаным — пасіўнасць, нерашучасць, баязлівасць, — не ўжываюцца з поспехам у шахматнай ігры. Не адпавядаюць духу шахматнай ігры лёгкадумнасць, дзейнічанне наўздагад. Кожны ход у шахматах павінен быць узважаны, папярэдне прадуманы. Нярэдка аднаго непрадуманага хода бывае дастаткова, каб адразу-ж згубіць партыю. Залішняя фантастыка, неабдуманасць, прадузятасць, дагматызм — не маюць права на існаванне ў шахматнай ігры. Шахматыст павінен **зыходзіць толькі са становішча рэальных абставін.**

Гэты бок шахматнай ігры мае вялікае выхаваўчае значэнне, наглядна падкрэсліваючы адказнасць за кожны недастаткова прадуманы крок.

Такія якасці характару, як самаўпэўненасць, недаацэнка працаўніка, пагардлівыя адносіны да яго, заўсёды атрымліваюць за шахматнай дошкай належнае пакаранне. І, наадварот, здаровая упартасць, самавалоданне, вытрымка, мэтанакіраваная, цвёрдая воля — усё гэта належыць да ліку цудоўных выхаваўчых уласцівасцей шахматаў.

Шахматыст не адступае перад цяжкасцямі. Любая складаная задача мае сваё рашэнне. Трэба толькі напружанне волі і настойлівасць у пошуках гэтага рашэння. Малейшае паслабленне ўважлівасці, даверлівасць, недаацэнка планаў працаўніка вядуць да паражэння.

Вось, напрыклад, выпадак з адным аматарам шахматаў з партыі, іграной у сеансе адначасовай ігры з Алёхіным. (Кечкемет, 1936 г.)



Б. Kpg1, Лb7, Лc1, Ka4, Kd2, пп: a3, c6, d4, e3, g2, h2 (11).

Ч. Kpd6, Лa8, Лc8, Ca7, Cg4, пп: a6, c7, e6, f6, g7, h6, (11).

Алёхін іграў белымі. Ход белых: 27. Kd2 — c4+

Перш, чым узяць ахвяраваную пешку, трэба было сканцэнтраваць увагу на пагрозах працаўніка. Але лёгкадумны працаўнік Алёхіна адразу-ж імкнецца выкарыстаць «промах» Алёхіна і іграе: 27....... Kpd6: c6. Пасля-ж таго, як чорныя даверліва ўзялі пешку, паследаваў нечаканы мат двума коньмі.

Прапануем чытачам знайсці і прыслаць у рэдакцыю наступныя 2 ходы, якімі даецца гэты мат.

## КРАСВОРД

Склаў А. Сянкевіч



**Па гарызанталі:** 7. Пасудзіна для прыгатавання ежы. 8. Пятля для лоўлі дзікіх жывёл. 9. Род дывана. 10. Спецыяльнасць. 12. Гукаадчувальная пласціна. 14. Авіямашына. 15. Чалавек, які займаецца капіроўкай дакументаў. 18. Вецер, які дзьме ў супроцьлеглым напрамку. 23. Планета. 24. Каштоўны цвёрды мінерал. 25. Прыток Волгі. 26. Скрынка для бюлетэняў. 27. Электрычны прыбор. 32. Беларускі народны танец. 34. Паліграфічная прафесія. 35. Супроцьстаўленне. 37. Поўднёвы плод. 39. Велізарная каменная глыба. 40. Лісцёвае дрэва. 41. Вершаваная страфа, якая складаецца з 14 радкоў.

**Па вертыкалі:** 1. Пеўчая птушка. 2. Герой грамадзянскай вайны. 3. Мінерал чорнага колеру. 4. Опера Бізэ. 5. Беларускі пісьменнік. 6. Горад у Поўночным Казахстане. 11. Вялікі французскі пісьменнік. 13. Адзнака. 16. Раздзяляльны знак у беларускай мове. 17. Характар руху расплаўленых вадкіх мас. 18. Чалавек велізарнай сілы. 19. Адрэзак часу. 20. Тайна. 21. Секцыя чыгуначнага вагона. 22. Сельскагаспадарчая прылада. 28. Прадукт, атрыманы пры варцы раслінных масел. 29. Напітак з кіслага малака на Каўказе. 30. Ахапак. 31. Геній. 33. Творчы работнік тэатра. 34. Жаночае адзенне. 36. Матэрыял для пакрыцця даху. 38. Назва манет.

### АДКАЗЫ

**на красворд, змешчаны ў № 9 часопіса**

**Па гарызанталі:** 5. Ратэрдам. 6. Балгарыя. 10. Казань. 11. Брэтань. 12. Тэрмас. 15. Шарж. 17. Краснаводск. 18. Брас. 13. Фармоза. 20. Пліса. 22. Эверэст. 23. Курагіно. 24. Фармалін. 28. Артыкул. 29. Капры. 30. Эпіграф. 31. Гама. 32. Астраўлянін. 35. Маас. 38. Сіанук. 39. Аспірын. 40. Нанкін. 41. Клайпеда. 42. Маўзалей.

**Па вертыкалі:** 1. Стэнд. 2. Пакрас. 3. Барнео. 4. Артэк. 7. Саратаў. 8. Атрафія. 9. Саранск. 13. Архангельск. 14. Астэаміэліт. 16. Жамчужына. 18. Бірмінгем. 20. Пінск. 21. Аналы. 25. Армавір. 26. Спеўнік. 27. Маравія. 33. Расада. 34. Янычар. 36. Дураў. 37. Тарле.

**Гэты нумар і ўсе наступныя будуць выходзіць з дадаткам.**


**Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ**

**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).**

**«Молодость».**
Ежемесячный литературно-общественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон 93-854.
Фармат паперы $70 \times 108^1/_8$. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7.

Здадзена ў набор 13.IX.56 г. Падпісана да друку 3.X.56 г.

АТ 06584 Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб. Заказ 657.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

# МОДЫ













1. Плацце з штапельнага палатна. Ліф з цэльнакроенымі рукавамі. Каўнер і манжэты з піке. Расклёшаная спадніца закладзена мяккімі сустрэчнымі складкамі.

2. Плацце для маладой дзяўчыны. Вельмі зручнае ў штодзённай носцы. (Выкрайка плацця даецца ў дадатку да нумара.)

3. Плацце з шаўковага крэпу, адразное па таліі, зашпільваецца зверху данізу. На ліфе спераду ад таліі застрочаны вытачкі, ззаду лёгкая зборка. Спадніца прамая, вузкая з мяккімі складачкамі ад таліі. Плацце аздоблена папярочнымі складачкамі-зашчыпамі і рэльефным арнаментам з руліка той-жа тканіны.

4. Плацце-касцюм з шарсцяной тканіны. Жакет прылягаючы. Рукавы цэльнакроеныя. На полачках падрэзы, у якія ўшыты цёмны кант, які заканчваецца бантам. Бакавыя і ніжнія часткі полачак выкраены разам. Спінка са швом пасярэдзіне. Спадніца з адзінаццаці клінняў

